31 ліпеня 2020 | № 28 (687)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 20028

**Яшчэ чумы не хапала!**

стар. 21



# Абяцаў, абяцаю, буду абяцаць!



Сяргей ПУЛЬША

**Раней пасланні кіраўніка краіны да народа і парламента гучалі ўвесну. І было зразумела, чаму яны прысвячаліся — аналізу актуальнай сітуацыі і планам на наступны год. Сёлета Лукашэнка адмовіўся ад такой традыцыі, хаця яго паслання ўвесну сапраўды чакалі — з надзеяй, што ўлада раскажа, як яна будзе змагацца з віруснай навалай і як яна будзе падтрымліваць эканоміку ў час гэтага незвычайнага крызісу.**

Не дачакаліся. У канцы красавіка Лукашэнка патлумачыў: «Сітуацыя з каронапсіхозам, інфекцыямі, ну, а потым абвешчанай пандэміяй, пагадзіцеся, ашаламляльна змяніла сітуацыю не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсім свеце. Вось уявіце прэзідэнта на трыбуне сёння. І што ён можа сказаць?»

Ён бы мог сказаць пра тое, як і чаму насельніцтва аказалася з пандэміяй сам-насам. Ён бы мог абгрунтаваць неўвядзенне каранціну. Ён мог проста патлумачыць народу сітуацыю — бо пасланне ж ён робіць да народа, праўда? Нам не было цікава, як «касмічныя караблі баронзяць прасторы Сусвету», мы хацелі даведацца, што ўлада робіць, каб захаваць нашы жыцці. Але — не даведаліся. Са словаў кіраўніка дзяржавы было зразумела — яму няма чаго сказаць.

Цяпер пасланне абвешчана на 3 жніўня. Гэтая дата — за шэсць дзён да асноўнага дня выбараў і за дзень да пачатку датэрмінованага галасавання. Відавочна, што кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка А.Р. скарыстаецца службовым становішчам і паспрабуе хаця б крышачку ўзняць свой рэйтынг. Каб потым патлумачыць, адкуль у яго ўзнікла 70% ці больш галасоў ад ЦВК. Маўляў, гэта ўсё «чароўная моц паслання», у якое паверылі людзі.

Можна было б пафантазіраваць на тэму прамовы Лукашэнкі ў Авальнай залі. Маўляў, ён скажа: «Я стаміўся, я сыходжу!» — і прызначыць новыя выбары. Але для гэтага яму не трэба пасланне — дастаткова проста зняцца з прэзідэнцкай гонкі на карысць Ціханоўскай. Менш фантастычны з утапічных іншы сцэнар: што ён з высокай трыбуны абвесціць надзвычайнае становішча і перанясе выбары — з надзеяй на тое, што «апазіцыя» звыкла перасварыцца. Але гэта варта было зрабіць раней — асабліва, калі тая ж самая апазіцыя прапаноўвала перанесці выбары з-за COVID-19. Цяпер, перад пачаткам галасавання, будзе відавочна, што правадыр спрабуе захаваць уладу любым чынам — «чапляецца за трон ссінелымі пальцамі».

Таму нас, хутчэй за ўсё, чакае гэткая маштабная прэзентацыя перадвыбарчай праграмы кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі А.Р. — той выступ, які павінен быў трансляавацца па тэлебачанні ў адведзены кандыдатам час, а не ў парламенце. І думаецца, што мы не пачуем нічога, што мы не чулі раней.

Нам, безумоўна, скажуць, што беларускі народ у 1990-я хадзіў у лапцях і без парткоў. І нам прапануюць выбраць: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу "дзевяностых", бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці» (з перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі 2015 года).




Фота www.realt.by

**Усё новае патрабуе рэформаў. І чым больш мы знаходзімся «ў застоі», тым больш карэнныя рэформы патрэбныя**

Не абыдзецца і без нараканняў на тых, хто «спрабуе разгайдаць сітуацыю і танчыць пад дудку замежных лялькаводаў». «Наша дзяржава вельмі маладая, і наша незалежнасць не ўсім па душы. Наша зямля і наш здабытак, створаны працай усяго народа, па-ранейшаму вабіць аматараў лёгкай нажывы. Таму перш за ўсё мы павінны абараніць тое, што ўжо створана» (з перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі 2015 года).

Безумоўна, будзе канстатавана, што «нядобразычлівцы прадракалі нам абвал, крах і хаос. Але мы захавалі прадпрыемствы, калектывы, працоўныя месцы. Дзейнічаюць усе сацыяльныя праграмы» (з перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі 2015 года).

Чарговым разам будзе заяўлена пра павышэнне ў наступнай пяцігодцы заробкаў дактарам і настаўнікам удвая (гэта ўжо абяцалася), і ўвогуле, «асноўная задача на бліжэйшыя пяць гадоў — давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім» (з перадвыбарчых праграм Лукашэнкі 2006 і 2010 гадоў).

І, канешне ж, «непрымірымая барацьба з карупцыяй» (з перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі любога года).

Карацей, вазьміце любую перадвыбарчую праграму Лукашэнкі за любы год — і вы нават без паслання будзеце ведаць, пра што ён скажа. Таму што гэтыя абяцанні не выконваюцца дзесяцігоддзямі, перадвыбарчыя праграмы падобныя адна на адну як блізняткі.

І сёлета наўрад ці будзе нешта новае, таму што ўсё новае патрабуе рэформаў. Прычым, чым больш мы знаходзімся «ў застоі», тым больш карэнныя рэформы патрэбныя: у эканоміцы, у кіраванні, у сацыяльнай сферы ў судовай сістэме. Гэта нечым нагадвае гарбачоўскую «перабудову» пасля брэжнеўскага «застою».

Але правесці гэтыя рэформы так, каб захаваць сённяшнюю сістэму ўлады, немагчыма. Гарбачоўская «перабудова», ініцыяваная «зверху», урэшце знесла КПСС і яе ўладу. Лукашэнка добра вывучыў гэты ўрок — і на рэформы не пагаджаецца ні пад якім соусам.

Але рэформаў ужо патрабуе народ, без іх існаваць немагчыма. І не дзіва, што ў Лукашэнкі няма (і не можа быць) адказу на пытанне «што рабіць?» Толькі абяцаць.

# Магчыма, мы ўбачым самыя масавыя пратэсты з 1996 года

**Разрыў паміж надзеямі грамадства і вынікамі ад ЦВК, хутчэй за ўсё, падштурхне беларусаў да актыўнага грамадзянскага дзеяння па абароне сваіх галасоў, лічыць старшы аналітык Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў.**



«Відавочна, што ход на аб'яднанне быў палітычна эфектыўным. Самае важнае, што гэта аб'яднанне змагло перахапіць дынаміку росту падтрымкі, якая была ў альтэрнатыўных кандыдатаў, перш за ўсё, у Віктара Бабарыкі. Гэта значыць, тое, што Святлана Ціханоўская — зусім новы ў палітыцы чалавек — стала лідарам кампаніі, не прывяло да зніжэння дынамікі. Гэта, напэўна, у палітычным сэнсе цяпер самае галоўнае», — лічыць Андрэй Ягораў.

### Цень «рукі Масквы»

Мабыць, у камандзе кааліцыі ўважліва вывучаюць гарачыя спрэчкі ў сацсетках па розных аспектах дзеянняў аб'яднаных штабоў. Прагучалі папрокі ў адсутнасці нацыянальнага складніку — Святлана Ціханоўская і Марыя Калеснікава пачынаюць звяртацца да прысутных на беларускай мове, са сцэны гучыць «Жыве Беларусь!».

«На каманду працуюць прафесійныя піяршчыкі, гэта факт, некаторыя з іх вядомыя — гэта класныя беларускія спецыялісты, гэта не нейкая знешняя каманда. З таго, што мне вядома, тут няма працы нанятых у Расіі альбо дзесьці яшчэ прафесійных паліттэхнолагаў — гэта толькі беларускія рэсурсы, па меншай меры, з моманту аб'яднання штабоў, — адзначае Андрэй Ягораў. — Самыя неадназначныя выказванні, якія выклікаюць недавер у часткі прыхільнікаў пераменаў, звязаныя з фігурай Валерыя Цапкалы, які днямі заяўляў пра магчымасць для Расіі стаць гарантам законнасці беларускіх выбараў, пра неблагія перспектывы Саюзнай дзяржавы і г.д. Акрамя таго, свой унёсак зрабіў і некаторы расійскі след у гісторыі Сяргея Ціханоўскага, які прасочваўся яшчэ раней і быў нядаўна абнародаваны — так, усё гэта ёсць і не можа не трывожыць».

«Але ў якім аспекце гэта трывожыць цяпер? Гэтыя ідэі могуць эксплуатавацца ў ключы таго, што калі ў Беларусі падчас або пасля выбараў здарыцца палітычны крызіс, усталюецца двоеўладдзе, супрацьстаянне паміж прыхільнікамі пераменаў і беларускай уладай, то можа ўзнікнуць ідэя, дапусцім, запрашэння расійскіх сенатараў, уплывовых асобаў у якасці нейкіх пасярэднікаў ці гарантаў перамоваў з беларускай уладай. Мы памятаем, чым гэта скончылася ў 1996 годзе, калі прыезд расійскай дэлегацыі на чале з Віктарам Чарнамырдзіным дазволіў Лукашэнку выйграць час і ў палітычным супрацьстаянні перамагчы парламент і Канстытуцыйны суд. Не думаю, што ёсць хоць нейкія шанцы на тое, што сённяшняя Расія можа падтрымаць дэмакратычныя перамены ў Беларусі. Такія дзеянні будуць вельмі небяспечныя і прывядуць, хутчэй, да таго, што Лукашэнка захавае ўладу», — лічыць палітолаг.

На думку Андрэя Ягорава, кааліцыя толькі ўзмацніла б свае пазіцыі, калі б «публічна акрэсліла пазіцыю па пытанні ўключэння якіх-небудзь знешніх суб'ектаў у вырашэнне палітычнага крызісу ў Беларусі». «З майго пункту гледжання, гэта зняло б вельмі шмат пытанняў, прэтэнзій і занепакоенасці, што існуюць сярод людзей, якія падтрымліваюць незалежнасць Беларусі — проста заява аб тым, што ніякія знешнія суб'екты не могуць уплываць на сітуацыю ўнутры Беларусі, што гэта выключна наша ўнутрыбеларуская справа — змены ў краіне», — сказаў Андрэй Ягораў.

### Пратэсты непазбежныя — і ўлада да іх рыхтуецца

«Байкот і агітацыя за байкот страцілі сэнс яшчэ з моманту росту выбухной папулярнасці альтэрнатыўных кандыдатаў. Тады стала зразумела, што байкот ужо не можа адбыцца, калі толькі ён не стане краевугольным каменем у стратэгіі саміх кандыдатаў. Я працягваю лічыць, што байкот быў найбольш аптымальнай стратэгіяй, але ўсё, што можа адбыцца сёння, звязана з масавым калектыўным дзеяннем. Святлана Ціханоўская, якая кажа пра тое, што нам патрэбныя ўсе галасы, займае правільную пазіцыю, цяпер важна адзінае салідарнае дзеянне, ну а паколькі лідарамі гэтага адзінага салідарнага дзеяння цяпер выступаюць аб'яднаныя штабы, то, вядома, трэба прытрымлівацца іх заклікаў», — адзначыў Андрэй Ягораў.

«Пратэсты, якія вызначаюцца па характары грамадскага ўздыму, выглядаюць усё больш і больш непазбежнымі. Надзеі людзей падаграваюцца цяпер агітацыйнай кампаніяй, людзі пачынаюць верыць у магчымасць пераменаў праз выбары, яны спадзяюцца, што змогуць абараніць свае галасы, — сказаў палітолаг. — Відавочна, што ўлады не збіраюцца арганізоўваць справядлівае галасаванне. Разрыў паміж надзеямі і вынікамі, якія будуць абвешчаныя ЦВК, хутчэй за ўсё, выштурхне масы на вуліцы ў актыўнае грамадзянскае дзеянне па абароне сваіх галасоў. Гэта будуць мірныя пратэсты, але, хутчэй за ўсё, яны распаўсюдзяцца на ўсю Беларусь. Магчыма, мы ўбачым самыя масавыя пратэсты з 1996 года.

Вядома, улада рыхтуецца да падаўлення гэтых пратэстаў, але складана прагназаваць, як гэта ўсё будзе разгортвацца, у якім рэжыме. Многае залежыць ад таго, што стануць гаварыць і рабіць лідары кампаніі падчас гэтых пратэстаў. Якія патрабаванні яны будуць выстаўляць уладам, калі гэта будзе масавы і працяглы пратэст, да чаго яны будуць заклікаць людзей, наколькі людзі будуць давяраць ім ці не давяраць... Бо можа быць і адмова ад барацьбы за вынікі галасавання, аб'ява аб пераходзе да рэалізацыі ідэі рэферэндуму, стварэння палітычнай партыі».

Але ёсць верагоднасць і таго, што кааліцыя «будзе патрабаваць ад уладаў прызнання несапраўднымі вынікаў выбараў, запатрабуе прызначыць новыя выбары пры перaглядзе складу ЦВК — масавыя пратэсты тады сур'ёзна ўзмоцняць іх пазіцыю на магчымых перамовах з уладай». «Складана сказаць, як гэта будзе. Але калі пратэсты будуць разгромленыя, калі штабы не падтрымаюць хвалю, то, вядома, гэта выкліча новую масавую дэпрэсію ў грамадстве», — лічыць Андрэй Ягораў.

Палітолаг адзначае, што сённяшняя сітуацыя ў краіне робіць «вельмі складаным доўгатэрміновы прагноз».

«Хацелася б пагадзіцца са сцвярджэннямі аб тым, што цяпер мы бачым перараджэнне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, якое прывядзе да сістэмных зменаў у краіне. У мяне, на жаль, няма пакуль падставаў для такога роду меркаванняў. Але ўлады зрабілі ўсё магчымае для таго, каб дэлегітымізаваць гэтыя выбары ўжо сёння, што падрывае легітымнасць сістэмы ў цэлым. Можа быць пасля падзей у дзень галасавання і некалькі наступных мы ўбачым і нараджэнне новага парадку: парытэт сілаў і перамовы з уладай пра новыя выбары. Цяпер жа на гэтым кароткім прамежку да выбараў важны той грамадскі ціск, які аказваецца на выбарчыя камісіі. Сістэма выглядае маналітнай, але калі частка сябраў камісій і старшыняў адмовіцца ад дзеянняў у звыклай логіцы і пачне падыгрываць прыхільнікам пераменаў, то можа пачацца каскадны эфект абвалу. Гэта было б яшчэ адным фактарам дэлегітымізацыі выбараў і сур'ёзна б падмацоўвала сцвярджэнне аб іх незаконнасці і несправядлівасці», — сказаў Андрэй Ягораў.

**thinktanks.by, пераклад НЧ**

# Матэматыка ад прэм'ера: 5,2% менш за 5,0%

**Прэм'ер Беларусі Раман Галоўчанка ў нядзельным тэлеэфіры патлумачыў «шырокім эканамічным колам», што ўрад кантралюе сітуацыю з цэнамі на спажывецкім рынку, а заявы пра хуткі запуск друкаркі не паддаюцца тлумачэнню.**



Фота www.twimg.com

Для большай праўдападобнасці сваіх слоў прэм'ер злёгку змяніў правілы матэматыкі.

«Сітуацыя з цэнамі ў нас абсалютна спакойная. Мы знаходзімся ў прагнозных параметрах, нават ідзем ніжэй прагнозу. Задача, якая была пастаўлена перад урадам і Нацыянальным банкам, — гадавы рост спажывецкіх цэн не павінен перавышаць 5%», — сказаў Галоўчанка.

«З пачатку года мы маем індэкс росту спажывецкіх коштаў 103,2», — сказаў прэм'ер.

З пачатку года — гэта 6 месяцаў, а ніяк не год. А ў чэрвені інфляцыя ў гадавым вылічэнні вырасла да 5,2%. Якім чынам інфляцыя ў 5,2% ідзе «ніжэй прагнозу» ў 5%, і як можна параўноўваць гадавую інфляцыю і паказчык за 6 месяцаў — гэтыя пытанні варта адрасаваць прэм'еру.

«Прычым па кантраляваных цэнах ён (рост коштаў. — Рэд.) яшчэ ніжэй», — працягнуў Галоўчанка. У чэрвені, паводле звестак Белстата, гадавы рост рэгуляваных дзяржавай коштаў склаў 6,7%.

«Вядома, былі складаны перыяд, калі з-за разрыву ланцужкоў пастаўшчыкоў пачалі ўзнікаць інфляцыйныя навесы, пачалі падымацца кошты. Вы памятаеце, ажыятажны попыт узнікаў на імбір, лімоны, грэчку. Таму прыйшлося тэрмінова гасіць гэтую сітуацыю і рэгуляцыйнымі, і эканамічнымі метадамі», — распавёў ён пра тое, як дзейнічаў урад Сяргея Румаса.

Прэм'ер нагадаў, што была пастаўлена задача забяспечыць парадак на коштавым рынку, нягледзячы на ўсе крызісныя з'явы.

«І ён цяпер забяспечаны. Мясная прадукцыя патаннела практычна на 10% (на 0,5% у гадавым выражэнні паводле Белстата. — рэд.), а таксама малочная прадукцыя, хлебабулачныя вырабы і гэтак далей. Цяпер ёсць невялікі рост па плодаагародніннай прадукцыі: цытрусавыя, яблыкі, якіх быў неўраджай у мінулым годзе, бульба старая скончылася, а новая пакуль не вырасла, капуста, цыбуля — гэта ўсё імпартныя тавары», — дапусціў яшчэ адну маніпуляцыю Галоўчанка.

Сезонныя кошты (на плодаагароднінную прадукцыю) у чэрвені паказалі рост 21,5% у гадавым выражэнні — гэта «трошкі» ў разуменні прэм'ера.

«Але гэта абсалютна сезонная з'ява, збяром наш ураджай — тут жа кошты ўпадуць. Таму я з упэўненасцю кажу, што ўрад сітуацыю на коштавым рынку кантралюе», — запэўніў ён.

Хоць са статыстыкай і матэматыкай «больш, менш, роўна» ў прэм'ера не ладзіцца, затое ў плане іншага Раман Галоўчанка выглядае малайцом. «Я б хацеў скарыстацца сітуацыяй і звярнуцца да шырокіх эканамічных колаў, якія вельмі актыўна каментуюць дзеянні ўрада, нагнятаюць напружанасць, што ўсё дрэнна, што ўрад цяпер уключыць друкарку, хаця ва ўрада няма такіх паўнамоцтваў, пачне цяпер усім нарошчваць заробкі, будзе эмісія, будзе зноў курс долара расці. Для чаго гэта робіцца? Навошта людзям уліваецца такая інфармацыя ў галаву, на каго працуюць людзі, якія кожны дзень або праз дзень нагнятаюць гэтую напружанасць? У мяне асабіста адназначнага адказу на гэтае пытанне няма. У нас хапае грошай у бюджэце для таго, каб выконваць усе свае сацыяльныя абавязацельствы і праграмы развіцця».

**afn.by, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ніжэй, яшчэ ніжэй!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы чарговым разам упэўніваемся ў справядлівасці афарызму Астапа Бендэра пра тое, што «фінансавая прорва — прорва, у якую можна падаць бясконца». Улада зазнае раздваенне асобы. З аднаго боку, ёй нельга сказаць, што ў нас складанасці, асабліва ў передвыбарчы час. З другога боку — ад рэалій нікуды не падзенешся.**

Вось, напрыклад, праект Асноўных напрамкаў бюджэтна-фінансавай і падатковай палітыкі на 2021–2023 год. У гэтым дакуменце гаворыцца, што сёлета выдаткі дзяржбюджэту, паводле ацэнкі Мінфіна, складуць 26,8 мільярда рублёў. Даходы ж па выніках года будуць значна ніжэйшыя за запланаваныя — у лепшым выпадку, яны складуць 21,2 мільярда. Такім чынам Мінфін прагназуе дэфіцыт дзяржбюджэту на 5,6 мільярда рублёў.

Цікавае і абгрунтаванне гэтага дэфіцыту. Ён узнікае дзякуючы шэрагу прынятых у гэтым годзе рашэнняў Лукашэнкі, якія не былі прадугледжаныя пры зацвярджэнні бюджэту на 2020 год, у тым ліку накіраваныя на «падтрымку арганізацый рэальнага сектара эканомікі», то-бок хранічна стратных прадпрыемстваў.

Эканамічны партал officelife адзначае, што для фінансавання дэфіцыту могуць быць задзейнічаныя сродкі знешніх дзяржаўных пазык, якія прыцягваюцца для рэалізацыі інвестыцыйных праектаў, сродкі ад вяртання гарантый і рэшткі сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Але задзейнічанне ў бягучым годзе значнага аб'ёму рэшткаў сродкаў дзяржбюджэту для фінансавання выдаткаў істотна скарачае рэсурсныя магчымасці ў 2021 годзе.

Нагадаем, што ўпершыню за шмат гадоў бюджэт на 2020 год і так быў звярстаны з дэфіцытам у амаль мільярд рублёў, аднак цяпер, згодна з прагнозамі спецыялістаў, дэфіцыт павялічваецца больш чым у 5 разоў. Атрымліваецца, што і ніякіх запланаваных «падвышэнняў заробку бюджэтнікаў» у агляднай будучыні быць не павінна, што б ні казалі ўлады ў перадвыбарчых лозунгах.

Канешне, грошы трэба аднекуль узяць. І, як ужо неаднаразова пісалася, самая простая і надзейная крыніца — залезці ў кішэню грамадзянам.

Узяць хаця б сітуацыю з нафтай і бензінам. Усе мы ведаем, што ў першым-другім квартале гэтага года кошт расійскай нафты быў ледзьве не адмоўным. Дый цяпер барэль Urals каштуе каля 43 долараў. Падавалася б, кошт бензіну павінен таксама падаць, але ж не.

Па звестках каманды Picodi.com, якая сачыла за зьмяненнямі кошту бензіну ў свеце, Беларусь па цэнах на паліва — у лідарах у Еўропе і СНД. У большасці краін Еўропы і СНД цэны на бензін у першым паўгоддзі 2020 года зніжаліся. Самае вялікае падзенне было зафіксавана ў Азербайджане (-28%), Украіне (-15,4%) і Румыніі (-14%). У Польшчы і Літве кошт паліва знізіўся на 10,2% і 7,5% адпаведна. Тым часам у нафтаздабываючай Расіі кошт бензіну вырас на 0,8%, у Казахстане — на 1%, а ў Таджыкістане — на 4,5 %. Але самае вялікае падаражанне зафіксавана ў Беларусі — +12,4% ад мінулага года.

Між тым, грошай патрабуе не толькі бюджэт: фінансавая прорва ўсё ж бясконцая. Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, колькасць стратных прамысловых арганізацый у студзені-траўні 2020 года ў параўнанні са студзенем-траўнем 2019-га павялічылася з 297 да 383, на 29%! То-бок, амаль на трацінy!

Пры гэтым сума чыстых стратаў усіх стратных прампрадпрыемстваў вырасла ў 6,4 разу, да 1 млрд 540 млн рублёў, а на адну стратную арганізацыю — у 5 разоў, да 4 млн 21 тыс рублёў.

Чысты прыбытак усіх арганізацый прамысловасці склаў на 1 чэрвеня 2020 года 1 млрд 64,1 млн рублёў (на 67,9% менш, чым у студзені-траўні 2019 года), прыбытак да падаткаабкладання — 1 млрд 486 млн рублёў (на 63,1% менш).

Насамрэч, толькі ўявіце: прыбытак УСЁЙ беларускай прамысловасці знізіўся амаль на 70%! Ці не прыйшоў час казаць пра самы натуральны крызіс?

**Прычынаў можна знайсці багата. Аднак узнікае пытанне: што рабіць? Пакуль што не робіцца нічога. Нашы прадпрыемствы «гоняць ВУП на склад» у спадзяванні, што «ўсё прадасца пасля каронавіруса». Але адмыслоўцы зазначаюць: «карона» — гэта надоўга**

Канешне, можна спісаць гэтыя страты на становішча сусветнай эканомікі, якая перажывае крызіс попыту на сыравінныя тавары. На каронавірус, з-за якога былі закрытыя межы, а значыць, знізіўся экспарт. Некаторыя наракаюць, што ў нас дагэтуль не створаныя роўныя ўмовы гаспадарання для беларускіх і расійскіх прамысловых прадпрыемстваў — пры гэтым ужо 20 гадоў Саюзнай дзяржаве.

Прычынаў можна знайсці колькі заўгодна. Аднак узнікае пытанне: што рабіць? Пакуль што не робіцца нічога. Нашы прадпрыемствы «гоняць ВУП на склад» у спадзяванні, што «ўсё прадасца пасля каронавіруса». Але адмыслоўцы зазначаюць: «карона» — гэта надоўга. І той жа трактар, які два гады прастаяў без руху, хай і ў гаражы, становіцца прыдатны хіба што на металалом.

А дзяржава спрабуе зрабіць выгляд, што «ўсё нармальна», і зрабіць гэта такім чынам, каб мы пра рэальнае становішча спраў не даведваліся. 21 ліпеня, напрыклад, прайшло пасяджэнне Нацбанка, на якім, як мы нядаўна пачулі, да кіраўнікоў дзяржаўных і камерцыйных банкаў была даведзена рэкамендацыя адмовіцца ад размяшчэння рэкламы ў недзяржаўных СМІ.

Практыка не новая. Улада з рэгулярнасцю, вартай лепшага прымянення, забараняе даваць рэкламу незалежным СМІ ад 2000 года, і паўтарае гэтыя рэкамендацыі кожны раз перад выбарамі і ў часы крызісу. Напрыклад, падобныя рэкамендацыі былі агучаныя ў 2011 годзе, калі здарыліся выбух у метро і трохразовая дэвальвацыя беларускага рубля.

Шмат хто адзначае, што ў 2019 годзе на банкаўскі сектар, паводле розных звестак, прыходзілася ад 7 да 18% аб'ёму інтэрнэт-рэкламы на медыйным рынку. А значыць, нібыта, што ўлада эканамічным ціскам прымушае недзяржаўныя СМІ сцішыцца. Але, можа быць, усё па-іншаму. Дзяржаўнай прапагандзе, напэўна, таксама не хапае грошай, і такім чынам улады спрабуюць перавесці фінансавыя патокі ад рэкламы ў падуладныя ёй СМІ.

З іншага боку, у такіх рэкамендацыях ёсць і добрая навіна. Гэта азначае, што людзі, на якіх разлічаная рэклама банкаў, праўладную прапаганду не глядзяць і не чытаюць.

Пытанне толькі ў тым, ці пагодзяцца камерцыйныя (!) банкі з такімі рэкамендацыямі. Раней «рэкамендацыі» Нацбанка ўспрымаліся як закон. Але ўжо былі і выпадкі, калі камерцыйныя банкі ігнаравалі рэкамендацыі рэгулятара. Усё ж не справа Нацбанка вырашаць, куды камерцыйны банк патраціць рэкламны бюджэт, праўда?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Анархіст і сацыяльны актывіст выйшаў на волю пасля 17 сутак арышту, але не прабыў па-за кратамі і двух дзён — яго закратавалі яшчэ на 15 сутак.**

Нагадаем, што Дзмітрый Паліенка выйшаў на волю 25 ліпеня. Там ён адбываў 15 сутак за заклік да ўдзелу ў флэшмобе салідарнасці і два дні — у межах не заведзенай яшчэ крымінальнай справы за абразу ганцавіцкага міліцыянта. У выніку высветлілася, што за абразу міліцыянта крымінальнай справы заводзіць не будуць, матэрыялы расследавання накіраваныя ў Першамайскі РУУС Мінска для пачатку адміністрацыйнага працэсу ў адносінах да Паліенкі па арт. 9.3 КаАП (абраза). Апроч таго, у актывіста засталіся яшчэ 15 недаседжаных сутак за парушэнне хатняй «хіміі», а таксама пратакол за непадпарадкаванне міліцыянтам, па якім яшчэ не было суда.

Як чалавек, што адбывае абмежаванне волі, Паліенка 27 ліпеня пайшоў адзначацца ў Першамайскі РУУС Мінска, дзе яго затрымалі і зноў пасадзілі на 15 сутак. Amnesty International прызнала Паліенку вязнем сумлення.

## Павел Севярынец

**Рашэннем ліпеньскага Сойма Партыі БНФ палітык будзе ўганараваны памятным знакам імя Віктара Івашкевіча. Гэтым знакам Партыя БНФ традыцыйна адзначае арганізатараў найбольш значных і гучных вулічных акцый.**



Уганараванне Севярынца — гэта прызнанне яго вызначальнай ролі як арганізатара і натхняльніка серыі масавых акцыяў пратэсту, што адбыліся ў Беларусі напрыканцы 2019 года і былі скіраваныя супраць пагрозаў «паглыбленай інтэграцыі» і страты беларускага дзяржаўнага суверэнітэту.

Гэты знак быў заснаваны БНФ у памяць пра выбітнага палітыка-франтаўца Віктара Івашкевіча, арганізатара шматлікіх дэманстрацый і шэсцяў, які пайшоў з жыцця ў 2013 годзе. Сёлета ўзнагарода ўручаецца ў сёмы раз.

Цяпер Павел Севярынец знаходзіцца ў зняволенні ў ізалятары часовага ўтрымання на вуліцы Акрэсціна ў Мінску. Сам Павел перадаў, што яго, імаверна, выпусцяць толькі 21 жніўня. Такім чынам ён адбудзе 75 сутак арышту — амаль тры месяцы, што параўнальна з адказнасцю па крымінальных справах. Таму праваабаронцы абвясцілі Севярынца палітычным зняволеным.

У ранейшыя гады знак імя Віктара Івашкевіча ўручаўся лідару грамадскай арганізацыі «Альтэрнатыва» Алегу Корбану, кінарэжысёрцы і грамадскай актывістцы Вользе Мікалайчык, лідару «Маладога Фронту» Змітру Дашкевічу, ветэрану нацыянальна-адраджэнскага руху Ніне Багінскай, чальцу БНФ і заснавальніку крамы symbal.by Паўлу Белавусу.



## Лідзія Ярмошына

**Зразумела, кіраўнічка ЦВК у гэты перыяд вызначылася многімі антыдэмакратычнымі «ініцыятывамі». Акрамя іншага яна прапанавала... зрабіць удзел у выбарах для кандыдатаў платным!**

Падчас выступу перад актывам БРСМ у Мінску Ярмошына прапанавала ў будучыні кандыдатам на пасаду прэзідэнта ствараць фінансавыя фонды для ўдзелу ў выбарах. На яе думку, грашовыя ўнёскі пацвердзілі б «сур'ёзнасць намераў» кандыдатаў. Паводле яе, у краіне «дайшлі да таго, што ўдзельнічаць у выбарах могуць беспрацоўныя, людзі без адукацыі, якія вядуць незразумелы лад жыцця».

На думку Ярмошынай, так адбываецца, бо выбары ў Беларусі бясплатныя. «Мяркую, нам трэба пераходзіць да прынцыпу, які выкарыстоўваюць нашы суседзі – Украіна ці Расія. Напрыклад, ва Украіне, каб удзельнічаць у выбарах, трэба ўносіць выбарчы заклад, калі не праходзіш у другі тур, грошы залічваюцца ў бюджэт. Але ў нас краіна небагатых людзей. Нельга рабіць выбары толькі для алігархаў. Таму я прапаную: кандыдат павінен не ўносіць заклад, а стварыць фінансавы фонд... Гэта дазволіць правесці адбор і не дапусціць да выбараў дэкласаваных элементы», – сказала яна.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК




# Логіка кульгавых рашэнняў

**Нягледзячы на пастаянныя хваласпевы адзінству беларускага народа, галоўнай яго характарыстыкай быў і застаецца раскол. Таму, хто хоча дакапацца да яго першапрычыны, не варта марнаваць час на пошук вінаватых, а тым больш на пошук знешніх і ўнутраных ворагаў, што зайздросцяць поспехам рэспублікі-партызанкі.**

### Заканамернасць Парэта

На побытавым узроўні раскол лёгка выявіць у адносінах да адзінага палітыка (АП). У 1994 годзе ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў, паводле інфармацыі ЦВК, за яго прагаласавалі 44,82% выбаршчыкаў. Але разам з сацыяльна блізкімі кандыдатамі (Вячаслаў Кебіч, Аляксандр Дубко і Васіль Новікаў) доля прасавецкіх беларусаў у той лёсавызначальны год склала 72% пры яўцы 78,97%. Нацыянальна-дэмакратычных кандыдатаў (Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч) падтрымалі 22,73% выбарцаў.

Вось такая электаральная рэальнасць ва ўмовах адносна дэмакратычных выбараў. За чвэрць стагоддзя яна, безумоўна, змянілася, аднак не прынцыпова.

Як і належыць аўтарытарнаму лідару, АП абапіраецца на сацыяльную перыферыю — гэта значыць, на тых, чый матэрыяльны дабрабыт наўпрост залежыць ад шчадротаў дзяржавы. У першую чаргу, гэта бюджэтнікі, сярод якіх сілавікі — значная, але далёка не адзіная прафесійная групоўка, якая забяспечвае нязменнасць улады.

Не зграшу супраць ісціны, але ўнёсак настаўнікаў будзе больш істотным. І справа не ў тым, што з настаўнікаў фарміруюцца ўчастковыя выбарчыя камісіі. У адрозненне ад «публічнай» эліты, чые прадстаўнікі звяртаюцца да грамадства як да гледачоў, настаўнікі ў любым грамадстве складаюць аснову «сацыяльнай» эліты, асноўная функцыя якой палягае ў перадачы ўзораў паводзін (быць прыкладам).

Прычыну расколу беларускага грамадства, зафіксаванага ЦВК у 1994 годзе, варта шукаць не ў палітыцы, а ў культуры. Культура «большасці» — гэта культура падданства з яго арыентацыяй на вяршэнства дзяржавы над асобай, патэрналісцкую апеку над ёй. Адпаведна, культура «меншасці» — гэта пакуль яшчэ толькі культура грамадзянства з яе ўстаноўкай на прыярытэт асобы ў адносінах да дзяржавы.

Каштоўнасныя расколы не пераадольваюцца кампрамісам, таму пераможца на першых і апошніх дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах атрымаў усё. Таму і не паўстаў дыялог паміж пераможцамі і пераможанымі. Таму на выбарах усіх узроўняў пасля 1996 года перамагаюць выключна праўладныя кандыдаты, прычым перамагаюць з неверагодна высокімі працэнтамі.

Усё лагічна. Тыя, хто не здольны наладзіць дыялог унутры расколатага грамадства, імітуюць адсутнасць расколу. У выніку адбываецца разрыў камунікацый, і цэлае (нацыя) не фарміруецца. Наадварот, два яе базавыя сегменты павольна, але няўхільна дрэйфуюць адзін ад аднаго. Нешта падобнае здарылася 335–175 мільёнаў гадоў таму са звышкантынентам Пангея (ад старажытнагрэчаскага — πᾶν — «увесь», «цэлы» + Γαῖα «Зямля»).

У кожнай частцы расколатага грамадства фарміруюцца свае сэнсы, свае ўяўленні пра дабро і зло. Адзінае, што іх аб'ядноўвае, — жаданне спажываць. Але вось у пытаннях вытворчасці такога адзінства не назіраецца. У Беларусі, зрэшты, як і ў любым кутку свету, дзейнічае заканамернасць, выяўленая італьянскім эканамістам і сацыёлагам Вільфрэда Парэта яшчэ ў 1897 годзе: «20 працэнтаў намаганняў даюць 80 працэнтаў выніку».

Але беларусы не былі б беларусамі, калі б не паспрабавалі скарэктаваць універсальную заканамернасць. Тыя, хто дае 80% выніку, пазбаўлены палітычнай суб'ектнасці. Іх прадстаўнікі не дапускаюцца ў органы ўлады, а любыя спробы туды патрапіць законным чынам прыраўноўваюцца да крымінальнага злачынства. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба.

Стагнацыя беларускай эканомікі, дзесяцігоддзе якой будзе адзначацца ў канцы года, — заканамерны вынік скарэктаванай заканамернасці Парэта.

### Зарплата павінна быць зробленай

«Але Ісус, ведаючы думкі іх, сказаў ім: усялякае царства, якое раздзялілася само ў сабе, апусцее; і ўсялякі горад альбо дом, які раздзяліўся сам у сабе, не выстаіць» (Евангелле ад Мацвея, 12:25).

Адна з прычын такога сумнага выніку палягае ў кульгавых рашэннях, на прыняцце якіх асуджаныя эліты расколатых грамадстваў.

Спецыфіка рашэнняў, якія прымаюцца ва ўмовах расколатага грамадства, палягае тым, што яны заўсёды аднабаковыя. Таму любое паслядоўнае рашэнне рана ці позна натыкаецца на супраціў той часткі грамадства, чые інтарэсы не былі ўлічаныя пры яго выпрацоўцы. Праблема пагаршаецца тым, тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, што «такое грамадства непазбежна кіруецца бюракратыяй, якая па самой сваёй сутнасці валодае абмежаванымі каналамі інфармацыі — гэта значыць, з'яўляецца абстрактнай сістэмай кіравання».

Адсюль вынікае схільнасць абапірацца на паказчыкі. Але паколькі ніякая сукупнасць паказчыкаў не здольная адлюстраваць складанасць гаспадарчага жыцця, то працэс іх вынаходства, які аднойчы распачаўся, спыніцца не можа. Такім чынам, барацьба за паляпшэнне ўліку і кантролю, у тым ліку за кошт вынаходства новых паказчыкаў, ператвараецца са сродку ў мэту бюракратычнай дзейнасці. Але і гэта яшчэ паўбяды.

Любое аднабаковае рашэнне не можа быць канчатковым. Ці не гэтым тлумачыцца папулярнасць савецкага анекдота пра ваганні разам з лініяй партыі. А савецкаму чалавеку не даводзілася здзіўляцца таму факту, што лінія партыі пастаянна вагалася.

З лініямі, што выпрацоўваюцца ў Палацы Незалежнасці, рэгулярна адбываюцца аналагічныя гісторыі. Звернемся да прэс-рэлізу «Нарады з кіраўніцтвам эканамічнага блока краіны» (23 ліпеня). Цытую: «Людзі на прадпрыемстве — іх нельга выкідаць на вуліцу, але яны павінны працаваць. Іх трэба забяспечыць працай». Здавалася б, што тут можна тлумачыць двакяка? Але працягну цытаванне: «Перад намі стаяць абсалютна зямныя задачы. Чалавек павінен хадзіць на працу, атрымліваць годную зарплату — зробленую, а прадпрыемствы — эфектыўна развівацца».

Якім чынам кіраўнікам варта павышаць эфектыўнасць вытворчасці, не звальняючы пры гэтым лішніх людзей, АП не патлумачыў. Але ён верыць, што зарплата павінна быць зробленай, а прадпрыемствам ніхто і нішто не перашкаджае эфектыўна развівацца.

### Пра 5-ю брыгаду і фінансавую падтрымку

Выбары скончацца. Якія вынікі абвесціць ЦВК — адгадаць нескладана. Але назапашаныя за чвэрць стагоддзя праблемы застануцца, і вырашаць іх па-ранейшаму будуць спрабаваць з дапамогай кульгавых рашэнняў. Не выключана, што «цэнтр цяжару» пры гэтым зрушыцца ў бок «меншасці». Разлічваць на «большасць» не даводзіцца. Усё, на што здольныя яе прадстаўнікі, — гэта выконваць каманды. Прычым элементарныя. Напрыклад, падлічваць галасы і назіраць за іх падлікам ва ўчастковых выбарчых камісіях.

Прыклад ад 20 ліпеня. АП, калі прызначаў Алега Краўчанку амбасадарам у ЗША, задаў пытанне, годнае каментара: «У Амерыцы давядзецца пачынаць усё спачатку. Справішся?»

Забаўна. Дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Злучанымі Штатамі Амерыкі былі ўсталяваныя ў 1991 годзе. Гэта ж колькі і якіх кульгаючых рашэнняў спатрэбілася прыняць, каб праз тры дзесяцігоддзі «пачынаць усё спачатку»?!

А якую задачу АП паставіў перад Краўчанкам? Адказ змяшчаецца ў наступным пажаданні: «Вельмі многае будзе залежаць ад тваёй працы. Гэта мы яшчэ дэталёва потым абмяркуем, праз міністра я перадам некаторыя рэчы. Нам патрэбныя будуць падтрымка і дапамога ад Злучаных Штатаў Амерыкі, асабліва ў гэты перыяд у фінансавай сферы (выдзелена. — Рэд.) у сувязі з каронавірусам. Там у нас нядрэнныя перспектывы».

Але пра якія перспектывы можна казаць пасля адкрыццяў АП і сакратара Савета Бяспекі Андрэя Раўкова падчас наведвання 5-й асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння ў Мар'інай Горцы?

# Удзел ці байкот: што больш эфектыўна?

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

**Спрэчкі наконт таго, ці варта прыходзіць на ўчасткі для галасавання альбо свядома ігнараваць гэтую працэдуру, разгарнуліся задоўга да гэтай электаральнай кампаніі. Цяпер падобна на тое, што збольшага знойдзены нейкі кансэнсус, хоць і далёка не поўны.**

Пры вырашэнні пытання пра тое, прыходзіць на ўчасткі альбо байкатаваць, трэба зыходзіць найперш з яснай ды зразумелай рэчы: выбараў у Беларусі няма. Ёсць адно палітычная кампанія пад умоўнай назвай «выбары». Прычым калі раней можна было казаць, што «ёсць толькі імітацыя выбараў», дык сёлета кіроўны рэжым не надта іх і імітуе. Робяцца рэчы, якія нават для лукашэнкаўскай Беларусі з'яўляюцца беспрэцэдэнтнымі.

Не зарэгістравалі па надуманых зачэпках трох асноўных прэтэндэнтаў: Віктара Бабарыку, Валерыя Цапкалу і Сяргея Ціханоўскага (апошняга дзеля гэтай мэты пасадзілі на «суткі», каб пазбавіць магчымасці падаць дакументы ў Цэнтрвыбаркам). Пасля Ціханоўскага затрымалі ўжо на пікеце, у якасці даверанай асобы сваёй жонкі Святланы, і яму, як і Бабарыку, «шыюць» крымінальную справу, а Цапкала мусіў з'ехаць з Беларусі ў выніку пагрозы трапіць за краты. Агулам у гэтую кампанію, паводле праваабаронцаў, ужо былі затрыманыя больш за тысячу чалавек, у тым ліку блогеры і журналісты.

Каб ужо ўсе дакладна ўцямілі, што выбараў у Беларусі няма, — Цэнтрвыбаркам абмежаваў колькасць назіральнікаў на ўчастках 5 чалавекамі (дый гэта з намерам, каб гэтыя пяцёра былі пераважна ад праўладных арганізацый). Запрашэнне ў АБСЕ накіравалі са спазненнем (няма сумневаў, што наўмысна). Інфармацыйнага цэнтру сёлета ўпершыню на «выбарах» не будзе.

Зрэшты, усё пералічанае ў двух папярэдніх абзацах — упершыню. Такім чынам, цяперашняя ўлада фактычна і не хавае: ніякіх выбараў не чакайце — мы ладзім відавочны непрыхаваны фарс.

Дый ці можа нехта ўявіць, што выходзіць старшыня (хоць і незаконная) Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына і абвяшчае: па выніках галасавання перамагла Святлана Ціханоўская (ці хаця б тое, што ў першым туры не пераможа ніхто, таму павінен адбыцца другі)? Або скажа: выбары не адбыліся, паколькі не было яўкі, трэба прызначаць паўторныя? Гэта са сферы фантастыкі, прычым ненавуковай, фэнтэзі нейкае (маецца на ўвазе, на роўным месцы, а ў выніку нейкага форс-мажору ўсё магчыма). Не дзеля таго ў 1996 годзе напярэдадні «рэферэндуму» Аляксандр Лукашэнка, з наўпроставым і найгрубейшым парушэннем Канстытуцыі, прызначаў яе старшынёй ЦВК, каб яна праводзіла сапраўдныя рэферэндумы і выбары.

Выбараў у лукашэнкаўскай Беларусі няма. Адпаведна, і прыход на ўчасткі, і байкот — гэта толькі тактычны ход, які сам па сабе, у адрыве ад агульнай стратэгіі, не мае ніякага значэння.

То ў чым усё ж перавагі прыходу на ўчасткі і хібы байкоту?

Папярэдні досвед паказвае, што байкот не ўдавалася арганізаваць нават у «палаткавую» кампанію — пры тым, што яна ў людзей вялікай цікавасці ніколі не выклікала. Але ж яўку заўсёды тым ці іншым чынам нацягвалі. Што казаць пра кампанію прэзідэнцкую, якая цікавасць якраз амаль заўсёды выклікала, і менавіта падчас яе ў бягучым стагоддзі былі пікі палітычнай актыўнасці ў грамадстве. І абедзве Плошчы здарыліся менавіта пасля гэтых кампаніяў.

Выключэнне — прэзідэнцкая кампанія 2015 года, дзе практычна не было апазіцыйных кандыдатаў. То-бок, па сутнасці той жа байкот. Такая кампанія — проста падарунак рэжыму: усё прайшло ціха ды гладка, не было не тое што масавых забурэнняў, але і наагул нейкага колькі-небудзь істотнага напружання ў грамадстве. Пры гэтым і без нацягвання яўка рэальна перавышала 50%.

Нават выключна псіхалагічна, калі чалавека ўгавораць байкатаваць «выбары» — хіба гэта мабілізуе яго на нейкі актыўны пратэст? Наўрад ці — прынамсі, мала каго. Больш тыповым было б — ну ладна, не пайду, паляжу на канапе ці ад'еду куды-небудзь.

Што сёлета ўзрушыла грамадства? Прычым да такой ступені, што Лукашэнка страшэнна напалохаўся і адмовіўся нават ад хаця б мізэрнага выгляду трымання дэмакратычных нормаў ды роўных умоваў? Не байкот. Шматгадзінныя чэргі выстройваліся па тое, каб паставіць подпіс за альтэрнатыўных прэтэндэнтаў. На пікеты збіраецца багата людзей не толькі ў сталіцы, але па райцэнтрах.

Менавіта гэта дае падставы разлічваць на электаральную перамогу, гэта значыць, на атрыманне рэальнай большасці незалежна ад таго, якія лічбы намалююць у выбаркамах. І мабілізаваць людзей на тое, што свае галасы, свой выбар трэба абараняць, — магчыма, больш эфектыўна, чым байкот.

У свой час аналітык і публіцыст Юрый Дракахруст, калі пісаў пра «аксамітныя рэвалюцыі», якія прайшлі тады ў Югаславіі, Грузіі і Украіне (першы Майдан, «памаранчавая рэвалюцыя») — усе яны грунтаваліся на аспрэчванні афіцыйна абвешчаных сфальсіфікаваных выніках выбараў — зазначаў, што, у адрозненне ад беларускай сітуацыі (тады разглядаліся толькі «выбары» 2001 года), ва ўсіх выпадках гаворка ішла пра «скрадзеную перамогу». І падкрэсліваў: «Не пра скрадзеныя выбары, а пра скрадзеную перамогу».




Далейшыя падзеі ў Беларусі гэта пацвердзілі: у 2006 і 2010 былі свае Плошчы; рэальных выбараў пасля прызначэння Ярмошынай не было ніводнага разу, выніковыя лічбы выдаваліся, якія трэба дзейнай уладзе. Дакладна немагчыма сказаць, ці насамрэч Лукашэнка выйграваў у першым туры (паводле сацапытання НІСЭПД, яго вынік быў 51% — гэта ўваходзіць у памылку выбаркі). Аднак пра тое, што нейкі кандыдат атрымаў галасоў больш за Лукашэнку, казаць не выпадала. Цяпер прэтэндэнты ў кандыдаты агульнымі намаганнямі разварушылі краіну, а яшчэ больш дапамог у гэтым сам Лукашэнка: паводзінамі да каронавіруса і эканамічнай бесперспектыўнасцю. Лукашэнкава дыктатура сапраўды надакучыла, і гэта бачна няўзброеным вокам.

Падчас дыскусіі «Стратэгія прэзідэнцкай кампаніі: байкот ці ўдзел?», наладжанай цэнтрам «Еўрапейскі дыялог», нават філосаф і метадолаг Уладзімір Мацкевіч, апалагет і натхняльнік байкоту, на ім не настойваў (як і ніхто іншы з удзельнікаў). Аднак ён прапанаваў іншае: «У нас ва ўсіх адзіная мэта — адхіленне ад улады Лукашэнкі. І «выбары» — няхай сабе і ў двукоссі — гэта момант, калі рэжым робіцца слабым. Я б не супрацьпастаўляў прыход на ўчасткі, байкот, або рванне бюлетэняў (кідаць у скрыню палову бюлетэня, а другую палову пакідаць сабе — гэта прапанова вядомага адваката, а цяпер юрыста БХК Гары Паганяйлы. — В.К.). Няхай кожны робіць, як лічыць патрэбным».

З майго гледзішча, гэта непрымальна. Ну, то-бок, калі нехта захоча гэтак зрабіць, дык, вядома, ніхто яму не забароніць, але гэта лепш звесці да мінімуму.

Увогуле, пазіцыя павінна быць як мага больш кансалідаванай. Варыянт «хто ў плот, хто ў гарод» — ніяк не найлепшы. Непрыход на ўчастак, псаванне бюлетэняў ці штосьці падобнае — ужо не ўнёсак у скарбонку электаральнай перамогі. Заклікаць людзей варта, каб прыходзілі ды галасавалі за Святлану Ціханоўскую. І настройваць на тое, што свой выбар давядзецца бараніць.

Як зрабіць, каб электаральная перамога сталася бачнай?

На той жа дыскусіі «Еўрапейскага дыялогу» прадстаўнік штаба Бабарыкі, юрыст Максім Знак адзначыў: «Трэба галасаваць за Святлану Ціханоўскую і карыстацца ўсімі альтэрнатыўнымі метадамі падліку галасоў».

Інтэрнэт-праект «Голас» (belarus2020.org), куды прапануюць дасылаць фотаздымкі сваіх выбарчых бюлетэняў, ужо запушчаны. Але, як таксама было сказана, — «зразумела, што не кожная бабулька на вёсцы ведае, як гэтым карыстацца». Я б дадаў, што далёка не толькі бабулькі і далёка не толькі на вёсцы, але і ў райцэнтры, і ў абласным, і ў сталіцы. Рабіць такія рэчы, канешне, трэба, аднак трэба і разумець, што каэфіцыент карыснага дзеяння будзе абмежаваным.

Экзіт-полы ў Беларусі забароненыя, а сацыялогія наогул задаўленая. У інтэрнэце ўдосталь насмяяліся з «Клуба рэдактараў» на БТ, дзе раілі тым, хто не верыць у высокі рэйтынг Лукашэнкі, «замовіць сацапытанне ў акрэдытаваным цэнтры». Гэта ў якімсьці такім, дзе высмоктваюць невядома з якога пальца падтрымку Лукашэнкі ў 76% (бо іншага кшталту ў Беларусі не акрэдытоўваюць).

Дык вось, вельмі важна — і нават, на маю думку, неабходна — было б замовіць сацапытанні якой-небудзь аўтарытэтнай сацыялагічнай службе. Не зважаючы на яе акрэдытацыю, бо рэпрэзентацыйна апытваць можна і па тэлефоне, прычым для гэтага не абавязкова знаходзіцца ў межах Беларусі.

Пажадана было б зрабіць два апытанні: да «выбараў» і пасля іх. У першым я раю два пытанні: «Каго б Вы жадалі бачыць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь?» — і, акрамя кандыдатаў, унесці ў спіс тых, каго па розных прычынах адмовіліся зарэгістраваць: Віктар Бабарыка, Мікола Статкевіч, Валерый Цапкала, Сяргей Ціханоўскі. Другое — «За каго Вы збіраецеся прагаласаваць 9 жніўня?» — тут ужо толькі спіс кандыдатаў (не настойваю на канкрэтна такіх фармулёўках, мо спецыялісты зробяць іх больш сацыялагічна карэктнымі, але сэнс такі).

Другое апытанне, ясна, — з высвятленнем, за каго прагаласавалі.

Калі апытанні пакажуць электаральную перамогу Святланы Ціханоўскай на «выбарах» (або ў дадатак каго іншага з незарэгістраваных) — гэта станецца моцным аргументам. Не для рэжыму, зразумела, — прыкладна ўяўляю, як гэта будзе падаваць прапаганда, але ж да яе цяпер мала хто прыслухоўваецца, — для людзей. Тым больш, што людзі ж не ў вакууме знаходзяцца, ведаюць, каго падтрымалі самі, іх сваякі, сябры ды суседзі.

І нават калі не пакажуць аднaзначную перамогу ў першым туры — такой, нагадаем, не было і ў Лукашэнкі на вышыні яго папулярнасці: на першых і апошніх прэзідэнцкіх выбарах, якія рэальна былі выбарамі, ён набраў 45% — аднак ён істотна апярэдзіў тагачаснага кандыдата ад улады Вячаслава Кебіча, які набраў 17%. То як будзе па сапраўдных выніках першага туру хаця б не поўная перамога, а істотная перавага — людзі пабачаць: нас шмат, і нас значна больш за прыхільнікаў Лукашэнкі. Гэта станецца добрым падмуркам для далейшых дзеянняў.

Якраз свабодныя і сумленныя выбары — галоўная мэта Святланы Ціханоўскай і аб'яднанага штабу ў прэзідэнцкай кампаніі. «Успрымайце мяне як сцяг таго, што ў нас будуць новыя выбары», — абвясціла яна, у прыватнасці, на шматлюдным мітынгу ў Віцебску. Выбары плануюцца ў бліжэйшай перспектыве (максімум праз паўгода) пасля сыходу ад улады Лукашэнкі.

# Трэба ўстаць з канапы і нешта зрабіць

Дзіяна ПІНЧУК

**Цяпер у Беларусі 25 палітычных зняволеных і дзясяткі адміністрацыйна арыштаваных за ўдзел у мірных акцыях пратэсту. Грамадзянская супольнасць рэагуе на любыя рэпрэсіі небывалай салідарнасцю. «Новы Час» пагаварыў з сям'ёй, якая з маленькім дзіцём на руках дапамагае валанцёрам збіраць перадачкі ў СІЗА палітвязням, піша ім лісты і дапамагае родным.**



Фота Дзіяны Пінчук

### «Бо мы адчулі, што трэба рабіць хоць што-небудзь»

Павел, Марына і маленькая Ганна — сям'я з Мінска, якая да сёлетняй выбарчай кампаніі не асабліва ўключалася ў грамадскі актывізм. Марына ў дэкрэтным адпачынку, а Павел працуе кіроўцам. Як яны распавядаюць, паваротным момантам стала затрыманне ў жывым эфіры блогера Сяргея Ціханоўскага і ягонай каманды ў Гродне 29 траўня на выбарчым пікеце. Яны не маглі застацца ўбаку «пры такой яўнай і відавочнай несправядлівасці».

«Мы проста адчулі, што трэба ўстаць з канапы і пачаць рабіць хоць што-небудзь. Калі мы гэта зразумелі, то ўсё закруцілася адно за адным. Першапачаткова мы сталі валанцёрамі ў "Краіне для жыцця". Калі многіх пераcаджалі, мы ўбачылі, што там катастрафічна не хапае людзей. Нас гэта вельмі здзівіла: мы думалі, што там лішак людзей, а аказалася, што ўсё наадварот. Таму мы прынялі рашэнне, што трэба неяк дапамагаць, а не сядзець і глядзець збоку.

Першапачаткова мы распаўсюджвалі ў інтэрнэце прававыя веды, каб людзі ведалі, куды ім звяртацца ў выпадку парушэння іх правоў. А калі пасля масавых затрыманняў 19 чэрвеня ў Мінску Валанцёрская служба "Вясны" абвясціла масавы набор назіральнікаў за судамі, то мы далучыліся да іх, маніторылі суды», — распавядаюць Павел і Марына.

### Еднасць дае моц вытрымаць многае

Марына распавяла пра свой першы досвед назірання за судамі і чым ёй запомніўся суд над Паўлам Севярынцам.

«Упершыню за судовымі працэсамі я назірала ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска. Мы прыехалі з самай раніцы, каб даведацца расклад. Дзіўна было тое, што ў 9 гадзін раскладу яшчэ не было, а праз 15 хвілін мы даведаліся, што ўжо кагосьці асудзілі. Мы бачылі, як супрацоўнікі суда падмянялі кабінеты, каб валанцёры не паспявалі трапіць на суд да чалавека праз пошукі патрэбнага кабінета, які не пазначаны ў раскладзе.

Мне запомніўся выпадак у Маскоўскім судзе, дзе судзілі хлопца, якога затрымалі 19 чэрвеня, падчас сустрэчы з сябрамі. Калі мы, валанцёры, прыйшлі да яго на суд, ён быў вельмі рады, што застаўся там не адзін. На пасяджэнні ён не прызнаў сваю віну. Калі мы чакалі ў калідоры рашэнне суда, то я ўсім сэрцам хацела, каб яму далі мінімальнае пакаранне. Не ведаю, чаму, але яму далі ўсяго пяць базавых штрафу. Для мяне, па адчуванні, гэта была маленькая перамога.

А вось суд над Паўлам Севярынцам значна адрозніваўся ад судоў простых людзей, якіх затрымалі на вуліцы. Было дастаткова шмат людзей, якія прыйшлі падтрымаць Паўла і ягоную жонку Вольгу. Сам суд быў па Skype. І мяне вельмі зачапіла жорсткасць сакратароў, аховы ў судзе. Суд быў прызначаны на 11 гадзін. Калі сувязь з Паўлам з'явілася на некалькі хвілін раней, то Вольга Севярынец паспрабавала падысці да манітора, каб пабачыць свайго мужа. Сакратарка адрэагавала на гэта крыкамі, каб яна села, і адразу адключыла сувязь. Пасля ніхто так і не ўбачыў на тым судзе, бо манітор быў павернуты да суддзі. Тады яго асудзілі на чарговыя 15 сутак.

Хочацца данесці да людзей, што ў назіранні за судамі няма нічога страшнага, што ніхто вас не запіша ў нейкую кнігу ворагаў народа. Але ваша прысутнасць дае велізарную падтрымку тым, каго судзяць. Уявіце сябе на іх месцы, што б вы адчувалі, калі б судовы каток расціскаў вас у адзіночку. Магчыма, вы б зараклися больш не ўдзельнічаць ва ўсяляких акцыях. А калі пабачыце людзі, вы адчуваеце, што ў гэтым вар'яцкім доме вар'яты — не вы».

### «Людзі гэтыя — героі»

«Потым валанцёры "Вясны" папрасілі дапамогу па перадачах палітычным зняволеным. Мы таксама адгукнуліся, запоўнілі анкету. Цяпер мы ўсёй сям'ёй дапамагаем з перадачамі. Ужо перадавалі ў СІЗА №1 на вуліцу Валадарскага ў Мінску палітвязням Дзмітрыю Фурманаву, Дзмітрыю Казлову («Шэраму Кату») і іншым», — кажа Марына.

Акрамя таго, як распавядаюць Павел і Марына, яны пастаянна пішуць лісты падтрымкі. Нядаўна напісалі лісты Сяргею Ціханоўскаму, Дзмітрыю Фурманаву, «Шэраму Кату», Паўлу Севярынцу, Дзмітрыю Папову. І яны ўжо атрымалі адказ з «Валадаркі» ад гродзенца Дзмітрыя Фурманава, якога затрымалі з блогерам Сяргеем Ціханоўскім 29 траўня на выбарчым пікеце ў Гродне.

«Калі прыйшоў ягоны ліст, у нас дома былі ўпадніцкія настроі. Мы бачылі, як улада заціскае гайкі, і ў нас ужо апускаліся рукі. І Дзмітрый Фурманаў надаў нам сіл. Па агульным настроі ліста відаць, што хлопцы ў турмах не сталі слабейшымі духам. Ён піша, што ўсё роўна перамога будзе за намі, нягледзячы на тое, што адбываецца цяпер. Гэта вельмі радуе», — распавядае Павел.

«Падтрымка лістамі палітычных зняволеных можа стаць нават вырашальным момантам у нашай агульнай барацьбе. Яны могуць выйсці і сказаць: "Ведаеце, да нас прыйшло паўтара ліста, таму мы расчараваныя ў краіне, жывіце тут і радуйцеся як-небудзь без нас", альбо наадварот: "Мы атрымалі мільён лістоў, адчулі каласальную падтрымку, гэта значыць, што мы — народ, нас шмат, і перамога будзе за намі", — і працягнуць быць лідарамі нашай барацьбы. Людзі гэтыя — героі, і сёння нам трэба зрабіць усё, каб палітвязні ведалі і адчувалі, што яны героі, што пра іх не забыліся», — дадае Павел.

### «А калі нехта можа зрабіць больш, няхай зробіць»

Як адзначаюць Марына і Павел, існуе шмат праяваў салідарнасці, кожны можа нешта зрабіць.

«Нам трэба ўставаць з канапы і рабіць хоць што-небудзь. Калі кожны зробіць хоць самую драбніцу, напрыклад, дапаможа з перадачамі, напіша ліст, паназірае за судамі, зробіць рэпост важнай інфармацыі, то ўжо разам атрымліваецца вялікае дзеянне. Трэба, каб кожны зрабіў свой максімум. Калі нехта можа напісаць ліст, хай напіша. Калі нехта можа зрабіць больш, няхай зробіць больш. Калі нас 97%, то дзе 9.215.000 рэальных дзеянняў?

Самае простае — пісаць лісты. Гэта можна рабіць у любых умовах і абставінах. Напісалі ліст, сфатаграфавалі, зрабілі пост з гэтым, — гэта ўжо распаўсюд інфармацыі і важнае дзеянне».

### «Размаўляйце са сваімі роднымі»

«Размаўляйце са сваімі роднымі і блізкімі, распавядайце ім пра рэальную сітуацыю», — рае Марына.

Акрамя гэтага, як адзначаюць Павел і Марына, яшчэ вельмі важная маральная падтрымка сем'яў зняволеных па палітычных матывах.

«Мы імкнёмся падтрымліваць сваякоў палітвязняў. Напрыклад, сям'ю Паўла Севярынца. Ён цяпер за кратамі, а тут у яго засталася жонка з дзіцём, невялікай крамкай на плячах і мноствам штрафаў. Таму лічым, што вельмі важна падтрымаць Вольгу Севярынец у такой сітуацыі. Напрыклад, у іх ёсць сайт kroplia.by, дзе можна купіць тыя ж паштоўкі для палітвязняў. Цікава, што яна сама сядзіць і падпісвае ўручную паштоўкі, якія ў яе замовілі, каб адправіць іх зняволеным», — распавядае Марына.

### «Улада баіцца менавіта кансалідацыі грамадства»

«Тое, што наш народ цяпер кансалідуецца, — гэта вельмі добра, а падаўленне гэтай кансалідацыі сілай цалкам ляжыць на сумленні ўладаў. Таму што нідзе ў цывілізаваным свеце праявы салідарнасці не забароненыя. Сітуацыя цяпер выглядае так, што трэба любымі шляхамі кансалідавацца: не трэба цкаваць тых, хто прапануе стукаць у рондалі. Нават стуканне ў рондалі — гэта дзеянне аб'яднання, не кажучы ўжо пра велапрабегі і іншае. Бачна, што ўлада баіцца менавіта кансалідацыі грамадства, нават людзей, якія проста едуць і звоняць у званочкі на сваіх роварах або наляпляюць налепку на сваё аўто. Таму любыя формы салідарнасці і кансалідацыі вітаюцца цяпер, а любыя формы апатыі і абыякавасці — лютыя ворагі. Кожнае наша дзеянне — яно небескарыснае, як кажуць тыя, хто толькі сядзіць і ные. Бескарысна — ныць. Паглядзіце, колькі шуму паднялі людзі. І гэта не можа застацца без пазітыўных наступстваў ні ў сусветнай прасторы, ні ў Беларусі», — разважае Павел.

### Стаць валанцёрам і дапамагаць валанцёрам

Мы распыталі каардынатарку Валанцёрскай службы «Вясны» Марфу Рабкову, як уключыцца ў валанцёрскі рух праваабаронцаў і якая дапамога цяпер больш за ўсё патрэбная:

«Далучыцца да валанцёраў можна ў любы момант некалькімі даступнымі спосабамі. Па-першае, як гэта часта і бывае, зацікаўленыя людзі пішуць нам наўпрост у сацсеткі: Фэйсбук, Instagram, Telegram, "УКантакце". Другі спосаб — гэта запаўненне валанцёрскай анкеты. Яшчэ адным інструментам далучэння з'яўляецца наведванне нашых адукацыйных мерапрыемстваў, якіх на сённяшні дзень, на жаль, стала менш у сувязі з пандэміяй, але мы разлічваем аднавіць іх увосень. Калі чалавеку падабаецца, то мы падтрымліваем з ім сувязь і паступова ўключаем у валанцёрскую працу.

Што да формаў дапамогі, то цяпер найбольш актуальныя — дапамога ў назіранні за мірнымі сходамі, за судовымі працэсамі над рэпрэсаванымі грамадзянамі, дапамога рознага роду па юрыдычных пытаннях. Цяпер усё ж такі на парадку дня — назіранне за выбарамі. Гэтая палітычная кампанія сапраўды ўскалыхнула беларускае грамадства. Мы бачым гэта па той вялікай колькасці зваротаў людзей з усёй краіны, якія гатовыя ўключыцца ў працу на ўчастках для галасавання».

«Акрамя перадач, што безумоўна патрабуе выдаткаў сіл і часу, існуе яшчэ адна вельмі важная форма салідарнасці, якая займае не так шмат часу — напісанне лістоў. Трэба разумець, што чалавек у зняволенні адрэзаны ад знешняга свету. Усе яго зносіны абмежаваныя спецыфічным кантынгентам — сукамернікамі, кантралёрамі ізалятара, следчымі, аператыўнікамі і ў лепшым выпадку — адвакатам. Атрымліваючы лісты, зняволены нібы прасякае акно на свабоду. Ён разумее, што пра яго не забыліся, што яго падтрымліваюць. Падтрымка лістамі і паштоўкамі ўплывае на сілу духу і не дазваляе зламаць чалавека ментальна. Гэта надзвычайна важна ў такой сітуацыі, бо адна з галоўных задач заключэння пад варту — зламаць чалавека маральна і прымусіць даць неабходныя для следства паказанні.

Таксама можна (папярэдне папярэдзіўшы каардынатара, каб не прадубляваць дзеянне) аформіць падпіску на газеты і часопісы. Не ва ўсіх камерах ёсць тэлевізар, не заўсёды ёсць працоўнае радыё, таму чэрпаць інфармацыю няма адкуль, і газеты стануць глытком свежага паветра не менш, чым лісты».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (167)
(Ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# Вольга Гапеева: «Паэзія — гэта маўчанне найвышэйшага парадку»

**Яе зборнік «Граматыка снегу» стаў паэтычнай кнігай 2017 года па версіі Радыё Свабода, а леташняя «Чорныя макі» ўвайшлі ў кароткі спіс прэміі імя Наталлі Арсенневай. Вялікія нізкі яе вершаў з'яўляюцца на старонках літаратурных выданняў Нямеччыны, Чэхіі, Славеніі, Польшчы і многіх іншых краінаў. Сама аўтарка апошнім часам з розных прычынаў рэдка бывае дома. Нават не бачыла яшчэ свой новы вершаваны зборнік «словы якія адбыліся».**

**З паэткай, перакладчыцай, выкладчыцай Вольгай Гапеевай гаварыла Валянціна Аксак.**

***— Шаноўная спадарыня Вольга, віншую Вас з новай паэтычнай кнігай «словы якія адбыліся». Ці паспелі ўжо патрымаць яе ў руках, жывучы цяпер далекавата ад выдавецтва і радзімы?***

— Дзякуй за віншаванні, спадарыня Валянціна. На жаль, пакуль я не трымала кнігу ў руках,



але выдавец (Зміцер Вішнёў) абяцаў даслаць мне яе поштай, так што, спадзяюся, тыдні праз два пабачу яе і дакрануся да гэтага новага папяровага цела.

***— Апошняя Ваша кніга паэзіі — самая аб'ёмная. У ёй больш за шэсць друкаваных аркушаў. Прытым, што папярэдняя — «Чорныя макі» — выйшла толькі год таму. Выглядае, што ў Вас цяпер — асаблівы творчы перыяд, якога не мелі на радзіме. Што спрые Вашаму поспеху ў аўстрыйскім Грацы?***

— Гэта пэўная ілюзія, таму што кніжка пачала складацца раней, чым я летась у кастрычніку прыехала ў Грац. Нават больш за тое. Некаторыя вершы пісаліся ў той жа перыяд, што і вершы з «Чорных макаў», але я наўмысна не хацела ўключаць у «Чорныя макі» іншыя вершы, таму што для мяне яна — такая адмысловая кніжка, «прысвечаная» пэўнаму перыяду і пэўным стасункам. Але мне здаецца, што пачынаючы з верасня 2017 года я сапраўды неяк больш усвядомлена працую і, можна сказаць, больш думаю пра сябе як пра аўтарку, чымся, скажам, як пра навукоўку ці яшчэ кага.

***— Крытык Наста Грышчук, рэцэнзуючы Вашы «Чорныя макі», назвала Вас інтэлектуальнай паэткай. Як Вы ўспрымаеце падобную ацэнку? Ці мае для Вас значэнне ў вершах гэтае размежаванне паміж рацыянальным і эмацыйным, «мужчынскім і жаночым»?***

— Каментаваць словы крытыкаў мне б не хацелася, думаю, гэта не мая задача. Тым больш у кожнай чытачкі ці крытыка можа быць сваё ўспрыманне і свая інтэрпрэтацыя паэзіі. Ужо не першы раз я чую абсалютна супрацьлеглыя меркаванні пра адзін і той жа верш або пра маю паэзію ўвогуле: для адных яна — дэпрэсіўная або меланхалічная, для іншых — стракатая і яркая. Я вельмі цешуся, што навучылася абстрагавацца ад таго, хто што кажа, хаця гэта было вельмі няпроста.

Для сябе я вызначыла такое размежаванне ў паэзіі: ёсць вершы, якія адгукаюцца ўва мне, якія ўваходзяць са мной у нейкі рэзананс і яны вібруюць на тых частотах, якія я магу адчуць і ацаніць. І ёсць іншыя — якія не выклікаюць такіх вібрацый. Але гэта не значыць, што верш кепскі, проста мы з ім існуём на розных частотах. Калі я гэта зразумела, зрабілася прасцей дыхаць, таму што так мне сталася лягчэй разумець або прыняць тое, што іншыя людзі могуць любіць вершы, якія мне падаюцца нецікавымі.

Наконт полавай прыналежнасці аўтараў — магу сказаць адно, што для мяне істотна падтрымліваць жанчын, я маю на ўвазе: перакладаць ці запрашаць да ўдзелу ў нейкіх праектах ці проста маральна падтрымліваць, рабіць бачным іхнюю дзейнасць, але любіць можна ўсё што заўгодна — напрыклад, я люблю Кабаясі Іса, хоць ён і мужчына.



Фота www.livelib.ru

***— Што канкрэтна Вы ўкладваеце ў азначэнне інтэлектуальнай і эмацыйнай паэзіі? Ці залежыць яно ад узроўню адукацыі, жыццёвых абставінаў? Ці гэта прыроджаныя асаблівасці творчае асобы?***

— Ужо не сакрэт, што ёсць эмацыйны інтэлект, і я цешуся, што пра яго пачалі гаварыць, рабіць бачным і важным эмацыйны складнік нашага жыцця. Таму для мяне ідэальным ёсць іхняе спалучэнне, тым больш, што калі гэта сапраўды нешта інтэлектуальнае, яно не можа не выклікаць эмоцый, і наадварот — трапна выказаныя эмоцыі зачароўваюць сваёй мудрасцю.

***— Вы шмат камунікуеце з сучаснымі замежнымі літаратарамі. Якой Вам бачыцца актуальная беларуская паэзія на фоне еўрапейскай і ўсясветнай?***

— Я думаю, што з нашай паэзіяй усё добра. З ёй было ўсё добра і раней, скажам, калі я пачынала сваю літаратурную кар'еру, і я заўсёды лічыла, што паэзія ў Беларусі мацней за прозу. Наша праблема ў тым, што літаратура як прафесійная дзейнасць — абсалютна выключаная з эканамічнага сектару, і стаўленне грамадства да літаратуры, асабліва да паэзіі, такое, што гэта нейкае хобі, што ты займаешся гэтым у свой вольны час. І так і ёсць у нашых умовах. Канешне, я цудоўна ведаю, што амаль ніхто не можа жыць толькі з паэзіі ў іншых краінах таксама, але там прынамсі ты маеш падтрымку ад фундацыяў, ад дзяржавы.

***— Вы — прафесійная лінгвістка, кандыдатка навук, дацэнтка, актыўна валодаеце некалькімі мовамі і шмат перакладаеце. Да таго ж працяглы час жывяце за мяжой. Але з кожнай новай кнігай дэманструеце ўсё большую заглыбленасць у стыхію роднай мовы. Што яна для Вас — беларуская мова?***

— Беларуская мова для мяне — мой пачатак паэзіі, мой дом.

***— Творчасць на мове, якая належыць да ліку так званых малых, не гарантуе шырокага прызнання. Патрэбныя пераклады, якія не заўсёды перадаюць паўнату аўтарскага «я» і натуральную поліфанію мовы арыгіналу. У Вас няма спакусы пачаць пісаць на нейкай іншай мове?***

— Спакусы няма, але гэта атрымліваецца натуральным чынам. Я не думаю пра тое, каб пераходзіць на іншую мову, аднак ёсць некалькі вершаў, якія пачаліся на ангельскай ці нямецкай, а дапісваліся на беларускай, гэта вельмі цікавы досвед, асабліва для мяне як для лінгвісткі і перакладчыцы. І часам мне «крыўдна», што вось на нейкай іншай мове не перадаць таго, што ёсць па-беларуску, але бывае і так, што пераклад можа нешта раскрыць і зрабіць бачным нейкі чароўны момант іншай мовы. Але я не буду адмаўляць, што адны вершы больш пасуюць для перакладу за іншыя, што ёсць вершы, якія я вельмі люблю па-беларуску, але ў перакладзе яны быццам менш «вострыя», быццам і не мае.

***— На вокладцы Вашай новай беларускай кнігі чытаем верш:***

*«калі прыходзіць яна —*
*прыходзіць мова*
*тая якую нідзе не вучаць*
*з якой прачынаешся аднойчы*
*і з таго часу толькі на ёй*
*і маўчыш».*

***Гэтае маўчанне «толькі на ёй» ці ёсць вынікам маўлення на ўсіх астатніх? Ці нешта іншае, што не залежыць ад месцажыхарства?***

— Думаю, гэта ўжо нават і не пра мову, гэта такі іншы ўзровень, калі мова ў звыклым разуменні адпадае. Цяпер быццам няма патрэбы нешта тлумачыць, пра нешта пытацца. Усведамленне прыйшло, і цяпер хочацца болей маўчаць, і паэзія — гэта такое маўчанне найвышэйшага парадку.

***— Якім на адлегласці Вам бачыцца цяперашняе пандэмічнае літаратурнае і ўвогуле культурнае жыццё ў Беларусі?***

— Збольшага наша літаратурнае жыццё падобнае на тое, што і ў іншых краінах, таму што праз вірус усе чытанні і выступы адмененыя, фестывалі перавезеныя ў анлайн і г.д. Добра, што ў Беларусі таксама змаглі хутка пераключыцца на рэжым анлайну — цяпер будзе больш і нашай літаратуры на прасторах інтэрнэту.

***— І — «пра злобу дня»… Жывучы далёка ад Беларусі — ці сочыце за падзеямі ў ёй? Ці пераймаецеся бягучым момантам, выбарамі і ўсім астатнім, што з імі звязана?***

— Канешне, пераймаюся, хаця я свядома не чытаю навінаў ніякіх, але заўсёды ёсць людзі, якія мне распавядаюць пра апошнія падзеі. І ведаеце, я думала, што з часам, можа, прывыкну, — не, не атрымліваецца, кожны раз жахаюся і не магу зразумець, як такое магчыма...

# Беларуская Біблія



Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

***

*У твар не помню аніводнае бярозы*
*І воблака ніводнага не помню.*
*Яны мялі па небе і шумелі,*
*і то запальваліся, то хмурнелі.*
*Закрыю вочы…*
*І бярозы, і таполі,*
*і хмары з навальніцай, і аблокі*
*зліваюцца, цякуць, ляцяць, шумяць.*
*Не помню твару аніводнае бярозы*
*і воблака ніводнага не помню.*

***

*Сняцца мне затанулыя вербы*
*І дарогі пяшчанае дно.*
*Я без іх столькі шчасця не меў бы,*
*я памёр бы ў лякарні даўно,*
*калі б толькі, глядзеўшы ў сцяну,*
*не сыйшоў на Дняпро, на Дзвіну…*
*За дзяцінства, за шчасце чапляюся,*
*дзе і вогнішча, і сябры,*
*за пясок берагоў на Дняпры,*
*за стагі, дзе ад буры хаваюся.*
*Я кудысьці спаўзаю, тану*
*і трымаюся за траву,*
*за русалак хісткую ціну,*
*за вяроўку гнілых каранёў,*
*за апошнюю нітку гусіную,*
*за сівое тваё павуцінне!*

### Не спі, калі сонца заходзіць

*Падняў і панёс мяне сон.*
*Гаспадыня мне наўздагон:*
*— На захадзе сонца*
*не варта спаць… —*
*Лячу я! Жніво пада мною.*
*А цела маё жывое*
*засталося на лаўцы ў той хаце.*
*Туды, небасхіл дзе палае,*
*лячу і варон абганяю.*
*У захапленні душа анямела.*
*І весела мне адлятаць,*
*і страшна, аднак, губляць*
*вакно, дзе пакінуў я цела…*

### Беларуская Біблія

*Сонца маё не заходзіць,*
*неба маё не чарнее,*
*вечна ў акне вечарэе.*
*Людзі ў двары сядзяць,*
*ціха на захад глядзяць,*
*у адлюстраванні ракі — птушкі ляцяць.*
*Шукае пад вербамі нешта*
*брат мой, які не старэе,*
*сябра, які не сталее,*
*свішча ў развалінах вечна.*
*Вечна ляжыць на стале,*
*не засыхае мой хлеб,*
*і малако не скісае.*
*Бацька вечна газету чытае,*
*нешта празрыста мігціць,*
*гэта няшчасная маці*
*вечна на кухні сцірае*
*кашулю адзіную бацькі,*
*адзіную маю вопратку,*
*каб да ранку прасохла.*
*Вечна палае ў печы*
*сырое бярозавае палена,*
*тлее даўжэй за Чарнобыль.*
*Пад шаты зялёнай таполі*
*навекі прыйшла Алена.*

***

*Белае воблака ў сіняй вадзе*
*бачу, дадому калі вяртаюся*
*і на канапе старой засынаю,*
*белае воблака ў сіняй вадзе…*

*А на кухні ляжыць на цыраце*
*язь у кальчузе сваёй залатой*



Фота Веранікі Шнэк

*з барвянымі плаўнікамі,*
*нібы «Слова пра Ігараў паход».*

*Поўны таз серабрыстых плотак*
*з крапівой прахалоднай упераменшку,*
*белых грыбоў цэлы груд на стале, —*
*і шчаслівыя нашы ўсмешкі.*

*Наплываюць ніцыя вербы,*
*сумны бакен мігціць у тумане.*
*Адзінока шчасцем праняты,*
*на старой засынаю канапе.*

***

*Дай мне ўсё! Багацейшым не стану.*
*Усё бяры! Я не стану бяднейшым.*
*Над балотам заплача каня,*
*ноччу стане пясок халаднейшым.*

*Хутка вербы нахіліць нягода,*
*закапаюся ў стог з галавой.*
*Ёсць у шчасця ў запасе дрыгота,*
*як і ў змроку лятаючы вой…*

***

*Ведаеш, хто я такі*
*з перабітай рукой,*
*у вопратцы недарэчнай нягеглы?*
*Намеснік дырэктара сіняга неба.*
*Галоўны бухгалтар варон.*
*Дырыжор прыдняпроўскага*
*хора жабак у маі.*
*Я парад журавоў*
*з вышыні агароджы прымаю!*

### Вершы пра бязважкасць

*Я помню звон той у вушшу*
*ды разам з дзіўнай весялосцю.*
*Ад крамы крокі ў тры вішу —*
*бязважкасць раптам мяне ўзносіць.*
*І я смяюся…*
*Бохан хлеба*
*Мяне не адпусціў у неба.*

### За Воршай

*Ішоў цягнік ад слупа да слупа.*
*Чакалі ў цемры сустрэчны з Прагі.*
*Доўга плакалі жабы ў канаве.*
*Лёс ізноў шаргатаў, скрыгатаў.*
*Прапускалі бярлінскі. Стаялі*
*у цішы анямеўшых палёў.*
*Заліваўся тупік салаўём!*

# Бацькі́



Вячаслаў КАЗАКЕВІЧ

### Шляхціц

*Жыў калісьці беларускі шляхціц*
*між балот аршанскага павету,*
*ён сварыўся на зуброў касматых*
*і крычаў «пся крэў» на іх пры гэтым.*

*Хваляваў паненак у касцёле,*
*пару вершаў помніў па латыні,*
*на кані сваім скакаў на волі*
*па слаце ды ў далі залатыя.*

*То з казакамі ляцеў на Кракаў,*
*то ў Смаленску з ляхамі буяніў…*
*А яго валошкавы фальварак*
*неаднойчы зарастаў бур'янам.*

*Страпянаўся шляхціц над лукою,*
*адказаць сваёй душы хацеў бы,*
*што тым дрэвам не дае спакою*
*і навошта сам жыве на свеце?*

*Рассякаў да кораня бярозку,*
*потную схіляў са стогнам шыю*
*і маліў аб чымсьці Матку Боску,*
*рускую Заступніцу Марыю.*

*Потым зноў гуляў ён і хваліўся,*
*насміхаўся, малады гарэза,*
*быццам ведаў, што, як сам — такім вось*
*горла паспяшаюць перарэзаць…*

*Маці Боская! Кажу так рэдка,*
*але сёння ціха пакланіўся:*
*пашкадуй, шапчу, аршанца-продка,*
*за яго нашчадка заступіся.*

### Прапажа

*Па гравійцы нясецца конь аглушальны,*
*а на небе сонца ўжо не знайсці.*
*П'яны дзядзька ў драбінах і бацька п'яны,*
*і за імі хлапчо на каленках тырчыць.*

*Спатыкаецца конь… Калёсы разбітыя!*
*Месяц качае тварам збялелым.*
*Ён у ранах, але жывы — не забіты,*
*пад дубам хлапчук сядзіць ацалелы.*

*Ён глядзіць на кювет — з хрупасцення*
*раслінаў*
*На карачках паўзуць, узнімаюцца цені…*
*Вось каня ў аглоблі яны засунулі,*
*і пад пугай гарачай у цемру зляцелі!*

*Бачу зорны мурашнік у далёкіх вышынях,*
*чую, лезе пад бок халаднюшчы дзядоўнік.*
*Ці ўзгадваў хто пра мяне? Ці пакінулі*
*назаўсёды ў дарозе — не помню.*

***

*Неістотна, які народ,*
*неістотна, краіна якая —*
*адзін і той жа заўсёды кот*
*з вакна за табой назірае.*

*Не варухне сваёй галавой,*
*ён ведае гэта даўно —*
*разявака адзін і той*
*глядзіць у яго вакно.*

*Зоркі на небе раскідае чорт!*



Фота Адама Глобуса

*Але не хвалюйся, Божа:*
*будзе марыць пра вуліцу кот,*
*па доме ўздыхаць падарожны.*

### Бацькі

*У хаце, роднай для Тоні і Сцёпы,*
*у хаце, якая знікла са свету —*
*тлусты кулеш прыпраўляюць кропам*
*і аглушальна смажаць катлеты.*

*Не заўважаюць адсутнасці печкі,*
*сценаў з выявамі сваякоў,*
*плённа шукаюць ў хатняй аптэчцы*
*кроплі ад сэрца, што стала пяском.*

*Як і належыць, ад Сцёпы і Тоні*
*ужо засталіся толькі нейтроны…*
*разам «Зару камунізму» чытаюць*
*і пра пуцёўку ў Цхалтуба ўздыхаюць.*

***

*У небе хмара плыве нядобрая…*
*Маці з ложка цяжка ўстае*
*і разетку галошам аздоблівае —*
*так маланка, маўляў, не заб'е.*

*У пакоі — пахі бальнічныя.*
*Гром грыміць… І ў журбе чую я:*
*«Гэта ўсё на сваёй калясніцы*
*раз'язджае па небу Ілля!»*

*Блізка конь аграмадны грукоча…*
*Села мама на ложку, сумуе*
*і з надзеяй глядзіць на галоша —*
*ад прарока Іллі ён ратуе.*

***

*На поўначы маёй дзяржавы*
*ёсць мястэчка — Запакулле,*
*хата пад страхой іржавай,*
*крэслы там даўно патухлі.*

*На адным з трухлявых гэтых крэслаў*
*я сяджу нібы на троне.*
*Дуб у вокны суне сваё вецце —*
*не кране, аднак, мяне ніколі.*

*Бачыць дуб, што я заняты справай:*
*не гарбачуся над рыфмай беднай,*
*на сяброваю я забыўся нават —*
*цэлы дзень гляджу на неба.*

*Ведаю, што здарыцца павінна,*
*але распавесці не магу я —*
*для кагосьці чую плач птушыны,*
*для кагосьці кулі плач пачую.*

**Пераклаў з расійскай Юры Несцярэнка**



Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

# У вагоне

Пасажырскі цягнік Гродна-Мінск спыніўся на невялікай станцыі. Быў душны жнівеньскі вечар, і ці з гэтай прычыны, ці з якой іншай, людзей у плацкартным вагоне не дабавілася. Ля расчыненага акна сядзеў Ён і ўглядаўся ў цемру. Неўзабаве на вольнае месца, а яны тут былі ўсе вольныя, усунулася Яна з дзвюма вялікімі сумкамі ў руках і адной маленькай цераз плячо. Суседка была высокая і мажная.

«Як доменная печ, — падумаў Ён, — ад такога суседства будзе яшчэ гарачэй».

Устаў з месца і хацеў зачыніць акно. Вецер рвануў на лысіне маскіровачную пасму сівых валасоў, і яна заматлялася, нібы сцяг капітуляцыі. Пачаў лэпаць па галаве, ловячы і ўладкоўваючы на месца непаслухмяную пасму. Акно засталося адчыненым, і скрозь яго сапацела гарачае паветра. Ён не зважаў, у Яго быў толькі адзін клопат: прыдаць галаве джэнтэльменскі выгляд.

«Дурань, забыўся папырскаць пасму жончыным лакам. Заўсёды так раблю, а гэта забыўся...», — падумаў разгублена.

Яна ўладкавала сумкі ля ног і тайком назірала за Яго марнымі клопатамі, затаіўшы ўсмешку ў кутках поўных губ.

— У вас лак ёсць? — спытаў з выглядам чалавека, якога засталі за непрыстойным заняткам.

— Прычоску будзеце рабіць? То ці варта, бо ўжо ж позна...

Ён адкінуўся на спінку сядзення і ўтаропіўся на суседку. Вочы ў яе былі чорныя, як памытыя расой вішні, з доўгімі, ледзь не да броваў, вейкамі. Шчокі круглыя, румяныя.

«Колькі ж Ёй гадоў? Ну, недзе да пяцідзесяці, пэўна, на дзесяць менш, чым мне. Каб не гэты канфуз з пасмаю, то можна было б пазнаёміцца, а так і слова мовіць сорамна... А які прыгожы на Ёй спартыўны касцюм! Пэўна, імпартны, хаця і ў нас ужо навучыліся рабіць. Бывае, не адрозніш...».

І раптам, калі яна нагнулася, каб нешта дастаць з сумкі, Ён са здзіўленнем убачыў, што спартыўныя штаны распораты па шву. Акурат на сцягне.

«О-о-о, будзеш цяпер насміхацца з маёй пасмы... Я таксама маю з чаго пасмяяцца...».

Распорка невялікая, сантыметраў на пяць, але ж вельмі прыкметная. Ён міжволі зажмурыўся. Калі адкрыў вочы, яна сядзела за столікам насупраць і, дастаўшы з сумкі прадукты, наважылася вячэраць. Ноздры прыемна казытаў пах вяндліны, свежага гурка. Усё накладзена на вялікую лусту хлеба.

«Не дзіва, што ў Яе такія пышныя формы! Есць, нібыта які касец. Скупярдзяйка! Магла б і мне прапанаваць штонебудзь, а так адна меле. А я дома забыўся зсабойку. Жонка сабрала, паклала на стол, а я забыўся. Заўтра з самай раніцы да начальства, а яно невядома калі адпусціць, так што, можа, толькі павячэраць і давядзецца... Раз такая сквапная, то няхай сядзіць з распоратым швом, не скажу. А мог бы, няхай зашыла б, а то як будзе ісці па калідоры, то і іншыя ўбачаць».

Яна ўплятала прысмакі за абедзьве шчакі і час ад часу пазірала на Яго:

«Вочы нейкія галодныя, як усё адно два дні не еў. Можа, пакарміць? Але з якой рацыі? Гэта мужчына павінен частаваць. Не, каб ужо надта спадабаўся, то можна было б, а так... Худы, са шчаціннем на твары, ды яшчэ гэта пасма, што павінна была замаскіраваць лысіну... І што за дурацкая мода? Усім жа відаць, што лысы, то падстрыжыся ты акуратна, зусім іншы выгляд будзеш мець. Усё маладзяцца гэтыя мужчыны, усё прыхарошваюцца. Бедныя... Мы хоць парык на галаву нацягнем, а ім толькі і застаецца, што пасмы ляпіць...».

Да Мінска заставалася якая гадзіна язды, і спаць пасажыры не збіраліся.

Нечакана зайшоў высокі элегантны мужчына ў белай сарочцы з кароткімі рукавамі і белых штанах.

— Пайшлі ў рэстаран пасядзім, — прапанаваў Ёй. — Там, можа, не так душна?

Гэта, з усяго відаць, быў знаёмы спадарожніцы.

— Пайшлі, — згадзілася.

«Як жа яна пойдзе з распоратым швом?! — Ён ужо пашкадаваў, што не сказаў пра гэта раней. — А цяпер як скажаш?.. Ат, няхай, за гэта не аштрафуюць. Каб столькі і клопату... Не трэба было смяяцца з маёй пасмы...».

Яна вярнулася, калі цягнік набліжаўся да сталіцы. Была адна. Ён павесіў на плячо дарожную сумку і накіраваўся да выхаду.

— А ў вас спартыўныя штаны па шву распораты, — шапнуў на самае вуха.

— Дзе?! — яе твар заліла чырвань.

— Там, — кіўнуў галавой.

— Вы ведалі і маўчалі?! — агледзела сябе і ўбачыла тое шво.

— А што? Я вам не муж, каб гаварыць пра такія рэчы. Распораты ды распораты.

— І я так хадзіла ў рэстаран?! Які жах!

— Дык не прагналі ж...

— Хам!

— Ну. Я з пасмай, што боўтаецца абы як, а вы з падзёртымі штанамі. Мы квіты. Трэба было не насміхацца цішком. Я ж бачыў...

Канец душнай ночы ён прасядзеў на вакзале, а калі гадзіннік паказаў восем, паехаў да рэспубліканскага начальства, якое пачынала работу ў дзевяць. Праз прыёмную з бялявай маладой сакратаркай зайшоў у начальніцкі кабінет і ледзь не папярхнуўся паветрам: за сталом сядзела Яна! Хораша прыбраная, з умелым макіяжам. Спачатку здзівілася не менш, чым Ён, а потым прыгожыя губы склаліся ў саркастычную ўсмешку...



Фота www.tinkoff.ru

# Прымак

Худая, як рыбін хвост, Маня Кашулька не хадзіла, а лётала па сваіх Забэцьках: нарэшце яе дачка Ядзя сабралася замуж. Яна то ўжо даўно была гатовай, бо пераваліла за трыццаць, але жаніхі хату абміналі, каб яны долі не пазналі. І вось нарэшце Манін брат Сымон выпараў з халасцяцкай бярлогі Віцьку Шкіпідара з суседніх Ягнатцаў:

— Ледзь уламаў! — хваліўся сястры. — Кажу: колькі ўжо будзеш боўтацца, як трэска ў палонцы? Пара сям'ю заводзіць. Як у прымы пойдзеш, то станеш бабамі камандаваць, нібы які генерал... Так што ў суботу паведзу ў сваты, рыхтуйцеся.

Не паспела Ядзя прыйсці з работы з калгаснай канторы, як маці з запечку радаснай весткай аглушыла:

— У суботу сваты будуць! Віцька Шкіпідар згадзіўся ўзяць цябе замуж. Ведаеш такога?

— Што?! Ведаю Віцьку і замуж за яго не пайду нават пад пісталетам! Брыдкі надта. Тоўсты, як камбайн, рыжы і рабаціністы, увесь твар нібы грэчкай абсыпаны.

— Авохці! А ты ж прыгажуня, што там казаць... Худая, нібы аглобля, твар пляскаты, нос шырокі, а на галаве валасоў усё адно як хто сеяў ды кінуў, недасеяўшы. Для мяне ты, вядома, прыгожая, але ж у людзей свае вочы ёсць.

— Не пайду я жыць у Ягнятцы, бо гэна вёска задрыпаная! Адтуль людзі нават парасят не купляюць.

— Дома будзеш жыць, Віцька прымаком стане.

— Ну калі так, то добра, на прымака я згодна. Толькі каб вяселле было як належыць: з вэлюмам, з машынамі, з лялькамі на капотах.

Маці ўмовы прыняла, і было ўсё: і вэлюм, і машыны, і лялькі. Жаніх быў у новым касцюме, які Маня купіла ў райцэнтры, бо свайго ён не меў, амаль да сарака гадоў дажыўшы.

— Яно, канешне, шкада грошы на пустадомка аддаваць, — казала Ядзі, — але нічога: як будзе тут жыць, то адробіць у дзесяць столак.

Кабета ні на кроплю не сумнявалася, што зяць, прыйшоўшы ў прымы, стане ёй падпарадкоўвацца, бо, так бы мовіць, жыцьме на чужой тэрыторыі, есці хлеб з чужога стала.

Ды падманулася. У панядзелак пасля вяселля Ядзя пайшла на работу, а Віцька ўсё хроп, ажно шыбы ў вокнах звінелі. Ледзь успарола, каб паснедаў ды падаўся ў калгасную майстэрню слясарыць.

Адслясарыўшы, вярнуўся, паеў і зноў плюхнуўся на ложак. Узяў пульт ад тэлевізара і, нібы пісталет, нацэліў яго на экран.

— Чаго, зяцёк, разваліўся? Атаву на аселіцы трэба касіць, ужо ўсе людзі даўно пакасіўшы, у куратніку страха цячэ, варотцы ў агарод паламаліся, а ты вылежваешся? Не, галубок, так не будзе!

— Што ты скрыпіш, старая? Я ў тваёй хаце і абагрэцца не паспеў, а ты ўжо ў работу ўпрагаеш. Дай прывыкнуць!

— І доўга будзеш прывыкаць?

— Мо тыдзень, мо два...

Маня бразнула дзвярыма, узяла ў пуні касу і сама пайшла касіць атаву. Яна і не бачыла, як вярнулася з работы дачка, паела і таксама ўзвалілася на ложак. Убачыла толькі вечарам.

— Уселіся на мой карак і будзеце катацца?!

— Мама, не ўмешвайся ў наша сямейнае жыццё! Мы лепш за цябе ведаем, што трэба рабіць!

Маня ноччу не змружыла вачэй, а раніцай зноў накінулася на зяця, папракала гультайствам.

— А чаго ты, цешча, уласна кажучы, ад мяне хочаш? Гэта атава, варотцы, страха і ўсё астатняе — яно маё? Не маё. То чаму я павінен клапаціцца?

Маня зноў усю ноч круцілася на мулкай пасцелі, яе галаву разрывалі думкі: «А і праўда, можа, трэба перапісаць на Віцю гаспадарку, тады яму ахватней будзе даглядаць усё і берагчы».

Праз тры дні яны з зяцем накіраваліся ў райцэнтр да натарыуса і зрабілі патрэбныя паперы. Дадому ён вярнуўся сапраўдным гаспадаром усяго рухомага і нерухомага дабра.

«Ну вось, няхай гаспадарыць, няхай кіруе, я хоць адпачну», — думала Маня з палёгкай.

Але дарэмна радавалася. Назаўтра, прыйшоўшы з работы, Віцька зноў заняў назіральны пункт на ложку, па-ранейшаму ўзброіўшыся пультам. Цешча вачам сваім не паверыла. Яна ж думала, што зяць паесць ды возьмецца зграбаць і насіць з аселіцы сена, якое яна высушыла. Вечар жа вялікі, то потым можна і варотцы ў агарод паправіць, і страху ў куратніку залатаць.

На гэты раз не сварылася і не папракала, думала, што зяць яшчэ не ўвайшоў у ролю гаспадара, яшчэ не ўсвядоміў, якая на ім ляжыць адказнасць за ўсё-ўсякае.

Так мінуў тыдзень. Маня маўчала, толькі злосна зыркала з-пад ілба, калола Віцьку поглядам, як кінжалам. Але на яго гэта не дзейнічала, як і на Ядзю. Яны былі задаволеныя жыццём і не абцяжарвалі сябе ні турботамі, ні работай.

Нарэшце старая не вытрымала:

— Гультаіна, заваліна! — накінулася на зяця. — Ляжыш, каб ты каменем лёг, а ў гаспадарцы столькі работы, куды ні кінь — усюды клін! І ў хляве, і ў агародзе, і склеп трэба рамантаваць. Адна не паспяваю...

— А яно тваё? — абыкава мовіў Віцька. — Чаго ты так турбуешся пра чужое дабро? Твайго, цёшчачка, тут ужо нічога няма, так што сядзі ціхенька, як мыш пад венікам...




# Кнігі Васіля Быкава ў электронным і аўдыёфармаце

**У межах праекта «Лета з Быкавым», запачаткаваным Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Kniharnia.by, тры аповесці класіка нацыянальнай літаратуры Васіля Быкава «Бліндаж», «У тумане» і «Пакахай мяне, салдацік» з'явіліся ў папулярных аўдыёфарматах (у тым ліку для iPhone, iPod, iPad).**

Да ўсяго, чытачы могуць знайсці ў электронным фармаце ўсе выдадзеныя Саюзам беларускіх пісьменнікаў тамы з Поўнага збору твораў Васіля Быкава, а таксама яго зборнік-білінгву «Парадоксы жыцця» (па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову Ірыны Шаўляковай).

На сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org можна бясплатна паслухаць першыя пяць раздзелаў кожнага з твораў Народнага пісьменніка Беларусі — раздзел «Бібліятэка / Аўдыёкнігі», а ў раздзеле «Бібліятэка / Электронныя кнігі» бясплатна спампаваць тэксты кніг.

# Чужы твар



Вінцэсь МУДРОЎ

На дварэ панаваў красавік, самы яго пачатак. Снег кагадзе сышоў, пазначыўшы ходнікі зыркімі люстрамі лужын. У лужынах мыліся і адчайдушна цвыркалі вераб'і, на пачарнелых шкілетах дрэваў, якія стаялі ўздоўж вуліцы, гракалі вароны, падставіўшы пукатыя грудзіны зыркаму сонцу, і грай гэты сведчыў аб набліжэнні сапраўднай вясны.

Сцяпан Галабародзька міжволі прыслухаўся да бязладнага вераб'інага цвыркання і, азірнуўшыся, узбег па сходах. Дзверы з адчайным рыпам падаліся, і ў нос патыхнула кіслым пахам падлівы. Сцяпан скрывіў гімору, пастаяў крыху, звыкаючыся з агідным духам, і пайшоў мыць рукі.

Сталоўка, куды лагодным красавіцкім днём завітаў наш герой, была самай таннай у акрузе. У ёй звычайна абедалі студэнты, рабацягі трамвайнага дэпо, якое месцілася непадалёку, і небаракі-пенсіянеры. Збіраліся тут і апівуды, бо на ка́се прадавалі піва. Сядзелі яны ў дальнім куце, і касірцы даводзілася раз за разам сунімаць наведнікаў пагрозлівай фразай: «Зараз міліцыю паклічу!». Не дзіва, што герой азіраўся, узбягаючы па сходах. Сорамна ўсё ж вядомаму пісьменніку сілкавацца ў прасмярдзелай кіслай падлівай ядальні, якую мясцовыя жыхары называлі «мардоўняй». Варта, аднак, адцеміць, што Галабародзька быў вядомым пісьменнікам за даўнім часам. Цяпер жа ніхто і не згадваў ягоных празаічных зборнікаў і двух раманаў, якія калісьці з цяжкасцю напісаў і з яшчэ большай цяжкасцю выдаў.

Прысеўшы за вольны стол, пісьменнік агораў талерку гарохаўкі, падхапіў відэлец, збіраючыся распалавініць секунец, і замёр. Ля касы стаяў, трасучы рэдкай бародкай, калега — паэт Мішка Жабаедаў. Паэт праз тую бародку атрымаў мянушку Хошымін, але пагаліцца рашуча адмаўляўся.

«Прыгнаў нячысцік», — падумаў Сцяпан, увагнуўшы галаву ў плечы. Кволілася спадзеўка, што Мішка яго не заўважыць і сядзе дзе-небудзь здалёк, але паэт, ухвеціўшы твар блазнаватай усмешкай, ужо ішоў да ягонага стала.

— Сцёпа, і ты тут?! — гучна выдыхнуў паэт, і празаік яшчэ больш сцяўся. — Ці не з жонкай развёўся? — калега-літаратар сеў поруч.

— Да сястры паехала, — няўцямна, пхнуўшы ў рот кавалак секунца, прагугніў Сцяпан і ў сваю чаргу запытаўся: — А сам чаго па сталоўках швэндаешся?

Хошымін адказаў не адразу. Пастукаў лыжкай па стале, куснуў акраец чэрствай скібкі, нарэшце прамармытаў:

— Мая ў Трускавец падалася. На апошнія грошы.

Колькі часу елі моўчкі, утаропіўшы буркалы ў талеркі.

Жонка ў Жабаедава была зграбнай, прыгожай, насіла даволі рэдкае імя Антаніда і мела рэпутацыю непрыступнай жанчыны. Сцяпану яна здавён падабалася. Калісьці нават чыніў залёты, і ў выніку паскакаў ад той Антаніды кульгавым драздом.

— Марушка прыйшла! — закрычалі тым часам на раздатачнай, і да суседняга стала, вінавата лыпнуўшы вачанятамі, прымасцілася прыгорбленая бабуля. Неўзабаве да яе падышла касірка, паставіла перад порхаўкай талерку малочнага супу.

— Сорак гадоў на кухні адпрацавала. Прыходзіць калі-нікалі. Супам пакормім, — паведаміла, ні да каго не звяртаючыся, касірка. — Пенсія маленькая, і тую сын-п'янтос адбірае.

Порхаўка, няйначай, была глухаватай, бо жанчына прамаўляла занадта голасна.

— Дажыліся людзі да пустога канца, — паэт боўтнуў лыжкай у талерцы, ледзь чутна спытаў: — Што-небудзь пішаш?

Празаік насупіў бровы. Ён і ў лепшыя часіны, калі давалі ганарары, пісаў з натугай. Колькі ні сядзеў за сваёй раздзяўбанай «Эрыкай», а больш старонкі ў дзень нашкрамболіць не мог. І заўсёды з зайздрасцю пазіраў на калег, якія ў дзень выдавалі па дзесяць, а то і болей старонак. З кожным годам Сцяпан пісаў усё менш і менш, і ўрэшце, пару гадоў таму, задаў сабе пытанне: «А на якую халеру пішу?» — пасля чаго закінуў літаратурную творчасць. Прозвішча ягонае, праўда, зрэдзьчасу праківалася ў літаратуразнаўчых артыкулах, а аднойчы, ідучы па горадзе, Сцяпан пачуў здушаны шэпт: «Пісьменнік», — і такі ж здушаны смех за спінай. У вачах навачаснага пакалення пісьменнікі былі чымсьці накшталт блазнаў. І калі нехта пытаўся: ці не той ён Галабародзька, творы якога некалі вывучалі ў школе, літаратурны расстрыга крывіўся, усім сваім выглядам паказваючы, што занятак прыгожым пісьменствам быў памылкай маладосці.

— Пішаш? — удругаредзь запытаўся суразмоўнік, і Сцяпан, ачуўшыся, адмоўна страсянуў чупрынай.

— Я таксама завязаў, — паэт з утрапеннем зірнуў на шклянку з кампотам. — А для каго пісаць? Для іх?! — Жабаедаў гнеўна-ўзрушанымі вачыма агледзеў сталоўку.

Пакуль літаратары елі, народу прыбавілася, а ў дальнім канцы хтосьці парываўся зацягнуць песню з рэпертуару Піліпа Кіркорава.

— Ёсць каму і без мяне пісаць, — Сцяпан сёрбнуў кіслага на смак кампоту. — Вунь, у вашым хаўрусе аж шэсцьсот штыхоў. Цэлы полк. І дзе столькі набралі?

Мішка Жабаедаў працаваў у рэдакцыі газеты і вымушаны быў уступіць у афіцыйны пісьменніцкі звяз.

— Ды дзе... — Мішка спахмурнеў, глянуў гэтым разам на порхаўку, прычым з такім абурэннем, што тая застыла з лыжкаю ў зубах. — Запісалі туды бібліятэкарак, загадчыкаў аддзелаў культуры, графаманаў з рэгіёнаў, гуманітарыяў акандыдачаных...

Глухаватая бабуля ікнула, падвяла вочы, паволі апусціла галаву ў талерку з недаедзеным супам. Вакол зашумелі, касірка падбегла да самлелай гаротніцы і на пару яшчэ з адной жанчынай вывела старую на свежае паветра.

— Можна да вас прычаліць? — пляшывы, з тыднёвымі «ліхтарамі» пад вачыма, тыпус трымаў тацу з талеркай малочнага супу. На другую страву грошай, відаць, не хапіла.

— Ваш брат вунь дзе сядзіць, — Жабаедаў паказаў бародкай у дальні канец сталоўкі.

— Дык там усё занята, — пляша́к паставіў тацу на стол, з насцярогай, як тая порхаўка, сеў на край крэсла.

— Кажаш, завязаў, а сам зборнік выдаў, — незадаволена прабурчаў Сцяпан праз хвіліну. Празаік змучыўся чакаць — калі калега дап'е свой кампот. А той усё цадзіў і цадзіў, не адрываючыся ад шклянкі і звёўшы вочы да пераносся.

— Дык вершы немаведама калі напісаныя. І выдаў за свае кроўныя. Нават у цешчы грошы пазычыў. Не тое, што гэтыя, — паэт таргануў бародкай у бок апівуд. — Зайшоў днямі ў кнігарню... во такія таміны выдаюць, — Жабаедаў расчаперыў пальцы, дэманструючы таўшчыню тамін. — І ўсё за дзяржаўны кошт.

— Вы пісьменнікі? — пацікавіўся пляшак, але творцы на яго нат не зірнулі. — Мы калісьці аднаму пісьменніку лецішча рамантавалі. Той таксама ўвесь час на калег лаяўся.

— А хто такі? Як прозвішча? — Сцяпан падхапіў тацу з посудам, збіраючыся ўстаць.

— Прозвішча не памятаю. Лысы, як я, і нос бульбінай.

— У нас, у літаратараў, амаль усе лысыя, — рагатнуў Жабаедаў, прылашчыўшы плеш. Хацеў яшчэ нешта сказаць, але тут — рашуча, з нервовай інтанацыяй, — загаварыў Сцяпан:

— Добра табе... на працу ходзіш... зборнікі выдаеш. А ты на маю пенсію пражыві. Кампутар не магу набыць, — празаік з намогай падняўся на ногі.

— Знайшоў каму зайздросціць. Убіся ў маю шкуру ды пасядзі дзянёк у рэдакцыі. Вомігам аблысееш. Учора ледзь стрымаўся, каб не агрэць рэдактара дзіраколам. Уяўляеш, выклікае ў кабінет...

— Хочаце ў чужую шкуру ўлезці? Гэта можна, — перабіў Жабаедава сусед па стале.

— Як гэта? — ускінуў брыво паэт. Ён гэтаксама падымаўся на ногі, але прысеў на хісткае сталоўскае крэсла.

— А так... памяняецеся шкурамі, дакладней, тварамі, і высветліцца — каму жыць лягчэй.

— Чуеш, Сцёпа? Вось табе і сюжэт. Уяўляеш, які вэрхал пачнецца, калі людзі тварамі абмяняюцца?

За сваё жыццё Сцяпан Галабародзька чуў шмат рознай лухты, але такога чуць не даводзілася.

— І доўга будзем з чужымі пысамі хадзіць? — запытаўся, расцягваючы зыкі.

— Думаю, дні на тры-чатыры, — сусед даеў суп і, узняўшы талерку, выліў рэшткі сабе ў рот.



Малюнак www.busy.org

Творцы мелькам пераглянуліся, Хошымін з вясёлым дакорам крэкнуў, пабег да касы і вярнуўся з трыма пляшкамі «Аліварыі».

Піва ўдарыла ў нос п'янлівым духам, і ў Сцяпана закружылася галава. «Сапраўды ніштаваты сюжэт. Такога, здаецца, у сусветнай літаратуры не было», — Сцяпану заманулася зараз жа пабегчы дадому, выцягнуць з антрэсоляў друкарку, заправіць у яе чысты аркуш. Ён нават пацёр далоні, утаймоўваючы прызабытае ўжо творчае натхненне.

— Ну а як гэта будзе тэхналагічна выглядаць? — з блазенскай усмешкай пацікавіўся Жабаедаў. — Хірургічным чынам будуць мардасіны мяняць, ці як?

— Не хвалюйцеся, усё надарыцца натуральным чынам. У сне. Будзеце спаць, а рысы вашых твараў пачнуць паволі мяняцца. Перш-наперш знікне бародка, — сусед кіўнуў на Жабаедава, і той міжвольным рухам крануўся падбароддзя. — А ў вас пачне адрастаць, — пляшак скасіўся на Галабародзьку. «Толькі казлінай барады мне і не хапала», — падумаў празаік, адрыгнуўшы піўным духам.

Жабаедаў са смяшком на вуснах напоўніў півам пластыкавы кубак.

— Выходзіць, калі мы са Сцёпкам сёння не заснем, дык ніякага ператварэння не адбудзецца?

— Нават калі адзін з вас не засне — нічога не адбудзецца, — пляшак схапіў бутэльчыну, дапіў піва з рыльца.

— Чуеш, Сцёпа? Спім сёння — як венікі прадаўшы, — пажартаваў Хошымін. — А галасы нашы зменяцца, ці будзем сваімі гаварыць?

— Вось заўтра прачнецеся — і аб усім даведаецеся, — суразмоўца зыркнуў на касу.

Паэт адкінуўся на прыслон крэсла, сплёў пальцы на карку.

— Ну абудзіліся раніцою, зірнулі ў люстэрка. Сцёпка ўбачыць мяне, я Сцёпку... і што нам параіш рабіць? — у голасе паэтавым не чулася ранейшай іроніі.

— Адранку сустрэнецеся, памяняецеся вопраткай...

— Добра, што поруч жонак не будзе, — падаў голас Галабародзька, — а то прачнуліся б кабеты з чужымі мужыкамі ў абдымку. А што яшчэ параіш зрабіць перад зменай аблічча?

Суразмоўца зноў зыркнуў на касу.

— Параіў бы ўзяць пару пляшак.

І літаратары, пераглянуўшыся, палезлі ў кішэні па грошы.

Ноччу Сцяпан ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, і зацята ўглядаўся ў цёмную столь. Ад выпітага піва злёгку нудзіла, а ў нетрах страўніка нараджалася пякотка — праява застарэлага гастрыту. Але не гастрыт быў прычынай бессані. Вось бы напісаць апавяданне, а можа і цэлую аповесць пра ўсе тыя жарсці! Ужо і назву прыдумаў: «Чужы твар». Але мусіў ад яе адмовіцца. Не надта арыгінальная. У Абэ Коба такі раман ёсць. А яшчэ нядаўна з такой назвай серыял круцілі. Жонка глядзела, разявіўшы рот, бо ў фільме здымаўся ўлюбёны актор. Дымагарны, ці як яго там...

З чаго пачаць твор? Відаць, з таго, што на дварэ панаваў красавік і ў лужах адчайдушна цвыркалі вераб'і. Герой аповеду будзе ісці па вуліцы, прагавіта ўдыхаць пах таполевых пупышак, і сэрца ягонае парывіста заб'ецца ў прадчуванні нечага надзвычайнага. Потым герой зойдзе ў рэстарацыю з італійскай кухняй, замовіць пляшку ружовага «Argiolas» (бачыў тое віно на рэкламным праспекце), сядзе ў куце і будзе летуценна смактаць даўкае, з выразнымі фруктовымі ноткамі віно ды ўдыхаць пах ружаў гатунку дэ Рансар, якія будуць стаяць на стале. Малады кельнер пстрыкне запальнічкай, герой прыпаліць «Black&Gold» з залатым фільтрам і ў клубе шызага дыму ўбачыць Мішку Жабаедава. Прозвішча, вядома, давядзецца змяніць. А што потым? Потым у рэстаране з'явіцца... Хто ж там з'явіцца? Не сталоўскі ж алканаўт. Ды не. Гэта будзе высокая, падобная на жабаедаўскую жонку, кабета ў чорным капелюшы. Яна і раскажа пра тыя дзіўныя ператварэнні. А можа, адкінуць недарэчны гламур і напісаць так, як яно было на яве? Згадаць кухонны смурод, старую порхаўку, таго самага лысага алканаўта... Сцяпан крутнуўся на правы бок, заплюшчыў вочы, і ўваччу паўстала карціна: абмяняўшыся тварамі, яны з Жабаедавым стаяць у скверы насупраць сталоўкі і мяняюцца штанамі.

Пранізлівы вясновы вецер працінае навылёт, і сіняя Мішкава лытка прыкметна дрыжыць ад холаду. Пузень у Хошыміна як у бегемота, таму даводзіцца прытрымліваць чужыя штаны абедзвюма рукамі. І вось так, трымаючы неабсяжныя порткі, ён ідзе ў рэдакцыю Мішкавай газеты, адчыняе нагой кабінет галоўнага рэдактара, хапае са стала важкі дзіракол. «Чаму без стуку?» — пытаецца рэдактар. «Прынёс матэрыял на першую паласу». «Нумар ужо вярстаецца». «Спыніце вёрстку». «А пра што матэрыял?» «Пра тое, як са стапеля Балтыйскага завода імя Сярго Арджанікідзэ сыйшоў атамны дзіракол «Ленін»!». Пры слове «Ленін» ён б'е дзіраколам рэдактара па галаве, штаны спаўзаюць долу, і за спіной улякнута гойкае сакратарка — ці то ад таго, што шэф ляжыць пад сталом, ці то з тае нагоды, што супрацоўнік рэдакцыі стаіць без портак.

Сцяпан павярнуўся на спіну. І прымроіцца ж такая чмура. Папраўляўшы падушку, бяссоннік зноў углядаецца ў столь. А сапраўды, калі б такое надарылася і ён, Сцяпан, паўстаў у Жабаедаўскім аблічы... Што б перш-наперш зрабіў? Вядома, што.... падкаціўся да Антаніды. Цяпер ужо на правах законнага мужа. Ды як падкоцішся, калі ягоная сімпатыя з'ехала ў Трускавец? Прыгадаўся даўні, поўны камароў і шашлычнага дыму вечар у Доме творчасці. Пісьменніцкая сяброўна адзначала на беразе ракі юбілей аднаго з класікаў прыгожага пісьменства. Бяседны стол, як заўсёды, ладзілі на даўжэзным цыратавым абрусе — і атрымалася так, што яны прыселі на дубовы корч разам з Антанідай. Мужа якраз не было — паехаў з дэлегацыяй ва Ўкраіну, — і Сцяпану сам лёс наканаваў падкаціцца да кабеты. Пагатоў яе крамянае сцягно пругка кранулася локця. Яны адышлі ўбок папаліць, і апанаваны гарачлівым юрам Сцяпан абхапіў рукой спакуслівыя сцёгны. Кабета, аднак, ухілілася ад пацалунку і пагардліва выдыхнула: «Ніколі гэтага не рабіце!». Пякучая крыўда ахапіла тады Сцяпана. Бедалака пайшоў да бяседнага абруса, выпіў нагбом шклянку гарэлкі, а калі, праз паўгадзіны, выпадкова ўгледзеў, як недатыка цалуецца ў кустах з вядомым бабздырам, нарысістам Маскалёнкам, кульнуў, пад бурныя воплескі прысутных, яшчэ шклянку і ўбіўся галавой у расяны мурог.

Пасля той п'янкі Сцяпана і пачаў даймаць гастрыт. Дзіўна, але рысы твару Антаніды дарэшты выпетрыліся з памяці, і калі, высілкам волі, паспрабаваў іх згадаць, дык убачыў пляму, якая з кожным імгненнем набывала рэзкасць, і з нетраў свядомасці выплыла азызлая пыса апівуды. Пазначаная зялёнымі «ліхтарамі» вочы свяціліся злавесным агнём, а на бяскроўных, цёмна-ліловага колеру вуснах, ліпела падступная ухмылка. «Хочаце чужы твар займець? Гэта можна». Страшная здагадка перахапіла дыханне, напяла скуру на лабаціне. Там, у «мардоўні», з ім гаманіў Воланд! І на раніцу, зірнуўшы ў люстра, ён пабачыць не сваю фізіяномію, а казліную пысу Жабаедава! Уражаны, прыўзняўся на локці, пацёр падбародак, ды тут жа адагнаў бязглуздыя думкі. Сталоўскі апівуда, ясны перац, вёрз лухту, але, пазіраючы на ўтораны не зацягнутымі шторамі прастакутнік вакна, вырашыў на ўсякі выпадак не спаць.

У цёмным прастакутніку гарэла самотная зорка. Нечакана яна задрыжэла, стала размытай, і гарачая далонь змахнула з вачэй няпрошаную слязіну. Бяссоннік убачыў раптам сябе самога, але на трыццаць гадоў маладзейшага. Седзячы ў паўзмроку «маласямейнай» кухні і паклаўшы на засланы газецінай стол агульны сшытак, ён пісаў сваё першае апавяданне. Пісаў прагна, натхнёна, штораз абломваючы грыфель алоўка. Кінь дурное, — хацеў крыкнуць сабе самому, — твая пісаніна нікому не патрэбная! Ты скончаыш жыццё, як тая порхаўка — увагнаўшы нос у дабрачынную сёрбанку. Аднак не крыкнуў, а толькі ўголас загадаў ужо сабе сённяшняму: «Не спі, не спі, браток».

Раніца выдалася пагоднай, і пакой праціналі сонечныя промні. Сцяпан з цяжкасцю раздзёр павекі, задаволена, да храбусцення ў костках, пацягнуўся, але тут жа вылез з-пад коўдры і пабег на нягнуткіх нагах да люстра. Перавёўшы дых, выціснуў прышч на носе і рушыў у прыбіральню, гучна пляскаючы па падлозе босымі нагамі.

# Душу вяртаючы да слова



Леанід ГАЛУБОВІЧ

* * *

***«Як хораша душу сваю на шпацыр***
***Выводзіць на сабачым ланцужку».***
***Леанід Дранько-Майсюк***

*Жыцця —*
*як на выгул сабакі —*
*яшчэ засталося ў мяне,*
*і ўсе мае болі і страхі*
*адыдуць — і час мой міне...*

*Яшчэ раз начэпяць аброжак,*
*папусціць крыху павадок,*
*і ўсцяж нагуляных дарожак*
*прайду я, спаволіўшы крок...*

*Ні даўнія крыўды, ні здрады,*
*што выпаўзуць з часу імжы,*
*парушыць не здолеюць ладу*
*сабранай у вечнасць душы.*

*Паднебны мой шлях незваротна*
*у тую сплыве далячынь,*
*куды і душу несмяротных*
*узносіць вышэй аблачын...*

*Адтуль я і буду мігцецца,*
*бы згадка з разбуджаных сноў...*
*І ў млечных грудзях маё сэрца*
*ачнецца — і пойдзе наноў...*

**12 лютага 2020**

## Альбомны верш

*У Лявона быў сабака.*
*Ён яго любіў.*
*Бякай быў той ці не бякай —*
*ён яго не біў.*

*А заўжды па шорстцы гладзіў,*
*шорсткі насупроць.*
*Гадзіў цюцька ці не гадзіў —*
*прабачаўся скрозь.*

*І за гэта ён Лявону*
*ногі ўзімку грэў,*
*жыў без лішняга гамону,*
*надта не дурэў.*

*Так прыжыўся, бы не псіна,*
*а сябрук які,*
*без яго й булён курыны*
*есці не з рукі.*

*А, бывала, што й на вершы*
*мог натхніць няўзнак,*
*і няведама, хто лепшы*
*ў доме быў мастак.*

*А калі прыйшла часіна*
*развітацца з ім,*
*нечакана папрасіў ён*
*простае зусім:*

*«Пахавай мяне ў прылеску*
*ў цёмны час начны,*
*хай растуць з мяне пралескі*
*светлымі вачмі»...*

*Дружбе іх Лявон не здрадзіў,*
*дзякаваў за лёс,*
*просьбу сябравую спраўдзіў —*
*прах у лес аднёс.*

*Там, нябогу, на пагорку,*
*закапаў Лявон,*
*і завыў-заплакаў горка,*
*як сабака, ён...*

*Чорны крук з-пад хмары гракаў,*
*нібы смерць сама:*
*што ў Лявона быў сабака,*
*а цяпер — няма...*

*Але, колькі жыць ні будзе*
*на зямлі Лявон,*
*ён сабаку не забудзе*
*да апошніх дзён.*

**14 лютага 2019**

* * *

*Мне думкі ўласнай, што імкне ў прасцяг,*
*у часе не дагнаць,*
*яна ў Сусвеце —*
*маёй істоты сутнасны працяг,*
*як Божы дух у Новым Запавеце.*

*Аб чым яна? Аб тым, што лёс зямны*
*спасціг мяне і выстудзіў дарэшты,*
*што адгучалі гімны і званы*
*і ўжо пара парадкаваць парэшткі...*

*А ці з'яўлюся некалі яшчэ*
*ў якімсьці іншым вобразе ці стане?*
*О, гэта думка следам апячэ,*
*аднак жа, папярэдняй не дастане...*

**17 студзеня 2020**

* * *

***Светлай памяці паэтаў Васіля Гадулькі, Васіля Сахарчука і Алеся Каско***

*Няма ні Алеся, ні двух Васілёў.*
*Рой слоўнай журбы*
*па-над Жабінкай вісне —*
*над клёнам самотным і ўквеценай вішняй,*
*над ціхім райцэнтрам і блізкім сялом...*

*«Я тут, пеклаванцы!» — махну ім здаля.*
*«Вітаем, самотнік! І дзе ты цягаўся?»*
*«Ды вас выдаваў», — адкажу Васілям.*
*«Ну, выдаў, і — дзякуй. Цяпер далучайся...»*

*А як далучыцца і лішнім не быць,*
*і сеўшы, як роўны, за чаркай з цыгаркай,*
*пад вокам нябёсаў маўчаць пра нябыт,*
*прыпомніўшы лёс, нагаданы цыганкай.*

*Які неспасціжны зямны гэты свет,*
*а што ўжо казаць пра паднебны —*
*высокі?!*
*Знямее на вуснах людскі запавет,*
*але не Гасподні, што мае вытокі*

*з нязнанай прыроды, з таемных глыбінь,*
*чый дух жыватворны і неўміручы,*
*адкуль і абвесціць — як выдых: амінь —*
*твой вырак зямны і твой рок немінучы...*

*Што вышапчаш духам, не ўпішаш пяром*
*на дошку раённую гонару й славы...*
*І як жа шкада, што мы ўсё-ткі памром,*
*знямогшыся ў часе айчыннай патравы...*

**28 траўня 2020**

## Эпас 1937 года

*паэты — расстраляныя*
*жывыя — чытачы*

**29 кастрычніка 2019**

## У ноч на Хрыстовае ўваскрашэнне

*І я калісьці хадзіў па вадзе,*
*хлеб дзяліў і ўздымаў нямоглых...*
*А сёння сам скарыўся бядзе,*
*жыву з хваробай, трываю подлых...*

*І скажа Ён, як прыйду на схіл:*
*што я напісаў нявартыя строфы,*
*таму не хапіла мне духу й сіл*
*данесці свой крыж да сваёй Галгофы...*

*Ну, што ж, прыму я і гэткі кон,*
*як і той наслед чалавечы:*
*быць смяротнымі веку спакон*
*перад Ягоным абліччам вечным.*

**13 красавіка 2020**

## COVID-19

*Пад вокнамі*
*расцвіла чаромха,*
*цягнецца, збялелая,*
*да балконаў хрушчоўкі.*
*На пятым паверсе*
*задыхаюся ад яе*
*саладжава-п'янкога водару...*
*А стары сусед,*
*звесіўшы галаву сівую*
*над кронай заснежанай,*
*кажа мне*
*непракашляным голасам:*
*«Здарова, Міхалыч!*
*Ці ты чуеш?!*
*Зусім не пахне сёлета*
*наша чаромха...»*

**4 красавіка 2020**

* * *

*Адно і тое ж — кожны дзень:*
*устанеш рана, ляжаш позна,*
*і покуль свой не збудзеш цень,*
*ты дзень свой доўжыш колькі можна...*

*А што за днём? Бяссоння ноч*
*з пакутным каяннем, і — роспач,*
*бо ўсё не так — наўзбоч, насторч,*
*не там, не тую сцежку топчаш...*

*І блякне постаць, і нутро*
*згасае, й сам ты паступова*
*пертвараешся ў нішто,*
*душу вяртаючы да Слова...*

*Што ж, гэткім ёсць тваё жыццё,*
*што млее ў вечнасці Сусветнай,*
*дзе Бог наш старазапаветны*
*з нічога зноў стварае ўсё.*

**11 траўня 2020**

## Перад зямным выраем

*З часу свайго не вылеціш*
*пералётнаю птушкай*

**30 студзеня 2020**

* * *

*І там забудземся мы ўсе,*
*ў тым пасмяротным вечным сне —*
*ў суцяблінах траў, лістах, карэннях,*
*імху падмуркаў, сутарэннях,*
*наступных жыццях і тварэннях...*

**1 чэрвеня 2020**

*12 жніўня наш шаноўны аўтар, вядомы паэт, празаік і крытык Леанід ГАЛУБОВІЧ будзе адзначаць свае 70-годдзе. Жадаем яму натхнёнасці, здароўя, новых публікацый і яшчэ шмат-шмат гадоў да «зямнога выраю».*

# Дзень пачынаўся...



Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Канапа

Канапа — адно з найвялікшых дасягненняў чалавецтва. На офіснай канапе развязваюцца найважнейшыя бізнесовыя пытанні, на хатняй канапе разыгрываюцца сямейныя жарсці, зачынаюцца новыя людзі. Бывае і наадварот. А бывае тое ды іншае і там і там. Ды няма нічога больш прыемнага, чым ляжаць на канапе і чытаць кніжку ці ўлюбёную газету. Для нармальнага чалавека канапа — гэта блакітная мара ўсяго жыцця паміж віхураў мітусні і тлуму: як прыемна на яе класціся ўвечары пасля цяжкага дня, як соладка на ёй спаць, як прыемна з раніцы пацягвацца і лавіць асалоду выходнага дня. Канапа — родная сястра ложка, але куды больш шляхетная і выкшталцоная прадстаўніца сямейства мэблевых. Канапа — гэта паказчык заможнасці, аснова дабрабыту і камфорту, гэта альфа і амега ўтульнасці.

Юрка Балюк не меў сваёй канапы. Не меў ён і кватэры, хоць і быў выкладчыкам тэхнікума. Пятнаццаць гадоў халасцяцкага жыцця ў інтэрнаце зрабілі яго бурчлівым і раздражнёным, калі справа датычыла супрацьлеглага (дзіўнае слова, бо яго прадстаўніцы якраз зусім не супраць!) полу. Ён не заляцаўся да маладзенькіх юрлівых студэнтак, якія адмыслова апраналі на яго заняткі спакушальныя кароценькія спаднічкі ды іншыя аксэсуары адзення, якое ў летні час толькі з умоўнасцю можна было назваць верхнім. І не таму, што яны яму не падабаліся і не будзілі адвечнага мужчынскага памкнення. Расперазацца і разгуляцца яму не дазваляла працоўная прафесійная этыка. А на пошукі знаёмстваў у кнайпах і барах папросту не ставала грошай. Таму Юрка меў адну сталую каханку, на жаль, далёка, ажно ў Менску, да якой наведваўся перыядычна, на выходныя ці адпачынак.

Дарога да сталіцы яго заўсёды раздражняла і злавала: трэсціся ўсю ноч смуродным цягніком было сапраўды стамляльна, а аўтобусам, хоць і было ў два разы хутчэй, выходзіла дарагавата. На гэты раз ён выехаў у пятніцу начным цягніком. Яму яшчэ пашанцавала — касавокая касірка, ні то падміргнуўшы, ні то нешта глыкнуўшы, падкрэсліла ягоную ўдачу:

— Апошняе месца, малады чалавек!

— Апошняя ў папа́ жонка, — адразу буркнуў Юрка, але схамянуўся і ўслед адказаў рэверансам — ні то лагодным позіркам, ні то зычлівай усмешкай. Ажно касавокая дама бальзакаўскага веку заірдзелася. Якраз як тая чэхаўская гераіня, адзначыў у галаве Юрка: «Ёй упершыню ў жыцці пацалавалі руку, і яна не вытрымала...».

Уладкаваўшыся на верхняй паліцы перапоўненага плацкартнага вагона, Балюк адразу паспрабаваў заснуць, але марна. Знізу двое «пралетарыяў» расклалі на газету селядзец і абмяжоўвацца гэтым відавочна не збіраліся. У канцы вагона грала музыка. Насупраць кабета закалыхвала дзіця, якое маўклівасцю таксама не вылучалася, а ў тамбуры жаласліва скуголіў сабачка. «Пракляты цягнік! — пяшчотна падумаў Юрка. — Адкуль тут узяўся гэты сабака?»

— Пасцель браць будзеце? — бесцырымонна абарвала роздум тоўстая правадніца з носам Джаконды. Самадастатковыя «пралетарыі» адмоўна і рашуча захіталі галовамі, Юрка палез у кішэнь портак і, выцягнуўшы некалькі патрэбных паперак, разлічыўся за звыклы камплект бялізны.

— Не забудзьцеся з раніцы сабраць і здаць! — замест «Добрай ночы!» прабубніла Джаконда.

Балюк servaslaў адну прасціну, утрамбаваў у маленькую навалку куды большую падушку і, накрыўшыся з галавой другой прасцінай, змучаны цяжкім днём, урэшце заглыбіўся ў сон...

...Выйшаўшы на перон, дзе гуляў пранізлівы сівер, традыцыйны для беларускай сталіцы, якая «ўпэўнена глядзіць у будучыню», Юрка падняў каўнер і падаўся на прыпынак у кірунку Інстытута культуры. Яго пасія жыла ў тым мікрараёне ва ўласнай кватэры. Па дарозе ён адзначыў для сябе твары атлусцелых міліцыянтаў — у Менску яны чамусьці розніліся ад правінцыйных большай жлобскасцю, сваёй трыбухатасцю і нейкай азызласцю.

Праз дваццаць хвілін, знайшоўшы патрэбны пад'езд, ён не паспеў нават націснуць на патрэбную кнопку — дзверы расчыніліся, і ягоная Галя кінулася яму на шыю:

— Юрка, здароў, як ты ў час! А я думала, што будзеш толькі пасля абеду, а я якраз канапу купіла, учора заплаціла, а цяпер павінны прывезці, вось выйшла пашукаць каго, каб дапамог разгрузіць і занесці ў кватэру.

Такі пачатак не вельмі ўзрадаваў Юрку: Галя жыла на восьмым паверсе, і перспектыва пачаць дзень з таго, што цягнуць гэтую халерную канапу ўгару, душыцца і прэць, настрою не дадавала. Але куды тут дзенешся... Нічога — супакойваў ён сам сябе, зацягну, прыму душ, а там ужо адарвуся напоўніцу.

Машыну з мэбляй давялося чакаць гадзіны паўтары. Кіроўцам фургончыка, на якім вялікімі сінімі літарамі было напісана «Грузоперевозки — уют в каждый дом», быў балбатлівы мужык гадоў пяцідзесяці. Удвох з Юркам яны пацягнулі шырокую канапу да месца прызначэння. Канапа была цяжкая, так што даводзілася спыняцца на кожным паверсе. Урэшце яе даваладклі, балбатун атрымаў сваю дваццатку і на развітанне праспяваў да Галі: «С милым дома, с милым в бане, на тахте и на диване...». І закончыў:

— Жадаю, гаспадынька, каб канапа служыла доўга і не рыпела!

Падміргнуўшы Юрку, напяваючы сабе пад нос ужо нешта іншае, знік за дзвярыма.

У Юркі нібы камень з грудзей ссунуўся. Настрой у яго адразу прыўзняўся. За пару хвілінаў ён абадраў цэлафан з канапы і відавочна застаўся задаволеным сабой.


Фота www.mebelok.com

**Канапа — родная сястра ложка, але куды больш шляхетная і выкшталцоная прадстаўніца сямейства мэблевых. Канапа — гэта паказчык заможнасці, аснова дабрабыту і камфорту, гэта альфа і амега ўтульнасці**

— Ну добра, давай хуценька ў лазенку, а я зараз нешта на стол падрыхтую, — яшчэ болей прыбадзёрыла яго Галя.

Праз хвілін пятнаццаць Юрка, асвежаны прахалоднай вадой, ужо сядзеў на новай канапе і раскаркоўваў пляшку купленага яшчэ ў Горадні чырвонага віна. Ён узняў свой келіх і ўрачыста прамовіў:

— Ну, за тое, каб канапа не рыпела! — але не паспеў нават чокнуцца са сваёй пасіяй. У дзверы настойліва пазванілі.

На парозе з'явіўся здаравенны бамбіза, які, як стала зразумела з яго ласкавага позірку, таксама не чакаў тут Юркавай прысутнасці.

— Знаёмся, Юрка, гэта Віця, — не разгубілася Галя і дастала з серванту яшчэ адзін келіх. — Я табе пра яго расказвала.

Бамбіза ашчэрыўся і высіснуў з сябе нешта кшталту ўсмешкі.

Юркава далонь патанула ў яго агромністай руцэ.

«Такі адзін раз уваліць — і будзе дастаткова, — адзначыў Юрка, — чортава баба, нічога яна мне ні пра якога Віцю не расказвала. Курва, завяла сабе яшчэ аднаго хахаля!».

— Разумееш, Віцька, я якраз сёння канапу купіла новую, вось вырашылі замачыць пакупку, — залагоджвала далей Галя сітуацыю.

— Канапа — справа добрая, — адгукнуўся бамбіза і вывалак з політыленавай торбы літровую пляшку «Сталічнай».

— Дай, Галя, шклянкі большыя, а то з гэтых мензурак мы будзем суткі піць.

Галя пайшла на кухню шукаць адпаведныя шклянкі, а Віцька нахіліўся да Юркі і сцвердзіў:

— Во файная баба, праўда!?

Юрка нават не знайшоўся, што адказаць на такую ні то нейтральна кампліментарную, ні то канфрантацыйную тыраду, ды ўжо з'явілася Галя з вялікімі шклянкамі і талеркай пакроенага сала.

Бугай адным рухам скруціў бутэльцы галаву і наліў гарэлку.

— Ну, то давайце шахнем за тое, каб гэтая канапа не рыпела!

Але выпіць зноў не ўдалося. У дзверы чарговы раз пазванілі. Галя падхапілася, і праз колькі секунд у пакоі з'явіўся яшчэ адзін госць — хударлявы хлопец гадоў дваццаці пяці ў старамодным турэцкім швэдары.

— Знаёмся, Генка — гэта Віктар і Юра, я тут сёння канапу сабе купіла, то вось сядзім з хлопцамі, адзначаем.

Юрка з Бугаём толькі пераглянуліся, а Галя пайшла яшчэ па адну шклянку. Сітуацыя набывала ўжо зусім гратэскавы гогалеўскі сюжэт. Не чакаючы тоста, Юрка схапіў шклянку і нагбом перакуліў змесціва. Запіў віном з першага келіха і стаў закусваць. Пабачыўшы гэта, агромністы Віцька імкліва зрабіў тое ж сама.

З'явілася Галя.

— А, вы ўжо выпілі без мяне, налівай, Віцька, па новай!

Бамбіза паслухмяна напоўніў шклянкі. Павісла маўчанне, якое нясмела перапыніў Генка:

— Ну што, хіба давайце вып'ем за тое, каб гэтая канапа доўга служыла і не трашчала!

Цяпер ужо Юрка не вытрымаў і адчайна ды агрэсіўна вышчаліўся, нібы той сабака ў пасткі:

— Так, хлопцы, я прыехаў сюды здалёк, цягаў гэтую канапу і нікуды сёння адсюль не пайду! Бо ісці мне ў вашым горадзе больш няма куды, — і рэзка нагбом кульнуў налітае, маўляў, адна казе смерць.

Галя зачырванелася, але маўчала. Бамбіза Віцька замест таго, каб прыкончыць Юрку адным ударам свайго магутнага кулака, нечакана разгублена стаў апраўдвацца:

— Ну, ты прабач, мы ж не ведалі... Слухай, ты не супраць, калі мы пасядзім яшчэ, даб'ем гэтую бутэльку?

— Дап'ем канешне, не звяры ж, — прыкметна палагоднеў Юрка, адчуваючы, што ініцыятыва канчаткова пераходзіць у ягоныя рукі.

Яшчэ праз паўгадзіны, прыкончыўшы пляшку і закусіўшы, абодва хлопцы развіталіся і пайшлі. Бамбіза перад адыходам паспеў яшчэ шапнуць Юрку:

— Ты ўжо правер сёння гэтую канапу як след.

Пасля такога наказу і адыходу канкурэнтаў Юрку чамусьці агарнула абыякавасць і нейкая інфантыльнасць. Пакуль Галя мыла посуд, ён дапіў проста з бутэлькі віно, не скідваючы адзення, разваліўся на новай канапе і праваліўся ў іншае вымярэнне. Сніліся яму плацкартны вагон з вялікім надпісам «Грузоперевозки — уют в каждый дом» і Віцька-бамбіза ў форменным кіцелі і фуражцы чыгуначніка. На адной з верхніх паліцаў сядзела Галя і цалавалася з тоўстай правадніцай-Джакондай. А ў тамбуры жаласна скуголіў сабачка...

### Раніца дырэктара

Дзень пачынаўся як звычайна. Лявонці Сцяпанавіч увайшоў у свой кабінет, звыклым рухам адкаціў мяккае крэсла, бухнуўся ў яго і пад'ехаў бліжэй да стала. З лянівасцю задаволенага сабой і навакольным светам чалавека ён пачаў раскладаць свежую пошту: некалькі запрашэнняў, стос газетаў, сярод якіх вылучаліся пяць асобнікаў «Советской Белоруссии», і яшчэ ліст, спрэс заклеены маркамі — ажно з далёкай Кубы. Лявонці Сцяпанавіч Крывашапка быў дырэктарам мясцовай школы, якая лічылася ўзорнай у раёне. За выдатныя дасягненні колькі гадоў таму ён у ліку іншых актывістаў «Белай Русі» быў узнагароджаны паездкай за акіян — ажно на «востраў Свабоды». Пасля гэтага візіту на адрас школы з Кубы рэгулярна прыходзіў канверт з часопісам «Хувентуд» на гішпанскай мове, асобныя нумары якога Лявонці Сцяпанавіч нават не распячатваў. На гэты раз ён, аднак, разадраў канверт і выцягнуў не патрэбны яму асобнік на незразумелай мове. На вокладцы быў змешчаны партрэт гераічнага камандантэ з дзяўчынкай на руках. Лявонці Сцяпанавіч не стаў нават гартаць часопіс і пляснуў на стол.

Дырэктару было крыху за сорак гадоў, але выглядаў ён на старэйшага. Характэрная лысіна, пузаты жывот і вечна пакамечаны гарнітур выдавалі ў ім тыповага кіраўніка адказнай структуры, ячэйкі выхавання беларускага грамадства. Гонарам дырэктара быў тэлефон, які злучаўся голасным сувяззю з кабінетам сакратаркі. Яго два гады таму прэзентаваў школе спонсар — раённы завод электраапаратуры. Дзякуючы гэтаму тэлефону Лявонці Сцяпанавіч урэшце адчуваў сябе высокім начальнікам. У маладыя гады кар'ера яго развівалася па ўзыходнай. Крывашапка быў камсамольскім актывістам і марыў пра сур'ёзнае кіроўнае месца. Але тут ляснуўся Савецкі Саюз, і замест ідэалагічнай працы ён быў змушаны ісці працаваць простым настаўнікам гісторыі ў аддаленай вёсцы раёна. Там ён прападаў некалькі гадоў, але пасля першых прэзідэнцкіх выбараў спакваля пачаў выбірацца наверх. Яго заўважылі і неўзабаве ацанілі. Урэшце дабраўся і да пасады дырэктара школы. А там, глядзіш, і ў раённы цэнтр запрасяць…

— Лявонці Сцяпанавіч, да вас наведнік, — перапыніў яго салодкі роздум голас сакратаркі Зіначкі ў гучніку тэлефона. — Пускаць?

— Пускайце! — крыху незадаволеным голасам чалавека, якога адарвалі ад важных дзяржаўных спраў, прамовіў дырэктар. Калі праз дзясятак секунд у кабінет увайшоў чалавек, ён нават не адарваў вачэй ад стала. Гэта была яго звыклая манера абыходжання з ніжэйшымі па рангу. Пра прыезд вышэйшага начальства Лявонці Сцяпанавіч заўсёды ведаў загадзя ад сваёй швагеркі Пятроўны, якая працавала ў раённай структуры адукацыі. Таму да такіх візітаў ён быў заўжды падрыхтаваны, а школа — вылізана і вычышчана да таго самага ўзорнага выгляду.

— Лявонці Сцяпанавіч? — пачуў ён роўны жаночы голас. Тое, што «наведнік» аказаўся жанчынай, яго не здзівіла: у адукацыйных установах яшчэ з бэсэсэраўскага часу павялося так, што асоба не мела плоці — жанчына ўсё роўна называлася «дырэктар», «касір», «бухгалтар», «наведнік» і гэтак далей.

— Крывашапка?! — голас відавочна дабавіў металічных нотак і прагучаў ужо амаль над вухам, так што дырэктар здрыгануўся і амаль што не падскочыў. Ён нарэшце ўзняў маленькія вочкі і… ледзь не аслупянеў. Пасярод ягонага кабінета стаяла высокая сімпатычная брунэтка. Наведніца была амаль голая — на ёй былі толькі доўгія скураныя боты, ружовыя трусікі, якія ледзь прыкрывалі самае патаемнае, і класічныя строгія акуляры. Чорныя валасы былі дасканала сабраныя і замацаваныя ззаду нейкімі мудрагелістымі зашчэпкамі. Лявонці Сцяпанавіч ледзь не аслеп ад яе падцягнутага жывата і белі стромых грудзей. Сонца з шырокага вакна адбівала промні ад зграбнай жаночай фігуры яму проста ў твар.

— Дык, значаць, вы і ёсць дырэктар гэтай школы, — тонам, які не пакідаў сумневу ў перавазе, працягвала таямнічая і дзіўная наведніца.

— Так, Лявонці Сцяпанавіч Крывашапка! — адрапартаваў збянтэжаны дырэктар. Ён памкнуўся прыўзняцца, але ножка крэсла паехала, і ён нязграбна зваліўся назад. — Прабачце, сядайце, калі ласка! — дырэктар з другой спробы ўрэшце ўскочыў і паслужліва падсунуў суседняе крэсла незнаёмцы.

— Гэта вы тут суткамі сядзіце, праціраеце порткі, мне няма калі рассядацца! — сказала, як адрэзала, тая і прайшла па дырэктарскім кабінеце да акна. — Дзяржаўныя інтарэсы трэба пільнаваць!!!

Дырэктар абліваўся халодным потам, думкі ў яго галаве мільгалі, як касяк маленькіх рыбак: «Няйначай з аблана прыслалі; каб з раяна, то Пятроўна папярэдзіла б. А можа, і з самой адміністрацыі… Апошняе слова «…прэзідэнта» цюкнула яму ў скронь, нібы куля.

— Прабачце, а як вы сюды прыйшлі? — дырэктар хацеў сказаць «голай» і ледзь не вымавіў гэта, але ў час схамянуўся і няўклюдна закончыў: — Пешшу?

— Не, я на машыне прыехала. А плашч пакінула ў вітальні вашай сакратарцы, каб яна пачысціла, дарогі тут у вас чорт ведае якія, раз толькі вылезла з машыны — і забрудзіла крысо.

«Значыць, здалёк», — дапяў Лявонці Сцяпанавіч і ледзь не здранцвеў ад сваёй страшнай здагадкі.

— Буду ў вас куратарам, — канкрэтызавала брунэтка. — Мяне завуць Маргарыта Артураўна.

— Вельмі прыемна, — выгнуўся ў паклоне дырэктар. — А скажыце, калі ласка, што вы будзеце курыраваць: выяўленчае мастацтва, эстэтыку ці, можа, увесь культурны працэс? — лісліва, стараючыся зрабіць ускосны камплімент грознай незнаёмцы, далікатна запытаўся Лявонці Сцяпанавіч.

— Я буду курыраваць ПВП — пачатковую вайсковую падрыхтоўку, — расшыфравала Маргарыта Артураўна. — І пачынаць, відаць па ўсім, будзем з настаўнікаў і адміністрацыі школы. Вось вы, прыкладам, колькі разоў можаце адціснуцца ад падлогі? Напэўна, разоў пяць, не больш? Прадэманструйце!

Дырэктар зусім збянтэжыўся, але голас Маргарыты Артураўны не пакідаў выбару. Ён паслухмяна прыняў адпаведную пазіцыю і, ледзь адціснуўшыся тры разы, знясілена ўпаў на дыван.

— Я так і ведала… — з'едліва прамовіла суровая куратарка. — Уставайце ўжо, гэта вам не пузам аб зіначкін жывоцік ляпаць!

Дырэктар ускочыў як уджалены. Адкуль яна ведае? Няўжо Зінка здала? Як яна магла… Прыгрэў змяю, падвысіў ёй заробак. Не, не магла, не ў яе інтарэсах. А можа, гэта ўвогуле які шантаж, і гэтая дамачка зусім не з аблана і не з адміністрацыі?.. Таму яна і голая. Здымуць зараз праз акно на відэа, а потым даказвай, што гэта не ты яе распрануў. Страшная версія зусім падкасіла яго — дырэктар плюхнуўся ў крэсла і ледзь не страціў прытомнасць.

Але брунэтка і не думала развіваць сэксуальную тэму.

— Вам што, кепска? — голас Маргарыты Артураўны крыху палагаднеў. Яна падышла да стала і, націснуўшы адпаведную кнопку, загадала:

— Зіначка, шклянку вады, і хуценька!

Праз паўхвіліны перапалоханая сакратарка прынесла шклянку вады, а заадно і пачышчаны плашч сталёвага колеру. Куратарка ўзяла вопратку, накінула плашч на сябе і нарэшце села насупраць праз стол — нібы следчы на допыце.

— У вас колькі ў школе сябраў БРСМ у старэйшых класах?

— Семдзесят адсоткаў, згодна з даведзенай дырэктывай аблана, — адрапартаваў, глыкнуўшы вады і крыху акрыяўшы, Лявонці Сцяпанавіч.

— Я не пытаюся вас пра працэнты, скажыце ў лічбавым эквіваленце!

Дырэктар палез у верхнюю шуфляду і выцягнуў паперы — сто семдзесят… не, ужо сто восемдзесят чалавек.

— Добра, а колькі з іх выбягае стометроўку з 13 секунд?

— Я не… не ведаю, — збянтэжыўся зноў дырэктар. Але на сэрцы яму крыху адлягло. Калі яна задае такія пытанні, значыць, гэта не сэксуальны шантаж. Сапраўды, нейкая новая праверка, новы куратар. Але хто яе праслаў? Дырэктар упершыню асмеліўся зазірнуць у вочы куратаркі, але тут жа перавёў іх ніжэй і, не вытрымаўшы відовішча голых грудзей высокапастаўленай асобы, зусім апусціў долу.

— Я бачу, справа фізічнага выхавання ў вас тут зусім запушчана, — працягвала сваё Маргарыта Артураўна. — А як з веданнем ангельскай мовы? Чаму ў вас да гэтага часу на школе па-ранейшаму вісіць «Добро пожаловать!»? Расейшчына больш не актуальная, як мага хутчэй перарабіце па-ангельску!

— Прабачце, мы не паспелі… — пачаў апраўдвацца зусім заблытаны Лявонці Сцяпанавіч.

— У іншым месцы будзеце расказваць, — перапыніла яго куратарка. Тут яе позірк упаў на кубінскі часопіс.

— Вы што — кастрат? Я хацела сказаць: прыхільнік Кастра?

Дырэктар, збіты з панталыку такім пытаннем, нічога не змог адказаць, а толькі стаў адмоўна хітаць галавою.

— Праўдападобна, вы зусім не чытаеце ўрадавых газет!? Вы не ведаеце, што ў нас кардынальная змена арыентацыі?! Праз тры месяцы запланаваны поўнамаштабныя вучэнні з НАТАм.

Агаломшаны, счырванелы, як бурак, Лявонці Сцяпанавіч маўчаў — ён сапраўды не чытаў апошнія месяцы ніякіх газет, не лічачы гараскопаў і прагнозу надвор'я.

— Мабілізуйце ўвесь адміністрацыйны рэсурс! Сітуацыя сур'ёзная. Не спіце тут! І памятайце: галоўнае — гэта фізічная падрыхтоўка! Тыдні праз два пастараюся зноў да вас прыехаць. — Маргарыта Артураўна рэзка ўзнялася з-за стала, яшчэ раз бліснула сваім дасканалым целам праз разрэз плашча ды імкліва выйшла, ляпнуўшы дзвярыма.

Некалькі хвілін дырэктар сядзеў як укопаны, потым памаленьку выбраўся са свайго крэсла і, сагнуўшыся, каб яго не ўбачылі з вуліцы, падабраўся да акна. Ён асцярожна зірнуў на двор і ўбачыў хвост машыны, што выязджала са школьнага двара. Гэта быў «Мэрсэдэс» сталёвага колеру, такога ж, як і плашч Маргарыты Артураўны.

Лявонці Сцяпанавіч вярнуўся да стала, выцягнуў з ніжняй шуфляды стос кубінскіх часопісаў і стаў драць іх на як мага драбнейшыя шматкі. Паканчыўшы з праклятым «Хувентудам», ён скінуў пінжак, апусціўся на дыван і, цяжка сапучы, стаў адціскацца ад падлогі…


Фота www.mytravel.by

# Напярэдадні



Рычард БЯЛЯЧЫЦ

### Ты і верш

*Мне падабаецца, што верыш:*
*На гэтым свеце мы адны.*
*Па слову роднаму,*
*Па вершу*
*Збірала ў сонечныя дні.*
*Пяшчотна рукі падбіралі*
*І вочы, колькі поўдзень плыў,*
*У пацеркі,*
*Вянкі,*
*Каралі,*
*Каб пад вясёлкавы матыў.*

*З шуфляды і з-пад пакрывала*
*Праз ноч вымала,*
*Хоць на міг.*
*Нібы па тварах,*
*Пазнавала*
*Па рыфмах,*
*Вобразах ты іх.*

*Ты бачыш вернасць,*
*Чуеш згоду,*
*Плячо сяброўскае яго.*
*Бо верш прыходзіць назаўсёды,*
*Ён з дома болей ні нагой.*

*Ён твой і мой —*
*Мы помніць будзем.*
*Не абібока, не гультай.*
*А на дарогу добрым людзям*
*Не пашкадуй,*
*Перачытай.*

### Мне Вас шкада

*Быў верасень на словы не такім*
*Багатым*
*І на сонца дужа рэдкім.*
*Мне Вас шкада,*
*Таму што скразнякі*
*Са свежым урываюцца паветрам.*

*Лягчэлі кроны,*
*Думалі яны*
*За жураўамі паляцець над полем.*
*Мне Вас шкада,*
*Таму што будуць дні*
*На твары незнаёмыя ўсё болей.*

*І застаюся паміж зор адзін*
*На ростанях зямных,*
*Але на волі.*
*Мне Вас шкада,*
*Бо жураўліны клін,*
*Як міг,*
*Не паўтараецца ніколі.*

*Не трэба мне паўсвету аднаму,*
*А Вам бы — журавінныя каралі.*
*Мне Вас шкада,*
*Напэўна, і таму,*
*Што Вы былое сёння шкадавалі.*

### Напярэдадні

*Алене Пасюце*

*Беларускія думкі мае*
*Вы ў букет падбіралі жывымі.*
*А дзе красак крыху не стае,*
*Аздаблялі прыгожа сваімі.*

*Не цвіла кампазіцыя дзе,*
*Дзе прыязную ўсмешку ні стрэне,*
*У крынічнай чысцюткай вадзе*
*Беларускасць*
*Пускала карэнне.*

*Там пялёсткі да рук, да вачэй,*
*Прыпадаючы, быццам пара ім,*
*Станавіліся толькі ярчэй*
*Па бялюткім прыснежаным краі.*

*Напярэдадні светлых Каляд*
*Пад марозным блакітным парывам*
*Чуць імя ракатлівае рад*
*Побач з Вашым*
*Здаўна лёгкакрылым.*

*Будзе словаў няшмат.*
*Іх найперш*
*Бог пасыпаў*
*Бацькоўскаю жменяй.*
*Як бясконцы Сусвет,*
*Стане верш*
*Мой і Ваш*
*У імя прадаўжэння.*

### Малая радзіма

*І будзе маліцца зямля*
*На ноч*
*І марозным світаннем.*
*Малая радзіма мая*
*З каленяў ніколі не ўстане.*

*Пад хмарамі не пазнаю*
*І край,*
*І дзяржаву,*
*І крэсы.*
*Цяпер жа радзіму маю*
*Ніхто і ніщто не ўваскрэсіць.*

*Хоць потым нямала падкоў*
*Пазбілі ад «аз», «букі», «ведзі»,*
*Усе мы з былых пастушкоў,*
*Хто сноў на зары не дагледзеў.*

*Бацькі не забралі з сабой,*
*Сама ж бараніцца не ўмела.*
*Вялікі завоблачны боль*
*Радзімы маёй утравелай.*

*Зацьменне.*
*Крычы-не крычы,*
*Пішы-не пішы.*
*Не паможа.*
*І думай-не думай аб чым...*
*Парай мне*
*І злітуйся, Божа.*

### Тут

*Тут атуліўся нябесны абшар*
*Па-над святою Гародняй:*
*Вершы свае прамаўляе святар*
*Па-беларуску сягоння.*

*Голас у цемру свячэннем урос*
*І спавядаецца роўна.*
*Слухае класік*
*І вечны Хрыстос,*
*Што прызямліўся ля Нёмна.*

*Чуюць анёлы,*
*І слухае люд*
*Годны,*
*Цярплівы,*
*Суровы.*
*Перад Сусветам нязведаным тут*
*Добра мне з роднаю мовай.*

*Упершыню я паэта такім*
*Чуў,*
*Бы па краі ён крочыў.*
*Словы матуліны*
*Беглі ў радкі,*
*Стаўшы малітвай аднойчы.*

### Жанчына ў чорным

*Сябры высакародныя мае,*
*Трывае скрозь нябеснае павека,*
*А Ігара Жука нам не стае —*
*Прафесара, руплівцы, Чалавека.*

*Вялікі Нёман стаў тады хмурней,*
*І горад запаволіў крокі злёгку,*
*Калі згубіўшы ўсмешку,*
*Пабляднеў,*
*Бы неба*
*На няўрымслівую зорку.*

*Між намі сталі толькі дзве зімы.*
*Па Млечным Шляху,*
*Нібыта па пляцы,*
*Пайшоў адсюль паломнікам,*
*А мы*
*Вярнуліся, яго каб дачакацца.*

*Навошта неразумная зіма*
*Прыходзіць на яго прыступкі мела.*
*Не бачыў аніколі, а пазнаў*
*Жанчыну ў чорным*
*У Сусвеце белым.*

*Ні ўчора і ні сёння не прыйшоў.*
*Не запрашаю, не вiню, не дакараю..*
*Лягла касынка чорная лясоў*
*На лоб зіме самой*
*І небакраю.*

* * *

*Неба наранку шырэй і глыбей,*
*Спаць не збіраецца вечар.*
*Чым жа пакрыўдзіў учора цябе,*
*Не здагадаўся аб нечым?*

*Мне спавіваць,*
*Як дзіця, дапазна*
*Верш для цябе адмысловы.*
*І на сябе не падобна вясна*
*Позіркам, крокам*
*І словам.*

*Горад не родны.*
*І вецер чужы*
*Хмараў не можа напіцца,*
*Зносіць з вачэй у пясок капяжы,*
*Што нараджалі крыніцу.*

*Але рыхтуе ўваходзіны шпак,*
*Зайцаў касцёр на паляне.*
*Будзе назаўтра ў ваколіцы так,*
*Як*
*Пры сустрэчы ты глянеш.*

*Вернецца потым пад сонца здалёк*
*Напаўзабытая вера.*
*Кроны захмеліць бярозавы сок,*
*Вуснаў*
*Спахопіцца*
*Бераг.*

### Прадчуванне

*Мне нажурчэла крыніца,*
*Жаўранак цвердзіў пра гэта:*
*Штосьці павінна адбыцца*
*Ў сіняй бясконцасці свету.*

*Зоркі, аднак, не знікаюць*
*Болей няхай з-пад нябёсаў.*
*Здымкі жаўцеюць на памяць,*
*Дзе я шчаслівы і босы.*

*Пахнуць дарогай святліцы,*
*На падаконніку — краскі.*
*Не перастануць іскрыцца*
*Згадкаю вочы*
*І ласкай.*

*Штосьці адбыцца такое*
*Ў свеце бясконцым павінна.*
*Бог дакранецца шчакою*
*Да сінявокай краіны.*

### Перапынак

*Прайшло маіх гэтулькі зім,*
*Як след ад парога зачаўся.*
*Бяру перапынак ва ўсім:*
*У словах, дарогах, у часе.*

*Мяне не чакайце цяпер,*
*Ні вочы,*
*Ні гусі,*
*Ні зоры.*
*Я дзікі на вольніцы звер,*
*У пушчы прыжыўся каторы.*

*А людзі спаткаюць ля рэк*
*Сляды, што здадуцца сваімі.*
*Я снежны цяпер чалавек*
*Без хаты, прапіскі, без імя.*

*Малюся агню і вярбе,*
*Забуду і славу, і крыўду.*
*І толькі насустрач табе,*
*Успомніўшы светлае, выйду.*

*Ва ўсім перапынак,*
*Але,*
*Калі загрукочуць ільдзіны,*
*Там будзе ўзыходзіць*
*На шкле*
*Дыханне*
*Маё*
*І Радзімы.*

### Прызнанне

*Чамусьці жадаю прызнацца*
*Прышчучынскае старане:*
*Дануту Бічэль у палацы*
*Чытаць сімвалічна ўдвайне.*

*Ляцяць журавы беспрыстанку —*
*Відацца з вялікіх акон.*
*На ганку Марыся і Янка,*
*Яна маладая*
*І — ён.*

*Два крокі да светлай радзімы,*
*Да Нёмна не болей, чым тры.*
*Каб бачыць, дзе ногі вадзілі,*
*То хмары з нябёсаў сатры.*

*Зайздросціць высокай сталіцы,*
*Любові, каханню...*
*О, не.*
*Хутчэй побач з ёй падзівіцца*
*Бясконцай вясне будзе мне.*

*Пад вокладку роднае хаты*
*Тут не зазірнуць я не мог,*
*Каб ведаць,*
*Што гэта пачатак*
*І песні,*
*І дня,*
*І дарог.*

# Берлін, Барысаў і касцюмы


Лявон ВАЛАСЮК

**Іванаў бацька, Мікола, дайшоў да Берліна і ў самыя апошнія дні вайны трапіў у шпіталь з кулявымі раненнямі ног. Пашчасціла, што выратавалі, не застаўся інвалідам і вярнуўся ў родную вёску, нават не пакульгваючы, але ж…**

У Берліне яшчэ да ранення перахапіў сабе салдат у разбітым дашчэнту магазіне два файныя трафейныя касцюмы. Яны былі пашыты на яго, высокага і плячыстага вясковага хлопца. Вельмі ўжо ж спадабаліся Міколу касцюмы. Адразу падумаў пра вяселле з чарнявай дзяўчынай-аднавяскоўкай Надзеяй, якая ў марах даўно не давала яму спакою. У рэдкія хвіліны адпачынку ўспамінаў хлопец яе мілагучны голас і добразычлівую ўсмешку.

…Калі франтавік-артылерыст выпісаўся са шпіталю і вярнуўся ў часць, касцюмаў у чамадане не аказалася: нехта «прыбраў іх да рук». Па схуднелай шчацэ салдата спаўзла тады скупая сляза. Было крыўдна, бо зрабілі гэта, хутчэй за ўсё, свае, тыя, хто ведаў пра абноўкі.

Іван атрымаў позву ў войска ў канцы шасцідзясятых, акурат пасля вядомых падзей у Чэхаславакіі. Пачынаў службу ў «Печах» пад Барысавам. Праз паўгода, спазнаўшы ўсе «тяготы и лишения военной службы», стаў сяржантам.

Івану Траццяку, сціпламу вясковаму хлопцу, напачатку цяжкавата было прызвычаіцца да новага ладу жыцця. Дапамагала вясковая трывучасць ды фізічная загартоўка.

Пасля вучэбкі былых курсантаў адпраўлялі ў розныя куткі Саюза. Шмат іх трапляла і на тэрыторыю краін Варшаўскай Дамовы. Івану, статнаму сяржанту-выдатніку, як і ўсім, хто павінен быў служыць за мяжой, выдалі новую, з іголачкі, форму. Перспектыва пабачыць свет, як некалі бацька, спачатку парадавала. Але ж хутка такое жаданне знікла. Віной таму стала дзявочае пісьмо.

— Таварыш капітан, — звярнуўся малодшы сяржант да свайго камандзіра, капітана Віняградава, — дазвольце застацца дома, у роднай Беларусі! Тут з мяне будзе больш карысці.

— Заставайся, калі ты такі дурань!.. — нечакана згадзіўся капітан. — Іншыя спяць і бачаць сябе за мяжой. Можаш здаваць форму…

Далейшую службу Івана адправілі праходзіць у вучэбны цэнтр на танкавы палігон, які знаходзіўся ў лесе далёка ад дарог.

Падраздзяленне абслугі ў трыццаць чалавек займала невялікую цагляную казарму. Сярод «служывых» былі і такія, што «дабівалі» 4-х і 3-х гадовыя тэрміны. З імі лепш было не перасякацца…

Служба ішла будзёна: амаль кожны дзень адно і тое ж. На хрыпучым прайгравальніку ў ленінскім пакоі ляжала ўсяго адна кружэлка з вядомай да асатанення песняй «Жил да был чёрный кот за углом…». Яе слухалі па дваццаць разоў запар. Часцей гэта адбывалася ў суботу і нядзелю альбо з нагоды дня народзінаў таго ці іншага з бывалых служак. Во тады ўжо песня гучала да паўночы, пакуль нехта не здымаў яе з прайгравальніка і не хаваў да наступнага «свята».

«Чорны кот» за кароткі час выеў Івану ўсе мазгі. Ён не разумеў, як не звар'яцелі ад гэтай настырнай мелодыі «дзяды», якія былі на апошнім тэрміне службы.

Наводдаль ад палігона была вёска, з якой мясцовыя дзяўчаты напрасткі прабіраліся на танцы ў пасялковы клуб.

…Аднойчы Іван з вечара нёс варту і напаткаў трох прыгажунь.

— Стой, страляць буду!.. — выкрыкнуў сяржант і зняў з пляча аўтамат. — Хто такія?!. Тут нельга хадзіць!..

Парушальніцы ляснога спакою прыпыніліся, нічога не разумеючы. Яны не прывыклі да такіх адносін ад вайскоўцаў, таму абурыліся. Адна, крыху старэйшая, насмешліва кінула сяброўкам:

— Салдацік зусім малады, не разумее, што з намі трэба сябраваць…

Сяброўкі весела засмяяліся і пайшлі далей сваёй дарогай. Іван жа доўга глядзеў ім услед. Няёмка адчуваў сябе ў выцертым, падноўленым металічным «драпаком» шынялі ды кірзавых ботах. Вось каб у клуб з імі, каб мадняцкі касцюм ды кашуля пад гальштукам!..

Палігон ажываў, калі праходзілі вучэнні.

Мітусіліся салдаты і афіцэры, бухалі гарматы, чуўся аўтаматны трэск. Падраздзяленне абслугі несла асаблівую адказнасць за бяспеку.

Неяк да танкавых боксаў прывезлі некалькі мяхоў рызня для абслугоўвання тэхнікі. Ніхто не захацеў капацца ў старызне, і тады Іван, гаспадарлівы вясковы хлопец, узяўся за іх распакоўку. І трэба ж такому здарыцца: нечакана патрапіў на два амаль новыя касцюмы цёмна-шэрага колеру. Прыклаў да плячэй, прымераў — падыходзяць акурат. Вось будзе «ўзнагарода» за службу на дэмбель! Апране і пакрасуецца перад вясковымі дзяўчатамі.

Івану закарцела апрануць касцюм, адчуць сябе «цывільным», вольным ад службы чалавекам, што ён і зрабіў. Але ж атрымалася так, што на лясной сцежцы напароўся на палкоўніка, які невядома адкуль тут узяўся.

— Баец, бягом да мяне!.. — гаркнуў той. — Што за безабразіе?!. Скідай і давай сюды!..

Камандзір дастаў складны нож, ухапіў пададзены Іванам пінжак за каўнер і парэзаў, пашматаў яго ды кінуў пад ногі.

— Пяць сутак гаўптвахты!.. — абвясціў уладным голасам, выціраючы падэшвы аб падкладку.

Іван пачаў прасіць:

— Таварыш палкоўнік! Я хацеў касцюм дамоў, у вёску, панасіць пасля службы, а вы — пяць сутак… І так нічога не бачу, акрамя танкаў і дрэў…

— А табе больш нічога і не патрэбна бачыць, — як адрэзаў палкоўнік і пайшоў сваёй дарогаю…

…Абышлося, праўда, без гаўптвахты, але і касцюм прапаў. Нагавіцы сяржант распаласаваў ужо сам. А з другім гарнітурам выйшла наступная гісторыя.

Таварыш па службе ехаў у водпуск — жонка нарадзіла, то Іван і аддаў яму сваю знаходку. Сам жа дамоў не рваўся: з'ездзіш на тыдзень, расслабішся, а пасля зноў у казарму. Быў бы яшчэ новы касцюм. А так…

Прайшоў час. Іван Мікалаевіч «выйшаў у людзі»: ажаніўся, займеў дзетак і дачакаўся ўнукаў. І толькі вось што дзівавала ўсіх, хто яго ведаў блізка… Ад пары вяртання са службы і да сталага веку было ў Івана Мікалаевіча асаблівае стаўленне да адзення. Мужчына любіў хадзіць ва ўнівермаг і гадзінамі прымерваць там пінжакі. Але, дзіва дзіўнае, ніводзін з іх так добра не ляжаў на плячах, як колішні, шэры, з шырокімі лацканамі і накладнымі кішэнямі па баках. Той самы, у якім не ўдалося пафарсіць, вярнуўшыся са службы, перад прыгажуняй-аднавяскоўкай, што стала добрай жонкай. Праўда, ягоная Валя заўсёды насцярожвалася, калі маладжавы і па-ранейшаму прывабны муж дабаўляў у гардэроб чарговую абноўку.

# Аптымізм па-беларуску

**Зацемкі розных гадоў**


Таццяна БАРЫСІК

Вясковец распавядае знаёмаму пра сыноў-падлеткаў:

— Вось Сярожка — гэта мой сын, бо работнік: ён і свіням дасць, ён і ў гародзе, ён і вады прынясе! А Віцька, што Віцька? Адно слова — ён у мяне культурыст!

— Як культурыст?

— Ну… толькі адзецца любіць культурна і па вуліцы прайсціся!

У краму заходзіць дзядок на падпітку і працягвае крамшчыцы грошы:

— Мне піва.

Дзяўчына дае яму паўлітру.

— Скажы, дзевачка, а ці мыла ты сёння рукі? — цікавіцца дзядок.

— А што такое? — абураецца знiякавелая крамшчыца.

— Ды, мусіць, здача да рук прыліпла!

Пажылы дзядзька ў новым плашчы выйшаў прагуляцца на вясковую вуліцу, каб пагаманіць. Але вёска даўно спусцелая, на вуліцы — нікога, ані абновай пахваліцца, ані словам перакінуцца. Раптам на самай ускраіне паказаўся незнаёмец на веласіпедзе! Параўняліся.

— Скажы, мілы чалавек, ці не бачыў ты тут каня? — пытае веласіпедыст.

— Ды пачакай, я тут прагульваюся, я тут усё знаю, я ўсё табе раскажу, — узрадаваўся дзядзька нечаканай магчымасці пагаманіць.

Абнадзеены незнаёмец злазіць з веласіпеда, скідае торбу, да руля прымацаваную, чуе працяг:

— Не, коней тут не было!

З размоў у аўтобусе:

— Праходзьце ўпярод, я да самага заду еду.

Пасажыр на заднім сядзенні аўтобуса Віцебск–Бабруйск пачаў выпіваць, мусіць, яшчэ ў Віцебску, працягнуў у Воршы, у Магілёве яму закарцела выйсці. Па вяртанні ён, валюхаючыся, прэўца на месца, бы мядзведзь праз лоўж, топча і раскідвае сумкі ды валізкі ў праходзе.

— Мужчына, вы куды?! — чуецца спалоханы запыт-стогн.

— Ік! У Бабруйск! — упэўнена адказвае паддаты падарожнік.

**Аптымізм па-беларуску**

Вясковая сям'я купляе ў краме дыван. Разгарнулі, агледзелі: «Ай, харошы, ай, новенькі! — не можа стрываць кабета сваіх эмоцый і, уздыхнуўшы, прарочыць: — На ім мяне і паложаць!..».

Службовы аўтобус едзе паўз прахадную стратнага прадпрыемства. Жанчыны на першым сядзенні пазіраюць на дзверы колішняй назаўсёды зачыненай заводскай сталоўкі і вядуць няспешную гутарку:

— А куды ж тыя дзеўкі падзеліся, што тут рабілі?

— А знаеш, усе недзе прыстроіліся: Ірка — у школьным буфеце, Наташка — у кафэ, Галька — тады йшчэ на пенсію пайшла. Зінка — вапшчэ памерла…

Канец ХХ стагоддзя. У адзіную жылую хату пасярод вёскі неспадзявана ўвальваецца жыхар суседняга яшчэ больш бязлюднага і занядбанага паселішча і просіць гаспадарскую ўнучку-студэнтку выклікаць хуткую дапамогу. Дзяўчына набірае нумар.

— Што здарылася? — пытае апаратар у слухаўцы.

— Анька ўпала — грудзі пабіла! — падказвае дзядзька з парога.

— Ушыб грудной клетки, — паведамляе дзеўка.

— Узрост?

— Ат, старая ўжо! — крычыць дзядзька.

— Семдзесят пяць.

— Адрас?

— Вёска Красная Зара.

— Вуліца?

— Там няма вуліц.

— Нумар дома?

— Там няма нумароў.

— Тэлефон?

— Там няма тэлефонаў, за тры кіламетры да нас прыйшлі, каб пазваніць!

— Як туды праехаць? — пытае аператар.

Дзеўка, прыгадаўшы, што ўказальніка на шашы няма таксама, не вытрымлівае і перадае слухаўку дзядзьку.

— Як з Глушы ехаць — будзе першы паварот, не збочвайце. Будзе другі — там звернеце.

— Дык дзе шукаць хворую?

— Пры дарозе стаіць разбураная ферма, ля фермы я вас і сустрэну.

Даехалі?

Прадаваў неяк на кірмашы дзядзька каўнер з бабра. Падыходзіць да яго пакупніца:

— А гэта бабёр малады?

— Малады, бачыце — поўсць не лезе з яго, бліскучы!

— А колькі гадоў бабру было? — настойліва цікавіцца пакупніца.

— Калі злавілі — дык у сраццы пашпарту не знайшлі! — без усялякае далікатнасці тлумачыць гандляр.

— Ну, як вы матчын юбілей справілі?

— Вой, добра! Усяго хапіла. Лічы, тры вёскі ў нас гулялі — усе дзевяць чалавек.

Схавала баба ад дзеда буталь самагонкі. У гной закапала. Здавалася б — надзейная схова. Аж не! Раніцою паднялася — буталь ля ганку, паддаты дзед побач.

— А каб жа ты не даждаў! — крычыць баба.

— То ж карова рагамі выкапала! — апраўдваецца дзед.

Падпіты тэлеглядач заснуў на канапе пад нуднае тэлевізарава буркатанне. У выніку — праспаў і навіны, і прагноз надвор'я. Раптоўна, абудзіўшыся ад гучнага на ўсю хату спеву «Друга я никогда не забуду, если с ним подружился в Москве…», прамовіў:

— Масква, Масква… Да ну яе на́ хрэн, лепш у Асіповічах жыць! — і павярнуўся на другі бок, да экрану азадкам.

З размовы сябровак у дызелі.

— Вось у суседкі мужык дык мужык! Не п'е, для сям'і старaецца. Па суботах палавічкі трасе, за жонкаю торбы носіць, на дачы робіць усё. А мой зарабляць толкам не зарабляе, з работы прыйдзе — адно знае: тэлевізар і ляжаць лежма. Па выходных ці дома, ці на дачы — надрызгаецца, тады цягай яго!

— Затое памрэ, дык хоць не жалка!

# Праславілі ў свеце сябе

**Расейская імперыя не толькі высмоктвала з Літвы-Беларусі матэрыяльныя багацці, але і рабавала розумы і душы яе жыхароў. Каланізатары зачынілі ў беларускіх губернях усе вышэйшыя навучальныя ўстановы: Полацкую Акадэмію, Віленскі ўніверсітэт, Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Беларуская мова была забароненая ў навучанні і кнігадрукаванні. У такіх умовах, каб атрымаць адукцыю, зрабіць навуковую ці творчую кар'еру, шмат хто вымушана пакідаў свой край. Дзясяткі тысяч нашых суайчыннікаў апынуліся на чужыне пасля паўстанняў супроць расейскай улады: адных выслалі ў Сібір, другія ратавалі жыццё і свабоду, з'ехаўшы ў іншыя краіны. Многія з таленавітых землякоў, не парываючы духоўнай лучнасці з радзімай, у XIX стагоддзі змушаныя былі займацца навукай і вынаходніцтвам далёка ад родных дарог і сцежак. Беларусы-ліцьвіны часта дасягалі вядомасці ў замежжы, тым самым здабываючы славу і для Айчыны, у вольную будучыню якой верылі... У гэтым аповедзе мы пагаворым пра знакамітых у свеце беларусаў — прадстаўнікоў дакладных навук і прыродазнаўцаў.**






Уладзімір АРЛОЎ

## Каралева матэматыкі

Выдатным матэматыкам, першай у свеце жанчынай-прафесарам стала Соф'я Кавалеўская, якую называюць «каралевай дакладных навук». Яна паходзіць з беларускага шляхецкага роду Корвін-Крукоўскіх і правяла дзяцінства ў бацькоўскім маёнтку Палібіна Невельскага павета Віцебскай губерні. Дзед Соф'і быў матэматыкам. Відаць, невыпадкова сцены яе дзіцячага пакоя абклеілі аркушамі са складанымі ўраўненнямі ды лекцыямі па матэматыцы. Так у дзяўчынкі нарадзілася першая цікавасць да свету лічбаў.

Паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў царскай імперыі жанчынам не дазвалялася. Соф'я вучылася ў Гайдэльбергскім і Берлінскім універсітэтах, а доктарскую дысертацыю абараніла ва ўніверсітэце яшчэ аднаго нямецкага горада — Гётынгена. Толькі ў выніку еўрапейскага прызнання Соф'ю прыняло ў свае шэрагі Маскоўскае матэматычнае таварыства. Пасля высокіх прэмій, якімі Кавалеўскую адзначылі Парыжская і Шведская акадэміі, нашую зямлячку нарэшце абралі ў сябры-карэспандэнты Пецярбургскай Акадэміі. Велізарны аўтарытэт прафесар Кавалеўская мела, працуючы ў Стакгольме.

Жыццёвы дэвіз Соф'я сфармулявала такімі словамі: «Я адчуваю, што павінна служыць навуцы і пракладаць новы шлях жанчынам». Яна была надзеленая і літаратурным талентам: напісала некалькі аповесцяў па-расейску, а раман і ўспаміны пра паўстанне 1863 года — па-шведску.

Сучаснікі ведалі асабістую мужнасць Кавалеўскай. У дні Парыжскай камуны яна прабралася ў аточаную ворагамі французскую сталіцу і даглядала там параненых.

У беларускай вёсцы Палібіна ( цяпер яна ў Вялікалуцкім раёне Пскоўскай вобласці Расеі) створаны Дом-музей Соф'і Кавалеўскай. Яе імя мае адна з адкрытых астраномамі новых планет.

## Першыя часопісы і «эфект Садоўскага»

Да вядомых матэматыкаў XIX стагоддзя належыць і Васіль Ермакоў (родам з Гомельшчыны). Ён заснаваў першы ў Расейскай імперыі часопіс па элементарнай матэматыцы. Першы фізічна-матэматычны часопіс выдаваў у 1860-я гады ў Вільні зноў жа беларус Кароль Чаховіч з-пад Ашмянаў. Ён увaходзіў у шматлікія навуковыя таварыствы, браў удзел у еўрапейскіх з'ездах вучоных. На Маскоўскай тэхнічнай выставе 1872 года за стварэнне новых прыладаў для фізічных эксперыментаў Чаховіча ўзнагародзілі залатым медалём.

У галіне фізікі ў той час вызначыліся віцяблянін прафесар Дэрпцага (Тартускага) універсітэта Аляксандр Садоўскі і ягоны зямляк Іван Яркоўскі. Кожны фізік ведае, што такое «эфект Садоўскага», звязаны з уласцівасцямі святла. Інтарэсы Яркоўскага былі надзвычай разнастайнымі: будова Сусвету і малекулярныя сілы, зямны магнетызм і гравітацыя, касмічныя целы і вулканічная дзейнасць.

## Механікі і вынаходнікі

Першы ў царскай імперыі падручнік практычнай механікі напісаў выпускнік Віленскага ўніверсітэта Мікалай Ястрэбскі (родам з-пад Рэчыцы). Гэты таленавіты інжынер-механік кіраваў будаўніцтвам шашы Магілёў-Кіеў, спраектаваў мост цераз Дзвіну ў Віцебску і цераз Дняпро ў Магілёве, прапанаваў для ўзвядзення мастоў новыя трывалыя матэрыялы. У Магілёве Ястрэбскі пабудаваў першы ў краі паравы млын, які нічым не саступаў найлепшым падобным прадпрыемствам Еўропы. Ён цікавіўся магчымасцямі электрычнасці і прадказаў, што ў будучыні на змену паравым машынам у прамысловасці прыдуць электрарухавікі.

Выпускнік Пецярбургскага ўніверсітэта Іпаліт Яўневіч з Сенненскага павета вызначыўся ў даследаваннях супору матэрыялаў, а таксама ў гідраўліцы і практычнай механіцы. Ён пазнаёміўся з дзейнасцю заводаў Францыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі ды Нямеччыны і зрабіўся спецыялістам у машынабудаванні. Яўневіч — аўтар некалькіх падручнікаў, у тым ліку першага ў Расеі навучальнага дапаможніка па тэорыі пругкасці.

У ліку вынаходнікаў таго часу — беларус Казімір Чарноўскі. Былы напалеонаўскі гвардзеец, а потым студэнт і сябра нелегальнага патрыятычнага гуртка апынуўся ў казематах Петрапаўлаўскай фатрэцы. Дапытлівы розум вязня не хацеў заставацца без справы. Казімір перадаў на волю не зварот пра памілаванне, а праект пабудовы падводнай лодкі (субмарыны) цалкам з металу. Чарноўскі распрацаваў і канструкцыю перыскопа. Улады аддзячылі вынаходніку пераводам у Шлісельбургскую цытадэль, дзе ўмовы ўтрымання зняволеных былі цяжэйшыя. Цяпер мадэль субмарыны Чарноўскага можна пабачыць у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

## Прафесар электраграфіі

У навуковых колах Парыжа і Вены, Берліна і Рыма тады не трэба было доўга тлумачыць, хто такі Якуб Наркевіч-Ёдка. Гэты наш зямляк праславіўся перадачай электрычных сігналаў без дроту — стварыў першы ў свеце праўобраз радыёпрыймача.

Ён плённа даследаваў уплыў электрычнасці на расліны і чалавечы арганізм. Наркевіча-Ёдку менавалі «прафесарам электраграфіі і магнетызму». Яму належаць і важныя адкрыцці ў метэаралогіі: вызначэнне хуткасці аблокаў, вымярэнне вільготнасці глебы.

На Меншчыне, у сваім маёнтку Наднёман, Наркевіч-Ёдка адкрыў метэаралагічную станцыю і абсталяваную паводле апошніх дасягненняў тэхнікі лабараторыю. Там, выкарыстоўваючы электраграфічныя здымкі, ён праводзіў дыягностыку хворых, лекаваў некаторыя хваробы электрычным токам. Пра дасягненням гаспадара Наднёмана паведамлялі газеты і часопісы многіх краін, а ў Парыжы яшчэ пры жыцці вучонага выйшла прысвечаная яму кніга.

## Аўтар трохфазавага рухавіка

Паспяховым электратэхнікам і вынаходнікам застанецца ў гісторыі Міхал Даліва-Дабравольскі паходжаннем з даўняга беларускага шляхецкага рода. За ўдзел у антыўрадавай агітацыі яго выключылі з Рыжскага політэхнічнага тэхнікума і забаранілі паступаць у вышэйшыя навучальні царскай імперыі.

Завяршыўшы адукацыю ў Нямеччыне, Міхал застаўся там і хутка ўвайшоў у лік самых знаных вынаходнікаў Еўропы. Менавіта ён — аўтар трохфазавага электрарухавіка, канструкцыя якога дагэтуль амаль не змянілася. Апрача таго Даліва-Дабравольскі ўпершыню здзейсніў перадачу электрычнасці на вялікую адлегласць, стварыўшы для гэтага новую мадэль трансфарматара.

На міжнароднай электратэхнічнай выставе 1891года ў Франкфурце-на-Майне наведнікаў сустракаў штучны вадаспад. На яго падаваў ваду магутны рухавік Даліва-Дабравольскага магутнасцю сто конскіх сілаў. Рухавік сілкавала невялікая гідраэлектрастанцыя, што знаходзілася за 170 кіламетраў ад Франкфурта. Гэтае дасягненне мела нечуваны поспех і лічыцца пачаткам сучаснай электрыфікацыі.

## Прыродазнаўцы Дыбоўскія

Знакамітыя прыродазнаўцы XIX стагоддзя — браты Бенядзікт і Уладзіслаў Дыбоўскія, якія паходзілі з Вілейскага павета. Абодва абаранілі ўніверсітэцкія дыпломы ў Дэрпце і займаліся ўлюбёнай справай, аднак за ўдзел у паўстанні 1863 года былі надоўга адарваныя ад яе.

Доктара медыцыны, прафесара заалогіі і палеанталогіі Варшаўскага ўніверсітэта Бенядзікта Дыбоўскага асудзілі на пятнаццаць гадоў сібірскай катаргі. Ён не скарыўся: вывучаў раслінны і жывёльны свет возера Байкал, рэк Амура і Ангары, а пазней — Камчаткі.

На радзіме даследваў беларускія азёры Свіцязь і Любань, знаходзіў час для заняткаў беларускай гісторыяй і этнаграфіяй. У Львоўскім універсітэце Бенядзікт Дыбоўскі стварыў музей заалогіі. Ён быў аўтарам шматлікіх артыкулаў у еўрапейскіх часопісах, дзе падтрымліваў і развіваў эвалюцыйную тэарыю англійскага вучонага Чарльза Дарвіна.

Уладзіслава Дыбоўскага пасля паўстання асудзілі на некалькі гадоў зняволення. Вызваліўшыся з Менскай турмы, ён заняўся флорай і фаўнай Беларусі, Прыбалтыкі і Сібіры, стаў доктарам мінералогіі. Заалагічныя, батанічныя і палеанталагічныя росшукі прынеслі яму еўрапейскую вядомасць.

У кола зацікаўленняў вучонага ўваходзіў і беларускі фальклор. Дыбоўскі надрукаваў свае зборнікі «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета» і «Беларускія загадкі з Менскай губерні». Вялікую цікавасць выклікаў ягоны артыкул пра айчынныя расліны ў паэзіі Адама Міцкевіча.

## Стваральнікі новых навук

Значны след у навуцы пакінулі браты Аляксандр і Уладзімір Кавалеўскія з Віцебшчыны.

Аляксандр плённа займаўся біялогіяй, здзейсніў паездкі ў Алжыр і на Чырвонае мора. Уладзімір, муж Соф'і Кавалеўскай, стаў паслядоўнікам Чарльза Дарвіна і перакладаў ягоныя кнігі ды артыкулы. Ён працаваў у Расеі, Францыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і заснаваў навуку, названую эвалюцыйнай палеанталогіяй.

Васіль Дакучаеў з беларускай Смаленшчыны стварыў новы

# і Айчыну

навуковы кірунак — глебазнаўства. У Горках нарадзіўся глебазнаўца і аграхімік — Пётра Касовіч.

У фізіялогіі дасягуў вялікіх поспехаў Браніслаў Вярыга родам з Віцебскай губерні.

### Дасягненні ў медыцыне

«Прафесар электраграфіі і магнетызму» Якуб Наркевіч-Ёдка, будучы дыпламаваным медыкам, адчыніў у маёнтку Наднёмане санаторый з перадавымі для таго часу формамі лекавання. Газеты пісалі, што хворым дапамагалі кумыс і мясцовыя мінеральныя воды, электрычныя і светлавыя працэдуры.

Першай у Расейскай імперыі жанчынай-хірургам стала дачка каліноўца Вера Гедройц з ліцвінскага княскага роду. Яна была выхаванкаю Лазанскага ўніверсітэта, бо — нагадаем — у Расеі атрымліваць вышэйшую адукацыю жанчынам было забаронена.

Вера абараніла доктарскую дысертацыю па хірургіі, перакладзеную на некалькі еўрапейскіх моваў, і стала аўтаркаю шасцідзесяці навуковых публікацый. Яна займалася лекаваннем сухотаў, анкалагічных і кардыялагічных хваробаў.

Доктар медыцыны Гедройц праслаўлялася тым, што праводзіла складаныя аперацыі, на якія не заўсёды адважваліся хірургі-мужчыны. Яна часта ратавала жыцці параненых у ваенна-палявых умовах.

### «Gran Edukador»

Кожны жыхар паўднёваамерыканскай краіны Чылі ведае, хто такі Ігнат Дамейка.

Адзін з самых знаных у свеце беларусаў прыйшоў на свет у 1802 годзе ў маёнтку Вялікая Мядзведка недалёка ад Міра. З дзіцячых гадоў у душы хлопчы-



ка жыла прага пазнання навакольнага свету. Яна прывяла Дамейку на фізічна-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Там ён хутка зблізіўся з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам, Тамашом Занам і далучыўся да суполкі філаматаў. Ігнат меў мянушку Жэгота, пад якой Міцкевіч увекавечыў яго ў паэме «Дзяды».

Жандары арыштавалі Дамейку па справе філаматаў і філарэтаў, а пасля зняволення выслалі ў дзядзькаў маёнтак пад нагляд паліцыі. У 1831-м Ігнат далучыўся да барацьбы за волю і ваяваў у корпусе генерала Хлапоўскага. Там ён сустрэў Эмілію Плятэр і стварыў партрэт графіні-змагаркі.

Жывучы на чужыне, Дамейка вывучаў у Парыжы батаніку, геалогію, мінералогію і хімію. З дыпломам аўтарытэтнай Горнай школы ён прыняў запрашэнне працаваць у Чылі. Гэтая краіна стала для ліцвіна другой радзімаю. Ён пражыў там амаль паўстагоддзя і дасягнуў вышыняў славы як мінеролаг, геолаг і даследнік прыродных багаццяў Чылі.

Шмат гадоў Ігнат Дамейка займаў пасаду рэктара ўніверсітэта ў сталіцы краіны — Сант'яга — і напісаў некалькі дзясяткаў падручнікаў. Па іх і сёння вучацца студэнты Паўднёвай Амерыкі. Аднак і неверагодна далёка ад Айчыны Дамейка не забываў сваё канспіратыўнае філамацкае імя, ніколі не развітваўся з перакананнямі юнацтва і цаніў чалавечую свабоду. Ён выступаў за дэмакратычныя правы студэнтаў, абараняў індзейцаў чылійскай правінцыі Араўканія.

У адным з лістоў на радзіму Дамейка пісаў: «Перарадзіцца я не змагу і — або ў Кардыльерах, або ў Вільні — усё роўна пакіну гэты свет ліцвінам».

Урад Чылі абвясціў нашага земляка нацыянальным героем. Там яго імя маюць гарады і вуліцы, радовішчы карысных выкапняў, гара ў Андах і цэлы горны ланцуг — Кардыльера Дамейка. На ягоным помніку ў Сант'яга выбітыя словы «Gran Edukador» — «Выдатны асветнік». Існуюць планета Дамейка, мінерал дамейкіт і фіялка Viola domeykana.

Сёння можна наведаць школьныя музеі вучонага ў яго родных мясцінах — вёсках Вялікая Мядзведка Карэліцкага і Крупава Лідскага раёнаў. Беларускія выдавецтвы надрукавалі ўспаміны Дамейкі «Мае падарожжы» і пераклад кнігі «Ігнат Дамейка: жыццё ў эміграцыі» ягонай праўнучкі сеньоры Пас, якая жыве ў Аўстраліі. На радзіме славутага сына беларускай зямлі праводзяцца прысвечаныя яму канферэнцыі і прысуджаюцца стыпендыі яго імя. Нацыянальны банк Беларусі выпусціў у гонар 200-годдзя суайчынніка некалькі памятных манет.

Кнігу пра Ігната Дамейку «Чалавек, які збіраў камяні» выдаў гісторык Здзіслаў Сіцька. З яе можна даведацца, што, прыехаўшы пры канцы жыццёвага шляху на Бацькаўшчыну, нацыянальны герой Чылі размаўляў з раднёй па-беларуску.

### Вуліцы Адольфа Янушкевіча

У гісторыі геаграфічных і этнаграфічных падарожжаў захавалася імя народжанага ў Нясвіжы паўстанца 1831-га Адольфа Янушкевіча. Па «мячы» (па бацькаваму радаводу) і «па кудзелі» (па матчынаму) ён быў родзічам Тадэвуша Касцюшкі і ўсё жыццё ганарыўся гэтым. Царскія суддзі пастанавілі пакараць яго смерцю на шыбеніцы. Урэшце прысуд замянілі на вечную высылку, забраўшы ўсю маёмасць і шляхецкія правы.

Янушкевіч жыў у сібірскіх Табольску, Ішыме ды Омску і шмат вандраваў па казахскіх стэпах. Ён зрабіў грунтоўныя апісанні Казахстана і Кіргізіі. Вывучыў казахскую мову і запісваў народныя легенды, паданні, казкі і песні. Дом Адольфа Янушкевіча нязменна быў месцам сустрэч палітычных высланцаў. Там гаспадар стварыў для таварышаў па няшчасці добрую бібліятэку. На паліцы, якую ён называў «залатой», стаялі кнігі Адама Міцкевіча.

Творы Янушкевіча цяпер перавыдаюцца на розных мовах. У сталіцы Казахстана Нур-Султане, у найбуйнейшым горадзе гэтай краіны Алматы і ў некалькіх іншых казахстанскіх гарадах ёсць вуліцы яго імя.

### Апошняя экспедыцыя Чэрскага

Васямнаццацігадовым Ян Чэрскі ваяваў у шэрагах каліноўцаў. Падпісваючы паперы пра пазбаўленне нядаўняга студэнта шляхецкіх правоў і



высылку на бестэрміновую салдацкую службу ў Сібір, суддзі не ведалі, што выпраўляюць юнака з Дрысеншчыны насустрач сусветнай славе.

Салдат Чэрскі звярнуў на сябе ўвагу афіцэраў шырокімі ведамі, і яму дазволілі запісацца ў бібліятэку. Неўзабаве ён захапіўся геалогіяй і палеанталогіяй...

Калі праз дванццаць гадоў Яну Чэрскаму дазволі вярнуцца з Сібіры, ён набліжаўся да зеніту славы. На навуковым рахунку былога паўстанца была першая геалагічная карта возера Байкал. Яго берагі падаравалі сенсацыйныя адкрыцці. У іх ліку Чэрскі выявіў стаянку чалавека каменнага веку.

Пецярбургская Акадэмія навук запрасіла Чэрскага ў сталіцу імперыі. Прэса называла яго «найлепшым знаўцам Сібіры». Ён адкрыў шмат невядомых раней геаграфічных аб'ектаў — гор, ледавікоў, вулканаў, сабраў каштоўныя калекцыі выкапнёвых і сучасных жывёл.

Падарванае сібірскім кліматам здароўе пакінула Чэрскаму лічаныя гады жыцця. Не зважаючы на дрэннае пачуванне, ён дабіўся права на трохгадовую экспедыцыю вакол рэк Калымы, Індзігіркі ды Яны. Праз некалькі месяцаў падарожжа Чэрскаму зрабілася зусім блага, але ён загадаў не спыняць экспедыцыю і тады, калі ягонае сэрца спыніцца. Да апошніх хвілін сэнсам жыцця для яго заставаўся пошук новых ведаў.

На геаграфічных картах сёння можна знайсці горную сістэму Чэрскага ў Якутыі і Магаданскай вобласці, горны хрыбет Чэрскага ў Забайкаллі, некалькі вяршыняў і ледавікоў, вулкан і пасёлак ягонага імя. Імя Чэрскага ўзяло сабе Іркуцкае таварыста беларускай культуры. У вёсцы Валынцы Верхнядзвінскага раёна, на радзіме вучонага, створаны яго музей.

З шляхты Гарадзенскай губерні паходзіў іншы праслаўлены падарожнік — Аляксандр Булатовіч. Ён захапіўся афрыканскай краінай Эфіопіяй і здзейсніў некалькі небяспечных вандровак па мясцінах, дзе раней не ступала нага еўрапейца. Булатовіч стаў даверанай асобаю негуса (імператара) Менеліка II і героем вайны эфіопскага народа з італьянскімі захопнікамі.

Даследнікам цяжкадасяжных у той час Кітая, Паміра, Цянь-Шаня быў беларус Рыгор Гром-Грымайла (Грум-Гржымайла). У некалькіх арктычных экспедыцыях удзельнічаў геолаг, географ і хімік Канстанцін Валасовіч родам са Случчыны. Акурат ён збірог парэшткі мамантa, што цяпер у Парыжскім музеі гісторыі прыроды. У паўночным архіпелазе Новая Зямля ёсць востраў імя Валасовіча.

Кароль Багдановіч з Віцебскай губерні вандраваў па Сібіры, Алясцы, Каўказу, Пірэнейскаму паўвостраву і афрыканскіх землях. Яго цікавілі радовішчы нафты, каменнага вугалю і золата. За вялікія заслугі Багдановіча прызначылі дырэктарам Геалагічнага камітэта Расеі. Ягонае імя мае ледавік у горнай сістэме Цянь-Шаня.

### За небасхілам Турана

У адным шэрагу з аўтарамі выдатных геаграфічных адкрыццяў Хрыстафорам Калумбам, Васка да Гамам, Фернанам Магеланам стаіць імя беларуса Мікалая Пржа-



вальскага з шляхецкага роду Перавальскіх.

Гэты род бярэ пачатак з часоў Інфлянцкай вайны сярэдзіны XVI стагоддзя. Далёкі продак будучага вучонага-падарожніка Карніла Перавальскі вызначыўся пры вызваленні Полацка ад маскавітаў і атрымаў шляхецтва і герб «Лук» ад самога вялікага князя і караля Сцяпана Батуры.

Мікалай нарадзіўся ў 1839 годзе на беларускай Смаленшчыне ў не надта заможнай шляхецкай сям'і. Разам з рана аўдавелай маці выхаваннем хлопчыка займалася нянька — прыгонная сялянка Вольга, якая любіла Міколку як сына. Ад няньکі малы чуў казкі і паданні, засвойваў назвы раслін, жывёл і птушак, вучыўся разумець прыроду. Мікалай Пржавальскі ўзгадваў, што ў дзіцячыя гады «рос дзікуном». Яму дазвалялася выходзіць з дому ў непагадзь, мокнуць пад залевамі і басанож бегаць па снезе, аднаму выпраўляцца ў лес, дзе можна было сустрэцца і з ваўком, і з мядзведзем. Усё гэта давала цудоўную загартоўку і прыдалося пазней у цяжкіх доўгіх падарожжах.

Пасля Смаленскай гімназіі Пржавальскі паступіў на вайсковую службу і стаў слухачом Акадэміі генеральнага штаба ў Пецярбурзе. У той час ён склаў «Ваенна-статыстычны агляд Прыамурскага краю». Агляд ацанілі вельмі высока, і дваццаціпяцігадовы Мікалай быў абраны правадзейным сябрам Расейскага геаграфічнага таварыства. На светапогляд і далейшы лёс Пржавальскага паўплывала блізкае знаёмства з слынным географам Пятром Цян-Шанскім.

У 1867–1888 гадах Мікалай Пржавальскі здзейсніў вялікія экпедыцыі ў Цэнтральную Азію: Усурыйскую, Мангольскую, Лабнорскую і Джунгарскую (да таямнічага салёнага возера Лабнор на захадзе Кітая і ў Джунгарскую даліну ў той самай краіне) ды дзве Тыбецкія. Гэтыя падарожжы прынеслі Пржавальскаму славу ва ўсім свеце. Ён удакладніў месца знаходжання некалькіх горных хрыбтоў і сістэмаў, сабраў найбагацейшыя калекцыі флоры і фаўны. У ягоных гербарыях налічвалася блізу 16 тысяч раслінаў, з іх 218 відаў былі раней невядомыя еўрапейскім батанікам. У апісаней Пржавальскім калекцыі жывых істотаў звыш 7500 жывёлаў, птушак, рыбаў і земнаводных, у тым ліку дзясяткі новых відаў. Ён адкрыў, напрыклад, дзікага вярблюда і дзікага каня, што з тае пары называецца канём Пржавальскага. Велізарную вартасць мелі астранамічныя і метэаралагічныя назіранні вучонага-вандроўніка.

Працы Мікалая Пржавальскага, напісаныя з пісьменніцкім талентам, пераклалі і выдалі на шматлікіх замежных мовах. Яны ўваходзяць у залаты фонд сусветнай геаграфічнай літаратуры. Высокімі званнямі і залатымі медалямі адзначылі нашага суайчынніка навуковыя ўстановы Вялікабрытаніі, Францыі, Нямеччыны, Аўстра-Венгрыі, Швецыі, Італіі.

У час чарговай экспедыцыі Пржавальскі, якому не споўнілася і пяцідзесяці гадоў, раптоўна захварэў і памёр. Пахавалі яго на беразе кіргізскага возера Ісык-Куль, дзе ўсталявалі помнік вучонаму. Ягонае імя прысвоенае горнаму хрыбту на Тыбеце, ледавіку на Мангольскім Алтаі, горнай вяршыні ў Кіргізіі, мысам на Алясцы і на Курыльскіх астравах.

Сучасных географаў за высокія заслугі ўзнагароджваюць залатым медалём Пржавальскага, а ў пасёлку Пржавальскае на Смаленшчыне існуе музей падарожніка. Адметнаму жыццю Мікалая Пржавальскага прысвечаная кніга Валера Ярмоленкі «За небасхілам спякотнага Турана».


Фота www.telegraf.com

Яўгенія Беларусец

# Літпрэмія за гісторыі пра моцных жанчын

**Нямецкую «Міжнародную літаратурную прэмію», якую штогод уручаюць за ўпершыню перакладзеныя на нямецкую мову кнігі, у гэтым годзе атрымала ўкраінская пісьменніца і фотамастачка Яўгенія Беларусец.**

Берлінскі Дом культураў свету паведаміў, што ўкраінка атрымала ўзнагароду за твор «Шчаслівыя падзенні».

У фокусе тэкстаў гэтай кнігі — гісторыі жанчын, якія лічаць сябе сведкамі ўласнага жыцця і «вялікай гісторыі», што прымусіла іх змяніць біяграфію і месца жыхарства.

Штогод прэмію звычайна прысуджаюць толькі двум асобам — аўтару і перакладчыку. У гэтым годзе заснавальнікі прэміі вырашылі ўзнагародзіць адразу шэсць пісьменнікаў/ц і шэсць перакладчыкаў. У прыватнасці, узнагароду атрымала кніга «Круг аматараў літаратуры» іранскага пісьменніка Аміра Хасана Чэхелтана — «за гісторыю з Тэгерана, семінар па гісторыі літаратуры».

Прэміі таксама атрымалі кніга нігерыйскага аўтара Чыгазі Абіома «Плач птушак», раман «Пяшчотны» балгарскага аўтара Ангела Ігова, паэтычны раман «Што за цуд» гаіцянскага паэта Джэймса Ноэля і «Крыклівае ўпрыгожванне» Ізабэль Вайднэр. Гэтыя шэсць кніг, адзначыла журы прэміі, «распавядаюць пра тое, як людзі вырашаюць канфлікты, як яны растуць і цярпяць няўдачы, як яны дасягаюць поспехаў і захапляюцца жыццём».

# Невядомы аповед Хэмінгуэя

**Раней невядомы аповед Эрнэста Хэмінгуэя «Пагоня як шчасце» быў апублікаваны ў чэрвеньскім нумары выдання «The New Yorker». Аповед аўтабіяграфічны, а яго назву прыдумаў сын пісьменніка.**

Рукапіс выпадкова знайшоў у бібліятэцы і музеі Джона Ф. Кэнэдзі ў Бостане ўнук пісьменніка Шон Хэмінгуэй. Галоўнага героя твора завуць Эрнэст Хэмінгуэй, у тэксце распавядаецца аб тым, як ён і ягоныя сябры палявалі на вялікага марліна.

У рукапіса не было назвы, таму яе выбраў сын Хэмінгуэя Патрык. Назва вельмі ўдалая, адзначыў унук пісьменніка Шон, паколькі аповед не зусім пра рыбалку, а пра задавальненне, якое яна прыносіць. Сын пісьменніка абраў такую назву ў якасці адсылкі да кнігі бацькі «Зялёныя ўзгоркі Афрыкі». «Пагоня як шчасце» — так аўтарам быў названы апошні раздзел кнігі.

# Поўны Збор твораў Лесі Украінкі

**Збор твораў Лесі Украінкі рыхтуецца да друку ва Усходне-Еўрапейскім нацыянальным універсітэце Украіны. Гэта першае поўнае акадэмічнае выданне твораў пісьменніцы. Усяго плануецца выдаць 14 тамоў.**

Іх макеты будуць падрыхтаваныя да канца 2020 года і надрукаваныя ў пачатку 2021-га. Выданне прысвечана 150-годдзю з дня нараджэння Лесі Украінкі, якое будзе адзначацца ў 2021 годзе.

Над кнігазборам класіка ўкраінскай літаратуры працавалі 30 даследчыкаў. У склад рэдакцыйнага калектыву далучыліся выкладчыкі і навукоўцы са Львова, Чарнаўцоў, Роўна, Жытоміра, Астрога і Кіева.

# Каго баяўся Андэрсан?

**Знакаміты дацкі казачнік Ганс Хрысціян Андэрсан, аўтар сусветна вядомых казак «Гадкае качаня», «Русалачка», «Дзюймовачка», «Снежная каралева», «Прынцэса на гарошыне» і шматлікіх іншых, быў вялікім... баязліўцам.**



З самага дзяцінства хлопчык рос вельмі нярвовым, быў занадта успрымальным і эмацыйным і ўсё сваё жыццё да самай старасці — вялікім панікёрам. Нават цяжка сказаць, каго ён не баяўся і ад чаго не пакутаваў. Валодаючы цэлым «букетам» дзіўных фобій, Андэрсан заўсёды ўцякаў на вуліцы ад сабак, вельмі баяўся незнаёмых людзей, а рабаванні мроіліся яму на кожным кроку.

Самая-самая малая драпіна на целе даводзіла пісьменніка да прыступаў жаху, а пералік назваў розных хваробаў выклікаў страшныя дрыжыкі.

У самых жудасных кашмарах вялікаму датчаніну бачылася, што ён будзе пахаваны жывым, таму перад сном ён штодня пакідаў ля ложка цыдулку: «Я жывы!». Менавіта праз гэтыя страхі Андэрсан, калі паміраў ужо ад раку печані, папрасіў, каб перад пахаваннем яму перарэзалі артэрыю.

Яшчэ адной вечнай пакутай пісьменніка быў зубны боль. Губляючы чарговы зуб, ён вельмі хваляваўся. А калі развітаўся з апошнім ва ўзросце 68 гадоў, то заявіў, што цяпер не зможа напісаць ніводнай казкі.

Агулам Ганс Хрысціян Андэрсан напісаў 3 381 твор, сярод якіх, акрамя знакамітых казак, ёсць раманы і п'есы. Яго кнігі пераклалі на больш за сто моваў свету.

Незадоўга да смерці — а пражыў Андэрсан семдзесят гадоў — пісьменнік папрасіў кампазітара Хартмана стварыць марш да яго пахавання. Прычым яго асаблівым жаданнем было «падагнаць» рытм жалобнага музычнага твора пад дзіцячы крок, бо меркаваў, што ў пахавальнай цырымоніі будуць удзельнічаць дзеці, для якіх напісаў шмат казак.

Сваіх дзяцей, як і жонкі, у Андэрсана не было, але чужым дзецям ахвотна распавядаў казкі, тым больш, што меў добры голас. Ён злаваўся, калі яго называлі дзіцячым пісьменнікам, кожны раз паўтараючы, што яго казкі напісаныя і для дарослых таксама. Напэўна, таму незадоўга перад смерцю казачнік строга забараніў адлюстроўваць дзяцей на прысвечаным яму помніку...

# Ганарары замежных пісьменнікаў

**Ці можна зарабіць мільён, напісаўшы кнігу? Вядома, можна...**

Калі паглядзець леташні рэйтынг «Forbes. 100 самых высокааплатных знакамітасцяў свету», мы ўбачым у ім і двух пісьменнікаў. Трынаццатае месца ў спісе папулярнага выдання заняла брытанская пісьменніца Джоан Роўлінг, якая стварыла серыю раманаў пра чараўніка Гары Потэра. Яе даход за мінулы год склаў 92 мільёны даляраў. Вядома, варта адзначыць, што не ўсе гэтыя грошы прынеслі кнігі аўтаркі, хоць і іх прадаецца нямала: сумарны наклад яе раманаў перавысіў 500 мільёнаў асобнікаў — больш толькі ў Бібліі! «Ільвіную» долю даходу паспяховай раманістцы прыносяць фільмы, тэматычныя паркі, франшызы і выплаты ад пастаноўкі п'есы. Толькі адзін тыдзень паказу тэатральнай пастаноўкі прынёс 2,3 мільёна даляраў за продаж квіткоў (гэта рэкордны паказчык за ўсю гісторыю Брадвея). А дзясяты фільм пра чароўны свет Гары Потэра — «Фантастычныя звяры: злачынствы Грын-дэ-Вальда» — сабраў больш за 650 мільёнаў даляраў у пракаце па ўсім свеце.

На 28-м радку рэйтынгу «Forbes» размясціўся самы высокааплатны аўтар ЗША, аўтар трылераў і дэтэктываў Джэймс Патэрсан з прыбыткам 70 мільёнаў даляраў. Ён прадаў каля 5,5 мільёнаў асобнікаў сваіх кніг.

Мультымільянеркай з'яўляецца і брытанка Эрыка Джэймс, аўтарка «50 адценняў шэрага». У лютым 2012 года яна разам са сваім мужам Найалам Леанардам стварыла кампанію «Fifty Shades Ltd», каб акумуляваць даходы ад бізнэсу, звязанага з кнігай «50 адценняў шэрага» і двума яе сіквеламі — «На пяцьдзясят адценняў цямней» і «На пяцьдзясят адценняў святлей». Падатковая справаздачнасць «Fifty Shades Ltd» сведчыць аб тым, што за першыя шэсць месяцаў існавання кампанія атрымала 12,6 мільёна фунтаў стэрлінгаў, а за вылікам падаткаў — 10,7 мільёна фунтаў чыстага прыбытку. Джэймс і яе муж з'яўляюцца адзінымі кіраўнікамі кампаніі, выплочваючы самі сабе штомесячную зарплату і дывідэнды.

Журналісты адзначаюць, што, нягледзячы на рэзкае павелічэнне сваіх даходаў, Джэймс, як і раней, жыве ў доме на захадзе Лондана, які яны з мужам купілі 15 гадоў таму. Вядома, што Джэймс аддала больш за мільён фунтаў на дабрачыннасць.

Але гэта — «гранды» літаратурнага свету, а згодна з «сярэднімі паказчыкамі», напрыклад, амерыканскага рынка паводле дадзеных дзяржаўнага Бюро статыстыкі працы, сярэдні гадавы даход амерыканскага пісьменніка быў 62 170 даляраў.

Паводле даследавання «Royal Society of Literature» (Каралеўскага літаратурнага таварыства) у Вялікабрытаніі каля 70% прафесійных пісьменнікаў атрымалі за год па 10 тысяч фунтаў стэрлінгаў даходу.

У Расіі ж і расцэнкі іншыя, і наклады значна меншыя.




Сярэдні наклад кніжкі ў краіне — блізу 4,5 тысяч асобнікаў. Гэта толькі ў папулярнай дэтэктывішчыцы Дар'і Данцовай агульны наклад дасягаў прыкладна 200 мільёнаў копій.

Аўтарскі ганарар расійскага пачаткоўца-пісьменніка звычайна не перавышае 350 даляраў. А вось знакамітаму пісьменніку, лаўрэату прэстыжных прэмій могуць заплаціць і 15 000 даляраў (зразумела, па курсе ў расійскіх рублях). Да прыкладу, ганарар у той жа Данцовай за адну кнігу можа дасягаць 140 тысячаў даляраў. Вядомай пісьменніцы дэтэктыўных раманаў Аляксандры Марынінай могуць заплаціць ад 100 да 150 тысячаў даляраў. Стваральнік дэтэктыўных гісторый пра Фандорына Барыс Акунін у сярэднім атрымлівае за кнігу ад 25 да 30 тысячаў даляраў, а яшчэ адна папулярная дэтэктывішчыца Таццяна Усцінава ў сярэднім атрымлівае 25 тысячаў.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы «DW», «The New Yorker», novostiliteratury.ru і englishpen.org**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Сяргей КАЙКО

# Футбол прызямліўся ў Гародні

## У чэмпіянаце Беларусі з’явілася каманда, з якой не засумуеш

**Санкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы гэтым летам у нас назіраюцца двух тыпаў. Першы — гучнае турнэ па краіне «Анёлаў Чарлі» на чале са Святланай Ціханоўскай. Другое — чэмпіянат Беларусі па футболе, якому каронавірус да лямпачкі.**

Які з гэтых рэгулярных івентаў збірае больш гледачоў — пытанне няпростае, дыскусійнае і нелінейнае. Але ж і там, і там — жарсці, мнагалоссе ды інтрыгі.

Аднак палітыкі ў нашым жыцці сёння столькі, што «Разбуры турмы муры» льюцца, бадай, з кожнага праса. Таму лепей крыху папляткарым пра футбол, у якім, вядома, таксама разбіраюцца ўсе, нават хатнія гаспадыні.

Сёлетні футбольны сезон вычарпаў сябе амаль на дзве трэціны. У вышэйшай лізе з 30 тураў згулялі 19. Збольшага пейзажы звыклыя: наверсе табліцы барысаўскі БАТЭ, які прагне вярнуць сабе чэмпіёнскі тытул, побач салігорскі «Шахцёр», спонсары якога ўкідваюць у праект вялізарныя грошы дзеля доўгачаканых залатых медалёў. Прагнозы пяюць амаль у адзін голас: хтосьці з гэтага тандэму ў выніку і прыйдзе да фінішу першым. Але калі б усё было так проста, то не варта было б цяпер і гарод гарадзіць. А яго гародзяць — і яшчэ як.

Бо спакваля саспела ў беларускім футболе яшчэ адна сіла, пра якую гавораць літаральна на кожным куце. Не, гэта не брэсцкае «Дынама» — яно свой зорны час перажыло год таму, калі ўпершыню ў гісторыі стала чэмпіёнам. Цяпер імкнецца пацвердзіць паўнамоцтвы, але ж дзе там. Зімой склад каманды не надта ўзмацніўся, да таго ж кіраўніцтва чамусьці вырашыла змяніць трэнера, адправіўшы дадому ў Чэхію шчаслівага Марцэла Лічку. Нарэшце, пасярод лета клуб накрыў каронавірус, праз які дзве гульні адкладзеныя ў доўгую скрыню, а трэцюю — няўступлівай, каржакаватай «Іслачы» — берасцейцы нядаўна прайгралі.

А напярэдадні еўракубкі, калі завіхацца давядзецца на два фронты, і ўвогуле падобна на тое, што карона спадзе з брэсцкай галавы. І гэта абавязкова назавуць тым самым сіндромам другога сезону, паводле якога пераможцы лягчэй, чым гэтую перамогу затым адстаяць.

Не, гэта і не другое «Дынама» — мінскае. У яго свае цяжкасці жыцця. Пасля сыходу з футбольнай арбіты бізнесоўца Юрыя Чыжа «бела-сінія» доўга пакутавалі праз адсутнасць уладальніка — і, як вынік, нейк целяпаліся без руля і ветру. Ненадоўга клуб прыгрэў Мінгарвыканкам, але тое было часовым прытулкам. І толькі ў красавіку найстарэйшая каманда Беларусі нарэшце намацала пад нагамі цвёрдую глебу — адышла, як некалі даўно, пад крыло аднайменнага БФСТ. Лічы, пад апеку дзяржавы, а больш канкрэтна — яе сілавога блоку.

Якія ж могуць быць перамогі падчас жа агульнай гаспадарчай турбулентнасці? Нават калі ў цябе такі аўтарытэтны трэнер, як Леанід Кучук. Ён узначаліў «Дынама» тады ж — у красавіку, аднак справа пакуль рухаецца са скрыпам. І добра будзе, калі мінчукі ўвогуле паспеюць ускочыць на п’едэстал. Ці хаця б застануцца на сённяшнім чацвёртым месцы.

І не «Энергетык» — БДУ з’ўляецца гэтай новай сілай. Хоць, напэўна, змог бы, калі б меў за душой больш грошай. Цікавая маладая каманда паспела ў бягучым сезоне надзерці чуб і БАТЭ (двойчы!), і Брэсту. Першае кола мінскія «студэнты» сенсацыйна скончылі на трэцім месцы. Зразумела, гэта не засталося незаўважаным, і на летнім «піт-стопе» клубы-багацеі «перакупілі» лідараў «Энергетыка» — кагосьці зманілі доўгім рублём у Салігорск, кагосьці ў Брэст. Раптам абяскроўлены, небагаты сталічны ФК пацізу счах і цяпер мае тры паразы запар.

І не Віцебск з Жодзіна да гэтага часу наводзяць страху на канкурэнтаў. І тым больш не «Іслач», якая яўна і фатальна не паспявае за сваімі зімовымі амбіцыямі. Вы спытаеце: хто? Адказ у загалоўку. І таксама — у той жа турнірнай табліцы. Зразумела — «Нёман».

Пра гродзенскую каманду і яе поспехі сёння адным і тым жа рэфрэнам згадваюць і журналісты, і спецыялісты, і заўзятары. Маўляў, адкуль што ўзялося. Сапраўды: залаты дождж на заходні футбольны клуб не праліўся — там плюс-мінус той жа склад, што і год, і два таму. Без зорак і даражэзных легіянераў. «Нёман» жыве за кошт дзяржбюджэту, што апрыёры азначае даволі сціплае існаванне. І што звычайна пасяляе каманду ў масоўку пелетону, дзе ціха і спакойна.

Але гродзенцам спакой толькі сніцца. Нейкім чынам яны адшукалі славутыя ўнутраныя рэзервы і рванулі наверх. Пры тым, што вясной такіх імкненняў не паказвалі і блізка. Наадварот, тады «Нёман» матляўся ў табліцы як вядомая субстанцыя ў палонцы. Даходзіла да таго, што кіраўніцтва горада ставіла галоўнаму трэнеру Ігару Кавалевічу нешта накшталт ультыматуму — не выправіш становішча ў бліжэйшых матчах, мусіш шукаць новую працу. І недзе ў той момант ісціны каманду і прарвала. І яна панеслася, руйнуючы ўсё на сваім шляху.

Недзе тут і крыецца адгадка. Кавалевіч — харызматык, які ўмее згуртаваць каманду вакол сябе. Ён яшчэ шмат чаго ўмее — у тым ліку выказаць так, што закрыюць вушы не толькі тургенеўскія паненкі. Пра такіх уласціва казаць: мужык. Вось на такіх мужчынскіх якасцях Ігар Мікалаевіч і зрабіў калектыў, і загартаваў, і нацэліў да высокіх мэтаў.

Ад пачатку траўня «Нёман» нікому не прайграе. За гэты час каманда згуляла дзесяць матчаў, у васьмі з якіх — перамагла. Дзвюх нічыіх сапернікі няма чаго — тое былі сустрэчы з моцнымі «Шахцёрам» і «Віцебскам». Але ж усё астатняе засталося на карысць Гродна. Яшчэ крыху статыстыкі: у сямі апошніх гульнях нёманцы не прапускаюць у сваё вароты. Гэта паказчык, варты лепшых каманд краіны.

Але лепшыя гуляюць у іншых гарадах — дзе больш плацяць і шчадрэй кормяць. У Гродне сабраліся простыя хлопцы, у чый бок асабліва не глядзяць ні трэнеры зборнай, ні ўвішныя агенты. Хіба што армянскі тэхнар Гегам Кадзімян уяўляе сабой прывабную мэту для заможных працадаўцаў. Астатнія — як кажуць, сярэдні нагі майстры.

І ўсё ж яна верціца — гульня «Нёмана» ў гэтым годзе. У табліцы гродзенцы трэція, але ў іх на адзін матч меней, чым у «вышэйстаячых» «Шахцёра» і БАТЭ. Дастаткова гэты матч выйграць, і «Нёман» дагоніць Салігорск і Барысаў. То-бок па стрчаных балах ён ідзе ўпоравень, што толькі надае чэмпіянату інтрыгі.

Самае ж галоўнае, што ў горадзе народ зноў пайшоў на футбол. Не так, канешне, як у далёкім 2002 годзе, калі «Нёман» першы і пакуль апошні раз выйграў медалі (сярэбраныя). Аднак жа цяпер пандэмія — лішні раз «у людзі» не находзішся. І тым не менш на нядаўнім дамашнім паядынку (з «Шахцёрам») гродзенцы сабралі на трыбунах 4200 чалавек. Гэта трэці паказчык у сезоне — лепш здаралася толькі ў Барысаве і Брэсце.

Зрэшты, рэкорд наведвальнасці хлопцы Ігара Кавалевіча могуць паставіць ужо ў бліжэйшую суботу. Яны чакаюць у госці мінскае «Дынама».

### Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 19-га ТУРА:** 24.07. РУХ (Брэст) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 3:3. ВІЦЕБСК — СЛУЦК — 2:0. 25.07. ІСЛАЧ (Мінскі раён) — ДЫНАМА (Брэст) — 2:0. БЕЛШЫНА (Бабруйск) — НЁМАН (Гродна) — 0:1. ДЫНАМА (Мінск) — ГАРАДЗЕЯ — 1:0. 26.07. ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) – 1:4. БАТЭ (Барысаў) — МІНСК — 6:0. ШАХЦЁР (Салігорск) — СМАЛЯВІЧЫ — 4:0.

**20-ты ТУР.** 31.07. Слуцк — Шахцёр, Дынама Бр. — Віцебск. 1.08. Смалявічы — Белшына, Славія — Іслач, Нёман — Дынама Мн. 2.08. Тарпеда–БелАЗ — БАТЭ, Мінск — Рух, Гарадзея — Энергетык-БДУ.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | Г | П | Н | П | М | А | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 19 | 10 | 7 | 2 | 33-9 | 37 |
| 2. | БАТЭ | 19 | 11 | 4 | 4 | 39-18 | 37 |
| 3. | Нёман | 18 | 10 | 4 | 4 | 23-13 | 34 |
| 4. | Дынама Мн. | 19 | 9 | 3 | 7 | 22-13 | 30 |
| 5. | Тарпеда-БелАЗ | 19 | 8 | 6 | 5 | 25-21 | 30 |
| 6. | Віцебск | 19 | 7 | 8 | 4 | 20-18 | 29 |
| 7. | Энергетык-БДУ | 19 | 9 | 2 | 8 | 26-29 | 29 |
| 8. | Дынама Бр. | 17 | 8 | 2 | 7 | 31-22 | 26 |
| 9. | Іслач | 19 | 8 | 2 | 9 | 22-25 | 26 |
| 10. | Рух | 19 | 6 | 8 | 5 | 26-20 | 26 |
| 11. | Славія | 18 | 6 | 5 | 7 | 24-32 | 23 |
| 12. | Слуцк | 18 | 6 | 3 | 9 | 21-29 | 21 |
| 13. | Гарадзея | 19 | 5 | 4 | 10 | 17-30 | 19 |
| 14. | Мінск | 17 | 5 | 3 | 9 | 19-35 | 18 |
| 15. | Смалявічы | 18 | 3 | 5 | 10 | 20-31 | 14 |
| 16. | Белшына | 19 | 2 | 4 | 13 | 15-38 | 10 |

# Мільён за Лісаковіча

Сяргей КАЙКО

**Бадай, самая ашаламляльная навіна гэтага беларускага футбольнага года прыляцела на зыходзячым тыдні. Нападаючы Віталь Лісаковіч хутка пакіне салігорскі «Шахцёр», а ў новым сезоне будзе гуляць за маскоўскі «Лакаматыў». Адзін з мацнейшых клубаў Расіі, трохразовы чэмпіён РФ і васьміразовы ўладальнік Кубка краіны. Для нашага хлопца ўжо гатовы чатырохгадовы кантракт, кошт трансфера, паводле некаторых ацэнак, складае 1 мільён еўра.**




Так, па сённяшніх мерках гэта сенсацыя. Прайшлі часы, калі беларускія футбалісты ехалі ў Маскву ды Кіеў шчыльнымі радамі і грымелі на палях суседніх краін. Рэчышча даўно высахла, і адзінкавыя выпадкі такіх прэстыжных міграцый мы ўжо сустракаем з аркестрам. На пачатку года так было з экс-«энергетыкам» Іллёй Шкурыным, які неспадзявана працаўладкаваўся ў ЦСКА, а цяпер яго шлях паўтарае яшчэ адзін малады ды перспектыўны беларус.

Віталю Лісаковічу 22 гады. Ён нарадзіўся ў Мінску, але сталеў ва Уздзе. Калі вы пагугліце, то лёгка знойдзеце звесткі пра няпросты жыццёвы шлях юнака — няпоўная сям’я, выхаванне ў дзядулі з бабуляй, два малодшыя браты. Праз гэта ў Віталя сфарміраваўся даволі складаны характар, але трэнеры сыходзіліся ў думцы, што менавіта гэтыя абставіны дапамагалі хлопцу прабівацца ў спорце.

Ён прабіваўся доўга — цераз «Шахцёр», розныя харвацкія каманды, куды яго «здавалі» ў арэнду, праз частыя траўмы. Наперад рухаў бясспрэчны талент ды прыродная ўпартасць. Гэта і прывяло да сёлетняга ўзлёту. У бягучым чэмпіянаце Беларусі Лісаковіч згуляў 18 матчаў, у якіх забіў 9 галоў і аддаў 4 галявыя перадачы. Файная статыстыка і самабытная тэхніка не засталіся не заўважнымі за мяжой. Бачыць маладога форварда ў сваім складзе хацелі шматлікія клубы, і не толькі ў Расіі. Віталь выбраў «Лакаматыў» — ці не самы амбіцыйны варыянт з тых, што меў.

Але ці будзе гуляць у Маскве? Апошнім часам у расійскай прэм’ер-лізе беларусам цяжка. Вялікая канкурэнцыя прыбівае да зямлі і прывязвае да лаўкі запасных, як тое адбылося з тым жа Шкурыным. Паглядзім — магчыма, гэты прыклад стане выключэннем з правілаў.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. «Не магу адступіцца ад прынцыпаў»

Памерла Ніна Андрэева — лідарка Усесаюзнай Камуністычнай партыі бальшавікоў і аўтарка маніфесту супраць перабудовы пад назвай «Не магу адступіцца ад прынцыпаў». Яго публікацыю ў свой час разглядалі як паварот краіны да сталінскай рэакцыі.

Так ці інакш, цяпер у грамадстве склалася меркаванне, што Андрэева была пры жыцці няшчасным чалавекам, паколькі стала сведкай краху сваіх камуністычных ідэалаў. Аднак не ўсё так адназначна. Як піша піцерская прэса, нябожчыца весела і нябедна пражыла апошнія 30 гадоў свайго жыцця.

Выхад артыкула і абвяржэнне яго ў «Праўдзе» імгненна зрабіла сціплую выкладчыцу хіміі кумірам сталіністаў не толькі ў СССР, аднак і ва ўсім свеце. Пры гэтым і цяпер існуе нямала досыць заможных сталінскіх арганізацый (напрыклад, Кампартыя Грэцыі), якія, калі верыць СМІ, узялі на фінансавы буксір Ніну Андрэеву і яе структуру. У выніку бабуля ўсё астатняе жыццё каталася па свеце за кошт братэрскіх партый і без праблемаў існавала на іх ахвяраванні. А калі прыгадаць, што скандальны артыкул напісала не нябожчыца, а яе муж, то застаецца толькі зняць капялюш перад геніем палітычнай авантуры, якая трымала марку да канца жыцця. Вось такая версія піцерскіх журналістаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Канфіскацыя хатніх гадаванцаў

Як піша незалежная прэса, у туркменскай сталіцы адбываецца незвычайны хапун. У Ашхабадзе прадстаўнікі ўладаў праводзяць абходы жыхароў дамоў і выяўляюць кватэры, дзе ўтрымліваюцца больш за двое хатніх гадаванцаў — катоў або сабак. Уладальнікаў гэтых кватэр прымушаюць пазбавіцца ад лішніх жывёл. Абходы пачаліся 15 ліпеня, пасля таго, як віцэ-прэм'ер Туркменістану Шамухамет Дурдыліеў, праязджаючы па адным з раёнаў, заўважыў бяздомных сабак. Па яго даручэнні жывёлы праз некалькі гадзінаў былі забітыя супрацоўнікамі прадпрыемстваў мэрыі. У адказ мясцовыя жыхары дзеля выратавання сабак і катоў забіраюць іх дадому. Гэта і прымусіла ўлады абвясціць аперацыю па пошуку жывёл. Па словах некаторых жыхароў, чыноўнікі пагражаюць у выпадку невыканання прадпісання — пазбавіцца ад лішніх жывёл — уварвацца ў кватэры ў адсутнасць гаспадароў для самастойнага вырашэння праблемы лішніх хатніх гадаванцаў. Аднак, гледзячы па тым, што хапун трывае ўжо тыдзень, нелегальных сабакаў і катоў удаецца нейкім чынам хаваць.

**Паводле туркменскай прэсы**

### КІТАЙ. Пекін прэтэндуе на Памір?

У Таджыкістане не на жарт заклапочаныя навінамі з суседняга Кітая. Там СМІ передрукавалі артыкул «Страчаныя горы Паміра павінны быць вернутыя сапраўднаму гаспадару». Аўтар артыкула, журналіст-гісторык Чу Яа Лу піша, што ў канцы праўлення дынастыі Цын (1644–1912) пад ціскам Захаду пэўныя гістарычныя тэрыторыі былі аддзеленыя ад Кітаю. Некаторыя землі былі вернутыя, іншыя да гэтага часу застаюцца пад кантролем суседніх краін. Адным з такіх вельмі старажытных рэгіёнаў з'яўляецца Памір, які з-за заходніх дзяржаў 128 гадоў знаходзіцца па-за Кітаем. З распадам СССР, на думку аўтара, з'явілася магчымасць вярнуць гэтыя тэрыторыі. Тым больш, што ў 2010 годзе Кітай ужо атрымаў ад Бішкеку 1158 квадратных кіламетраў тэрыторыі як кампенсацыю за эканамічную дапамогу. Чаму гэтая тэма зноў стала актуальнай у кітайскіх СМІ — невядома. Магчыма, гэта звязана з нядаўнім узброеным сутыкненнем на мяжы КНР і Індыі, падчас якога загінулі не менш за 20 індыйскіх вайскоўцаў. Згадваючы пра перадачу зямель Кітаю з боку Таджыкістана, медыя спрабуюць нагадаць, што Кітай ніколі не адмовіцца ад тэрыторый, якія лічыць этнічна кітайскімі.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Чалавек, які жыве ў 1905 годзе

У Брытаніі жыве 24-гадовы Майкл Каропіс, якога некаторыя лічаць дзіваком. Справа ў тым, што ён апранаецца выключна ў адпаведнасці з модай XIX стагоддзя і цураецца сучасных тэхналогій. Адкуль такія дзівацтвы, было цяжка зразумець, пакуль герой сюжэту не прапанаваў сваю версію адказу. Знайсці той адказ яму дапамог здымак 1905 года, які ён сустрэў у сеціве. На чорна-белым фота выяўлены чалавек, надзвычай падобны да містэра Каропіса. Усё гэта дазволіла зрабіць высновы, што захапленне Майка эпохай XIX стагоддзя звязана з яго мінулым жыццём. Аднак такая тэорыя азначае, што перасяленне душаў — сапраўды не выдумка будыстаў. Самому Майку жудасна ад падобнай ідэі, і ён вырашыў высветліць, хто ж быў выяўлены на фатаграфіі 1905 года.

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.br.de

# Партыя — наш правадыр!

*Алег НОВІКАЎ*

**Днямі нямецкі Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) адзначае 75-гадовы юбілей. Партыя за 71 год існавання ФРГ сумарна знаходзілася пры ўладзе больш за паўстагоддзя.**

Варта было чакаць, што падчас цяперашніх урачыстасцяў шмат хто жартам будзе праводзіць паралелі паміж CDU і КПСС, без якой уявіць той жа СССР немагчыма. Нейкая глеба для параўнанняў сапраўды існуе. Вельмі шмат элементаў цяперашняй мадэлі непадзельныя ад CDU: сацыяльная рынкавая гаспадарка, еўрапейская інтэграцыя, нямецкае адзінства і гэтак далей. Таму адзін з мясцовых гісторыкаў дазволіў сабе ахарактарызаваць юбіляра як «неафіцыйную федэральную дзяржаўную партыю».

Дыфірамбы сапраўды дарэчныя, калі ўзгадаць, што сабой уяўляла партыя 75 гадоў таму. Гэта быў кангламерат гурткоў, як правіла, ветэранаў каталіцкай партыі «Цэнтр», што існавала ў часы Веймару. Яны марылі пра адраджэнне старога партыйнага праекту, аднак заходнія саюзнікі, якія курыравалі мясцовы палітычны працэс, глядзелі на рэчы больш маштабна. Яшчэ ў сакавіку 1945-га амерыканскія аналітыкі задумаліся пра стварэнне ў пасляваеннай Германіі моцнай цэнтрысцкай партыі, актыў якой складаўся б як з каталікоў, так і з пратэстантаў.

Так ці інакш, партыйнае будаўніцтва стартавала, і на працягу лета 1945 года, нягледзячы на татальны пасляваенны хаос, фундамент новай арганізацыі фактычна быў закладзены. Няма сумневаў, што гэта была няпростая працэдура. Напрыклад, таму, што амаль усе немцы мелі нацысцкае мінулае. Напэўна таму першым старшынёй стаў Андрэс Гермес — удзельнік замаху на Гітлера ў ліпені 1944-га. Ад смяротнага пакарання яго выратаваў толькі нечаканы ўваход савецкіх войскаў у Берлін.

Увогуле, саюзнікі ў сваіх акупаваных зонах паступова дазволілі дзейнасць шматлікіх арганізацый, аднак у выніку самым паспяховым аказаўся праект Конрада Адэнаўэра — лідара Хрысціянска-дэмакратычнага саюза і першага канцлера ФРГ. Пад яго кіраўніцтвам партыя дзяжурна перамагала з 1950-га да 1966-га года, а яе правадыр у якасці выбарчай праграмы нават абяцаў не дапусціць любых эксперыментаў.

Безумоўна, фурор хрысціянскіх дэмакратаў тлумачыцца так званым «нямецкім эканамічным цудам», калі ФРГ ужо ў 1953-м вярнулася на даваенны ўзровень жыцця. Такім поспехам краіны спрыяў і шырокі спектр дыскусій унутры CDU. Кансерватыўнага аксакала Адэнаўэра не палохала прысутнасць у складзе кабінету больш ліберальнага міністра эканомікі Людвіга Эгхарда, які лічыцца бацькам «цуду».

Пасля сыходу Адэнаўэра партыя спатрэбілася больш за дзесяць гадоў, каб атрымаць наступнага харызматычнага лідара ў асобе Гельмута Коля. Ён не толькі зрабіў Хрысціянска-дэмакратычны саюз урадавай партыяй, аднак і дамогся адзінства краіны. Важна адзначыць, што Гельмут Коль моцна мадэрнізаваў партыю і абнавіў яе імідж, пазбавіўшы анахранізмаў пачатку «халоднай вайны». Нагадаем, што вельмі доўга хрысціянскія дэмакраты не прызнавалі пасляваенную ўсходнюю мяжу Германіі, патрабуючы вярнуць Гданьск, Уроцлаў, Калінінград і іншыя тэрыторыі.

Яшчэ будучы канцлерам, Гельмут Коль выступіў негалосным пратэжэ Ангелы Меркель, якая хутка ператварылася з усходненямецкай грамадскай актывісткі ў выбітнага партыйнага функцыянера, а з часам — і ў добрага канцлера. Прынамсі, ёю быў пабіты рэкорд знаходжання ў крэсле кіраўніка ўраду ФРГ: Меркель не пакідае яго аж з 2005 года.

Цяпер партыя ўпэўнена крочыць у чарговы этап сваёй гісторыі. Прынамсі, так пішуць афіляваныя з ёй медыя і каментатары са спасылкай на розныя лічбы. Напрыклад, кіраўніком кожнай трэцяй адміністрацыі ў краіне з'яўляецца хрысціянскі дэмакрат.

У апазіцыйных выданнях левай арыентацыі вы знойдзеце іншы, больш мінорны погляд на перспектывы CDU. Сцвярджаецца, што партыю Адэнаўэра-Коля-Меркель чакае непазбежны калапс. Такі палітычны суб'ект, як буйная «народная партыя», не адпавядае, маўляў, духу нашага часу, якому ўласцівая сегментацыя і сінгулярнасць. Як вынік, неўзабаве мусіць паўтарыцца феномен канца 1960-х, калі на фоне культурнай моладзевай рэвалюцыі Хрысціянска-дэмакратычны саюз прайграў дзве выбарчыя кампаніі запар.

Для выяўлення пераможцы ў спрэчцы, ці выжыве Хрысціянска-дэмакратычны саюз, вельмі шмат будзе залежаць ад фігуры, якая прыйдзе на змену «Матулі» (мянушка Ангелы Меркель). У тым ліку таму, што за яе часы партыя пасунулася ў ідэалагічных каардынатах да цэнтра. Некаторым аднапартыйцам такі трэнд не падабаецца — гучаць заклікі вярнуць партыю ў звыклую кансерватыўную нішу або нават стварыць партыю, больш правую за CDU. Ці будзе здольная партыя з сыходам Меркель захаваць рэпутацыю і сімпатыі розных сацыяльных груп, якія сёння галасуюць за яе кандыдатаў?

У любым выпадку, пасля 15 гадоў кіравання Меркель для партыі скончыўся асобны этап. Сёння, на парозе 75-й гадавіны, Хрысціянска-дэмакратычны саюз распачынае новы раунд сваёй партыйнай гісторыі.

# Яшчэ чумы не хапала!

Алег НОВІКАЎ

**Уся жоўтая прэса свету абмяркоўвае навіну пра ўспышку чумы на поўначы Кітая і выдае самыя неверагодныя прагнозы. Ці варта ім верыць?**


Фота www.baltnews.ee

Хто не памятае сцэну з «Дванаццаці крэслаў», дзе Астап Бендэр спрабуе ўцерціся ў давер да Элачкі-людажэркі ды расхвальвае яе выбар футраў. «Вам далі значна лепшае футра. Гэта шанхайскія барсы. Ну так! Барсы! Я пазнаю іх па адценні. Бачыце, як футра грае на сонцы! Ізумруд!» — казаў вялікі камбінатар.

Як не дзіўна, тут ён не хлусіў. На самай справе «шанхайскія барсы» сапраўды існавалі. Гэта былі скуры суркоў з Манчжурыі, якія прайдзісветы з Кітаю фарбавалі і прадавалі модніцам па ўсім свеце як футра барса.

Усё б добра, але манчжурскі або мангольскі сурок, ці, як яго яшчэ называюць, тарбаган, — не толькі ўладальнік прыгожага футра, але таксама з'яўляецца і пераносчыкам узбуджальніка чумы. Гэта значыць, чума, якая выклікаецца чумной палачкай, была першапачаткова інфекцыйнай хваробай жывёл. Навукоўцы лічаць, што прыкладна 20 тысяч гадоў таму пры цесным кантакце жывёл з чалавекам чума з хваробы жывёл стала смяротна небяспечным захворваннем людзей.

А пачынаючы з XIV стагоддзя слова «чума» выклікае ў чалавецтва жах. Тады характэрная для Забайкалля і Манголіі хвароба стала прычынай страшэннай пандэміі, якая ахапіла амаль усю Еўразію. Падхопленая ад суркоў чума, якая перадавалася паветрана-кропельным шляхам як звычайная прастуда, забіла, паводле розных ацэнак, ад траціны да паловы насельніцтва еўрапейскага кантынента!

Не дзіўна, што, хаця сёння выпадкі чумы досыць рэдкія, перыядычныя ўспышкі хваробы прыцягваюць вялікую ўвагу. І ўжо, вядома, не магла абысці ўвагай прэса такую навіну цяпер, у разгар каронавіруса.

На гэты раз чуму зафіксавалі на поўначы кітайскай аўтаномнай вобласці Унутраная Манголія ў сярэдзіне ліпеня. Інфармацыйнае агенцтва «Сіньхуа» паведаміла пра два падазрэнні на захворванне бубоннай чумой. Яе ахвярамі сталі два браты, якія ўжывалі ў ежу мяса сурка. Пазней некаторыя выданні напісалі пра смерць аднаго з братоў.

Таксама цытуецца паведамленне мясцовага ўпраўлення аховы здароўя пра наяўнасць рызыкі распаўсюджвання эпідэміі. Таму грамадскасць просяць павысіць пільнасць што да эпідэміялагічнай самаабароны і звяртацца да медыкаў у выпадку пагаршэння здароўя. Асобным пунктам улады просяць людзей інфармаваць пра любога хворага або мёртвага сурка. А тым больш не паляваць на іх і не есці, паколькі патэнцыйна тыя могуць несці чуму. Праходзіла інфармацыя, што Расія ўзмацніла кантроль, каб спыніць людзей, што выйшлі на паляванне на суркоў са свайго боку мяжы.

Між тым бульварныя выданні адразу ж паднялі енк адчаю, сцвярджаючы, што чума можа заразіць увесь Кітай. Праўда, па ходзе раскрыцця тэмы ім давялося прызнаць, што чума — хвароба амаль экзатычная (з 2010 па 2015 год у свеце было зарэгістравана 3248 выпадкаў, у тым ліку 584 выпадкі смерці). У цяперашні час чумой хварэюць асноўным у Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга, Мадагаскары і Перу. Акрамя таго, часы, калі наяўнасць у чалавека чумной палачкі была смяротным прысудам, даўно прайшлі. Пры своечасовай дыягностыцы і лячэнні захворвання рызыка памерці ад чумы складае каля 10%.

**Часы, калі наяўнасць у чалавека чумной палачкі была смяротным прысудам, прайшлі. Пры своечасовай дыягностыцы і лячэнні рызыка памерці ад чумы складае каля 10%**

Затое навіны з Кітая паднялі цікавасць да розных малавядомых аспектаў мінулых эпідэмій чумы. Іх вывучэнне дазваляе зрабіць цікавыя высновы. Напрыклад, з'явілася тэорыя пра тое, што прычынай эпідэміі ў Візантыі ў VI стагоддзі магла быць змена клімату. Мяркуючы па аналізах кольцаў дрэў і характару геалагічных адкладаў, у гэты час адбылося кароткатэрміновае глабальнае пахаладанне праз вывяржэнне вулканаў. Дрэнны ўраджай на лугах, нібыта, прымусіў грызуноў — пераносчыкаў чумы бегчы ў густанаселеныя раёны ў пошуках ежы.

Выданне Politico, вывучаючы наступствы «чорнай смерці» для Еўропы, адзначае яе эфект для гарадоў. Гарадское насельніцтва тады скарацілася на 60 працэнтаў — галоўным чынам з-за міграцыі ў вёску, дзе шанцаў заразіцца было значна менш. Экскурс у мінулае дазволіў зрабіць выданню выснову, што падобны фокус можа паўтарыцца па слядах другой хвалі каронавіруса, якая цяпер чакаецца. У тым ліку з-за распаўсюджвання практыкі аддаленай працы і крызісу сектару абслугоўвання.

А ў Брытаніі прэса заклікала вывучаць вопыт жыцця ва ўмовах чумной эпідэміі. Яны звяртаюць увагу, што нават падчас кульмінацыі хваробы інстытуты працавалі. Больш за тое, нягледзячы на чуму, у той час актыўна працаваў бізнес. Часы «чорнай смерці», на думку некаторых аўтараў, з'яўляюцца доказам таго, што цывілізацыя можа існаваць нават на фоне смяротных хваробаў.

Вось такія незвычайныя тэорыі. Што тычыцца пагрозы эпідэміі чумы, то, думаецца, уся істэрыка скончыцца, як толькі жоўтая прэса знойдзе новую сенсацыю. Тым больш, у наш час іх асабліва шукаць не трэба. Напрыклад, з Амерыкі, пішуць, што днямі чыноўнікі аховы здароўя Фларыды абвясцілі пра з'яўленне «амёбы, якая здольная з'есці ў чалавека мозг».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дзмітрый Разумкоў



Украінскія палітолагі пачалі пісаць пра тое, што старшыня Вярхоўнай Рады Украіны, адзін з лідараў прэзідэнцкай партыі «Слуга народа» (СН) можа стаць наступным прэзідэнтам краіны. На карысць гэтай версіі — дыстанцыяванне спікера ад некаторых, часта непапулярных законапраектаў з боку «Слуг народа», а таксама ўчынкаў прэзідэнцкай адміністрацыі.

Самае папулярнае тлумачэнне такой лініі паводзін Дзмітрыя Разумкова — уласныя палітычныя амбіцыі. Прычым яны, як лічаць палітолагі, у яго прэзідэнцкія. Разумкоў, нібыта, бачыць стомленасць прэзідэнта Зяленскага, расхістанасць сістэмы. Восеньскія мясцовыя выбары, цалкам верагодна, таксама будуць правальнымі для СН. Як вынік, цэнтрабежныя тэндэнцыі ў партыі ўлады могуць узмацніцца, і спікер, які, магчыма, будзе гуляць на апярэджанне, заявіць пра жаданне пазмагацца за званне пераемніка Уладзіміра Зяленскага.

Застаецца дадаць, што ў Разумкова ў грамадстве існуе пэўная сацыяльная база падтрымкі. Паводле апошняга апытання, працай кіраўніка Вярхоўнай Рады задаволеныя 25% рэспандэнтаў. Калі апісаны сцэнар спраўдзіцца, то стартуе яго рэалізацыя напрыканцы кастрычніка, калі стануць вядомыя вынікі галасавання на мясцовых выбарах. Праўда, для гэтага Разумкову яшчэ патрэбна знайсці спонсара сярод фінансава-прамысловых груповак, без чаго правесці выбарчую кампанію практычна немагчыма.

### Борыс Джонсан



У панядзелак, 27 ліпеня, урад Вялікабрытаніі прыняў рашэнне пра ўсёабдымны план барацьбы з атлусценнем. Непасрэдным штуршком да яго стала публікацыя даследавання, якое пацвярджае, што атлусценне з'яўляецца абцяжарваючым фактарам для Covid-19. Паводле даследавання, у мажных людзей рызыка смерці ад Covid-19 на 40% вышэйшая, чым у людзей з невялікай вагой.

Сярод заяўленых урадам мераў — забарона рэкламы тлустай ежы да 21 гадзіны вечара, каб паменшыць уздзеянне на дзяцей. Супермаркетам давядзецца спыніць акцыі па продажы каларыйнай ежы. Таксама ў супермаркетах будзе забаронена размяшчаць гэтыя прадукты ў ключавых месцах, напрыклад, на касе ці на ўваходзе. Замест гэтага крамы будуць прапаноўваць больш здаровую ежу: напрыклад, садавіну і гародніну, прычым са зніжкамі.

Наўрад ці гэтыя мерапрыемствы ўрада Джонсана дапамогуць хутка вырашыць праблему, асабліва з улікам не вельмі вясёлай статыстыкі. У Вялікабрытаніі амаль дзве траціны (63%) дарослых маюць залішнюю вагу. Кожнае трэцяе дзіця ва ўзросце ад 10 да 11 гадоў — з залішняй вагой або пакутуе на атлусценне. Так ці інакш, любыя поспехі на фронце змагання з калорыямі могуць дапамагчы Джонсану падняць не вельмі высокі рэйтынг.

### Яраслаў Качынскі



Лічыцца, што менавіта лідар кіруючай у Польшчы кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) прыдумаў план адрыву дамінавання ліберальнай апазіцыі ў Мазавецкім ваяводстве. Праблема сталіцы для PiS — вельмі надзённая. Сталічны рэгіён, дзе ўзровень жыцця дастаткова высокі, дае магутны трамплін апазіцыі для апаніравання цэнтральнай уладзе. Сведчаннем гэтага сталі апошнія выбары, калі апазіцыйнаму мэру Варшавы Рафалу Тшакоўскаму не хапіла толькі 2% для перамогі над кандыдатам кансерватараў.

Таму ў PiS прыдумалі спосаб, як аслабіць сталічную пагрозу. Для гэтага прапануецца вылучыць прылеглыя да Варшавы раёны ў асобнае ваяводства, якое зможа атрымаць больш сродкаў з бюджэту ЕС. На думку некаторых, гэта адмоўна паўплывае на статыстычны ўзровень сярэдняга даходу жыхароў Варшавы. Акрамя таго, выбарчая арыфметыка паказвае, што, у адрозненне ад ліберальнага сталічнага электарату, Мазавецкая глыбінка галасуе, звычайна, за правыя партыі. На тых жа прэзідэнцкіх выбарах з 37 нясталічных выбарчых участках ваяводства Тшакоўскі атрымаў падтрымку толькі ў сямі. Такім чынам PiS можа ўзяць пад кантроль яшчэ адзін рэгіён.

Як бачым, план у Качынскага геніяльны. Але, з другога боку, гэта ўздымае стаўкі, і барацьба за Мазавецкае ваяводства для кансерватараў можа быць не такой ужо і лёгкай. Хутчэй за ўсё, для барацьбы супраць законапраекта кансерватараў будзе сфарміраваная шырокая апазіцыйная кааліцыя.

# Уцёкі з «бальшавіцкага



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваеннае дваццацігоддзе на тэрыторыю Другой Рэчы Паспалітай з БССР нелегальна збеглі сотні грамадзянскіх асоб. Выпадкова знойдзены здымак чырвонаармейца, якога сфатаграфавалі польскія паліцыянты ў Стоўбцах (як мяркуецца, у 1930-я гады), наштурхнуў мяне на думку, што на Захад беглі таксама і савецкія вайскоўцы, а таксама бальшавіцкія дыпламаты.**

## «Незадаволенасць выклікаецца недастатковым харчаваннем…»

У 1926 годзе польскія вайсковыя і паліцэйскія структуры на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай працавалі ва ўзмоцненым рэжыме. Звязана гэта было не толькі з «травеньскім пераваротам», падчас якога Юзаф Пілсудскі вярнуўся на палітычную арэну, але і з тым, што ў ліпені 1926 года мяжу з Польшчай перайшла група чырвонаармейцаў-дэзерціраў. Усё б нічога, але, як пазначалася ў справаздачы польскіх выведнікаў, савецкія жаўнеры былі добра падрыхтаваным дыверсійным атрадам. Выдаючы сябе за палякаў, якія беглі ад бальшавікоў, гэтыя людзі павінны былі легалізавацца ў Польшчы, паступіць на службу ў Войска Польскае і збіраць выведвальныя даныя. Дэзерцірам забаранялася ўступаць у кантакт з польскімі камуністычнымі арганізацыямі. Савецкі бок імкнуўся выкарыстаць гэтых людзей у выпадку вайны з Польшчай, якая, па меркаванні Крамля, магла пачацца з вяртаннем да ўлады Юзафа Пілсудскага.

Аднак часцей за ўсё ў Польшчу беглі звычайныя жаўнеры Чырвонай Арміі, якіх па тых ці іншых прычынах не задавальняла жыццё пры Саветах. У сярэдзіне 1920-х гадоў СССР знаходзіўся ў цяжкім эканамічным становішчы, што ўплывала, канешне, і на жыццё чырвонаармейцаў ды жаўнераў бальшавіцкіх памежных войскаў. У адной са справаздач пра становішча Чырвонай Арміі ў 1924 годзе адзначалася: «Незадаволенасць выклікаецца галоўным чынам недастатковым харчаваннем, кепскімі ўмовамі казарменнага жыцця і нязвыклай строгасцю дысцыпліны. Адсюль шматлікія выпадкі дэзерцірства, самавольных адлучак».

У лістападзе 1929 года жаўнеры польскага Корпуса аховы памежжа (КАП) са стражніцы «Мінская» затрымалі радавога савецкай памежнай аховы Рыгора Арыкава. Чырвонаармеец служыў у савецкай памежнай камендатуры ў Новым Полі. У чэрвені 1933 года польскія памежнікі затрымалі чырвонаармейцаў-памежнікаў Рыгора Фуражкіна і Міхаіла Немукова. Яны па-рознаму матывавалі свой пераход мяжы. У пратаколе допыту аднаго з іх адзначалася, што чырвонаармеец атрымаў з дому ліст пра тое, што ўлады канфіскавалі ўсю маёмасць яго сям'і. Баец спалохаўся, што яго арыштуюць, і вырашыў ратавацца за кардонам. Іншы бальшавіцкі памежнік скардзіўся на дзедаўшчыну. Бывалі і такія дэзерціры, хто расчараваўся ў перспектывах «кар'ернага росту» ў шыхтах РСЧА і імкнуліся пакаштаваць «капіталістычнага хлеба», пра які ім расказвалі затрыманыя на мяжы кантрабандысты.



Лінкор Марат у Гдыні, 1934 г.



Аляксандр Дзямідаў

У сярэдзіне 1930-х гадоў савецкія жаўнеры «пабеглі» ў Польшчу, хаваючыся ад калектывізацыі. Маладыя, часцей за ўсё рускія ці ўкраінцы па нацыянальнасці чырвонаармейцы атрымлівалі лісты з РСФСР ці УССР, дзе бацькі апісвалі цяжкія ўмовы працы ў калгасах, і гэта ўплывала на рашэнне бегчы на Захад.

## Багаты ўлоў польскіх памежнікаў

Частымі былі і выпадкі пераходу на польскі бок жаўнераў савецкай памежнай аховы. Зімовым ранкам 1928 года «рыжскі кардон» паміж знакамі №1275 і 1276 перайшоў лейтэнант, намеснік камандзіра 14 заставы, 4 камендатуры, 18 памежнага атрада НКУС БССР у Жыткавічах Аляксандр Цімафеевіч Дзямідаў. На момант «здрады» афіцэру было ўсяго 23 гады.

У штабе ўзвода жандармерыі КАП у Лахве (сёння Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці) савецкага афіцэра дапыталі. Аказалася, што лейтэнант прыйшоў на польскі бок «не пусты». У Львоў і Варшаву тут жа паляцелі тэлеграмы-маланкі. У адной з іх, у прыватнасці, адзначалася: «Раніцай 24 лютага гэтага года на ўчастку 18-га батальёна КАП перайшоў мяжу савецкі афіцэр. Пасля допыту на мяжы ён будзе адасланы ў распараджэнне Экспазітуры V Другога аддзела Галоўнага штаба». У іншай дэпешы чытаем: «Савецкі афіцэр прынёс наступныя матэрыялы: 1. Часовы расклад службы савецкай памежнай аховы войскаў АДПУ на 1927 год. Нумар 3481; 2. Расклад унутранай службы войскаў АДПУ за 1924 год; 3. Апісанне ручнога кулямёта "Максім-Токараў" № 2916; 4. Кнігу "Вывучэнне вопыту дзяржаўнай мяжы і ўчастка 14 заставы 4 камендатуры за 1927 год"; 4. Розныя сакрэтныя дакументы 14 заставы, 4 камендатуры, 18 памежнага атрада за 1928 год. Усяго 106 старонак. Гэтыя дакументы, а таксама асабістыя рэчы разам з Дзямідавым, а таксама яго дэкларацыяй пра добраахвотны пераход мяжы ў Польшчу і жаданне застацца на сталае жыхарства ў Польшчы, адпраўляю камандаванню 17 батальёна КАП у Давыд-Гарадку з мэтай перадачы дэкларацыі савецкім прадстаўнікам на сумеснай Камісіі па вырашэнні памежных пытанняў».

Увесь гэты час маладога савецкага афіцэра падрабязна дапытвалі, відавочна, баючыся, што савецкі бок запатрабуе вярнуць перабежчыка. На допытах Дзямідаў трымаўся ўпэўнена і адказваў на ўсе пытанні польскіх следчых. Так, падчас адной з «размоў», лейтэнант заявіў, што неаднаразова ездзіў у Мінск на «стажыроўкі» і, паводле яго інфармацыі, у сталіцы БССР існуе адмысловы аддзел АДПУ, які падрабязна вывучае магчымасць дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі Польшчы. Пры гэтым да супрацоўніцтва з гэтым аддзелам прыцягваліся і дэзерціры з Войска Польскага, якія збеглі на тэрыторыю БССР. Аснову дыверсійных атрадаў складалі чырвонаармейцы і супрацоўнікі савецкай выведкі, якія валодалі польскай мовай і выдатна арыентаваліся на мясцовасці.

Падчас іншага допыту перабежчык паведаміў асаблівасці функцыянавання 18-га памежнага атрада. Характарызуючы, напрыклад, начальніка атрада Івана Стабіна, савецкі лейтэнант даў падрабязнае апісанне знешнасці свайго былога камандзіра, а таксама асаблівасці яго працы. «Стабін патрабавальны, але справядлівы. Калі ён праводзіць інспекцыі, прыязджае на кожную заставу раз на чатыры месяцы. У камендатурах начальнік атрада бывае раз на 2–3 месяцы. Яго жонка — латышка, 25 гадоў. Упаўнаважаным сакрэтна-аператыўнай часткі з'яўляецца Крэс, у пятліцах два "квадраты". Папярэдне ён працаваў на кантрольна-прапускным пункце. Штаб 17-га памежнага атраду знаходзіцца ў Цімкавічах у нова-пабудаваных казармах. Будынкі драўляныя, пакрытыя дранкай. Вайсковы гарадок складаецца з некалькіх будынкаў. Ёсць дом для афіцэраў і іх сем'яў, другі будынак — чырвонаармейскія казармы, трэці — штаб памежнага атрада, чацвёрты — турма, пяты — стайня. Штаб 3-й камендатуры 17-га памежнага атрада знаходзіцца ў фальварку Вызна. У будынку знаходзіцца камутатар. Шыфры для тэлефонных апаратаў змяняюцца кожныя два тыдні. 14-я застава 18-га памежнага атрада знаходзіцца ў вёсцы Глушкевічы ў былым доме папа. Пры заставе ёсць стайня, склад, лазня і сталовая. Побач з заставай акопы, якія накіраваныя ў бок мяжы. Савецкія памежнікі ўзброены "трохлінейкамі", звычайна чырвонаармеец мае пры сабе 30 патронаў. На некаторых заставах камандаванне выдае радавым па 60 патронаў. Кожны жаўнер мае па два падсумкі, ці адзін падсумак і патранташ. Чырвонаармейцы, якія ідуць на патруляванне мяжы, атрымліваюць па адной абарончай гранаце ўзору 1914 года. Камандзіры ўзброеныя рэвальверамі "Наган". Для патрулявання мяжы





Польская карыкатура на перабежчыкаў

# раю»

звычайна выкарыстоўваюцца пешыя і конныя патрулі. Кожная застава мае свой план аховы мяжы. Камандзіры застаў з канца 1926 года павінны весці кнігу "Вывучэнне вопыту аховы мяжы", у якой афіцэры запісваюць усе асаблівасці аховы мяжы на сваім участку. Падрыхтоўка жаўнераў адбываецца ў "вучбатах". На заставах у асноўным кулямёты "Максім", аднак ёсць і французскія "Шашо", а таксама амерыканскія "Томпсаны"», — адзначалася ў пратаколе допыту лейтэнанта Дзямідава, праведзеным польскімі памежнікамі ў Давыд-Гарадку.

## Што далей?

Малады савецкі афіцэр-перабежчык стаў сапраўднай знаходкай для польскай выведкі, і гэта вельмі непакоіла савецкае памежнае камандаванне. Вось што адзначалася ў лісце польскіх выведнікаў, накіраваным у сакавіку 1928 года з Лахвы ў Варшаву: «Уцёкі Дзямідава выклікалі сапраўдны перапалох у 18-м памежатрадзе. Яго начальнік цісне на польскі бок, каб Дзямідаў асабіста ўдзельнічаў у працы змешанай памежнай камісіі і ў акрэсленым імі пункце (на рацэ Случ) паміж памежным пераходам Мікашэвічы-Жыткавічы. Гэтая справа ўжо абмяркоўвалася на пасяджэнні змяшанай камісіі 2 сакавіка. Дзеля таго, каб пазбегнуць эксцэсаў, лічу немэтазгодным асабісты ўдзел Дзямідава ў працы камісіі. Ці магчыма было б зрабіць так, каб Дзямідаў быў прадстаўлены на камісіі, але на ўчастку зусім іншай памежнай брыгады?». У лісце з 12 сакавіка 1928 года адзначалася: «Камісія, на якой будзе прадстаўлены Дзямідаў, павінна адбыцца на тэрыторыі Польшчы, а не на мяжы. У якасці месца прапаную Ракітна. Не трэба ісці на саступкі бальшавікам і на іншыя камбінацыі. Дзеля правядзення камісіі павінна хапіць ліста ад Дзямідава. Усе грашовыя выдаткі бярэ на сябе Экспазітура (аддзел польскай выведкі ў Львове)».

З дакументаў, якія сёння захоўваюцца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, можна зрабіць выснову, што польскі бок высока цаніў перабежчыка. «Інтэлектуальны ўзровень гэтага чалавека дастаткова высокі. Трэба выкарыстаць гэты момант», — адзначалася ў адным з паведамленняў польскай выведкі. 27 сакавіка 1928 года на імя начальніка Экспазітуры V Галоўнага штаба Войска Польскага прыйшла тэрміновая дэпеша, у якой падкрэслівалася: «Патрабуем як мага хутчэй накіраваць у распараджэнне Другога аддзела Галоўнага штаба (выведкі) усе дакументы, якія прынёс афіцэр савецкай памежнай аховы Аляксандр Дзямідаў. Адначасова рэкамендуем накіраваць гэтага чалавека ў Варшаву з мэтай выкарыстання яго цэнтральнымі ўстановамі».

## «Польскі гастарбайтар»

Савецкім уладам так і не атрымалася вярнуць Аляксандра Дзямідава на тэрыторыю БССР. Ужо ў красавіку 1928 года быламу памежніку зрабілі польскі пашпарт №423145, з якім той накіраваўся ў Консульства Аргенціны ў Варшаве. У графе «прафесійная дзейнасць» анкеты на атрыманне аргенцінскай візы былы савецкі памежнік напісаў «селянін». Мэта выезду за акіян гучала банальна: «Працоўная эміграцыя». 18 красавіка 1928 года з Варшавы ў Львоў прыйшла тэлеграма з наступным тэкстам: «Інфармую, што пан Аляксандр Дзямідаў выехаў з Гдыні ў Аргенціну 14 красавіка на борце карабля "Алманзора"».

Далейшы лёс савецкага памежніка, які збег з «бальшавіцкага раю», невядомы. Магчыма, ён ператварыўся ў звычайнага «эмігранта» з Другой Рэчы Паспалітай, а яго нашчадкі і па сённяшні не ведаюць, як іх продак аказаўся ў Лацінскай Амерыцы.

Уцёкі лейтэнанта Дзямідава сталі вялікай праблемай для савецкіх уладаў. Ім давялося ўносіць значныя змены ў функцыянаванне памежнай аховы на ўчастку савецка-польскай мяжы, якую ахоўваў 18-ты памежны атрад. Дарэчы, тады ж начальнік атрада Іван Стабін быў зняты са сваёй пасады і заменены іншым афіцэрам.

## Трагедыя марака

У міжваенны час у Польшчу сыходзілі не толькі пяхотнікі РСЧА ды «зялёныя фуражкі». У верасні 1934 года ў польскі порт у Гдыні ўвайшла эскадра савецкага Балтыйскага флоту, якая складалася з лінкора «Марат» і эсмінцаў «Калінін» і «Валадарскі». Сустракаў савецкіх маракоў камандуючы флотам Другой Рэчы Паспалітай контр-адмірал Юзаф Унруг. Палякі арганізавалі для савецкіх маракоў шыкоўны прыём з абедам. У газетах «першай краіны працоўных і сялян» напісалі, што візіт з'яўляецца «новым сведчаннем добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і СССР». Цікава было тое, што камандаваў савецкай эскадрай афіцэр з вядомым у Польшчы прозвішчам Галер. Але гэты візіт запомніўся яшчэ і тым, што адзін з савецкіх вайсковых маракоў вырашыў «развітацца» з Саўдэпіяй і застацца ў Польшчы.

Падчас прагулкі па Гдыні качагар лінкора «Марат» Сяргей Варанкоў адстаў ад сваіх калег і знік. Пасля вяртання савецкага карабля ў Кранштат на яго борт падняліся супрацоўнікі НКУС, якія арыштавалі ўсіх матросаў, што былі разам з Варанковым на вахце. Пазней «чорны воран» забраў машынную каманду, афіцэраў і старшын электрамеханічнай часткі. Урэшце амаль кожны матрос і афіцэр «Марата» трапіў на допыты да людзей у «валошкавых» фуражках. А хутка ў Ленінград прыйшоў ліст з Крамля за подпісам Сталіна. У ім казалася: «Таварышам Жданаву, Ягодзе, Акулаву. Нядаўна стала вядома, што адзін з матросаў "Марата" застаўся ў Польшчы. Выходзіць, гэты матрос здзейсніў злачынства, прадугледжанае апошнім законам


Савецкі афіцэр вітае польскіх маракоў у Гдыні, 1934 г.



Чырвонаармеец-дэзерцір з БССР у Стоўбцах, 1930-я гады

аб здрадзе Радзіме. Неабходна паведаміць мне неадкладна: 1. Ці арыштаваныя члены сям'і гэтага матроса і ўвогуле ці прыцягнутыя яны да адказнасці; 2. Калі не, хто адказвае за праяву бяздзейнасці ўлады». У лістападзе 1934 года Калегія Вярхоўнага суда ў Маскве завочна прысудзіла матроса Варанкова да расстрэлу. Уся яго сям'я была арыштаваная, а маёмасць канфіскавана.

## Уцёкі з Афін

Канец 1930-х гадоў адзначыўся ўсплёскам рэпрэсій на тэрыторыі Савецкага Саюза. Асабліва моцна «вялікая чыстка» закранула супрацоўнікаў Народнага камісарыята замежных спраў. Паводле падлікаў расійскіх гісторыкаў, у 1937–1938 гадах НКЗС страціў каля 34% сваіх супрацоўнікаў. Пра арышты і гучныя працэсы ў СССР пісалі ў канцы 1930-х шматлікія еўрапейскія выданні. У адной з польскіх газет адзначалася: «Некалькі дзён таму ў Маскву выклікалі амбасадараў з Рыгі і Каўнаса. Абодва дыпламаты належаць да маладога пакалення і працуюць на пасадах паслоў толькі год. Іх адазвалі і арыштавалі. Такі лёс савецкіх дыпламатаў. Год, два ў свеце — потым вяртанне ў Маскву і "да сценкі"».

Аднак некаторыя супрацоўнікі савецкіх амбасадаў у Еўропе, ведаючы палажэнне спраў на Радзіме, вырашалі ратавацца «на капіталістычным Захадзе». Адным з такіх быў ураджэнец Кіеўскай губерні Аляксандр Бармін, які ў 1937 годзе быў паверaным у справах СССР у Грэцыі. Даведаўшыся пра тое, як лёгка НКУС фабрыкуе справы супраць «ворага народа», дыпламат выказаў у размове з супрацоўнікамі амбасады сумнеў у абгрунтаванасці абвінавачванняў на маскоўскіх працэсах.

Хутка пра гэта даведаліся ў Маскве і вырашылі адклікаць Барміна. Апошні напісаў заяву на адпачынак — і збег у Францыю. «Маскоўскія працэсы ўразілі мяне і прымусілі задумацца. Застацца на службе ў Сталіна азначала для мяне страту ўсіх маральных якасцяў і прыняцце на сябе часткі адказнасці за злачынствы, якія кожны дзень адбываюцца ў маёй краіне супраць народа. Я парываю з гэтым урадам і падпарадкоўваюся голасу сумлення», — адзначалася ў лісце савецкага дыпламата, які быў надрукаваны ў польскай газеце «Na Straży».

Бармін атрымаў палітычны прытулак у Францыі і стаў прыхільнікам Льва Троцкага. Падчас знаходжання на французскай тэрыторыі былы савецкі амбасадар шматкроць пісаў за тое, каб заходнія краіны «ратавалі» савецкіх дыпламатаў, якія жадалі збегчы ад Сталіна. У 1940 годзе Аляксандр Бармін пераехаў у ЗША, дзе супрацоўнічаў з амерыканскімі спецслужбамі. Пасля Другой сусветнай вайны ён кіраваў Рускай службай радыёстанцыі «Голас Амерыкі». Памёр Аляксандр Бармін у 1987 годзе.

## На баку італьянскіх фашыстаў

Іншым «дэзерцірам» стаў супрацоўнік Амбасады СССР у Бухарэсце Фёдар Бутэнка. «Савецкі дыпламат, які працуе ў Бухарэсце (Румынія), знік без вестак. Паводле чутак, гэты чыноўнік, Бутэнка, атрымаў загад вярнуцца ў Маскву. Ён ведаў, што гэта не прадказвае нічога добрага. Былі ўжо выпадкі, калі адазваныя са сваіх пасадаў савецкія дыпламаты вярталіся ў Расію толькі для таго, каб стаць перад судом. Таму Бутэнка вырашыў у Маскву не вяртацца. Пачаў ён рыхтавацца да ўцёкаў на Захад. У гэты час яго ліквідавалі. Румынская грамадская думка сцвярджае, што яго "прыбрала" ДПУ», — адзначалася ў польскім выданні «Na Straży» ў 1938 годзе.

Насамрэч, сітуацыя была іншай. 33-гадовы часовы паверaны ў справах Амбасады СССР у Румыніі сапраўды спалохаўся, што Масква абвінаваціць яго ў шпіянажы, і вырашыў збегчы. «Я быў настолькі непадрыхтаваны, што сам не ведаў, куды я еду і да каго звярнуся. У амбасаду Англіі, Францыі, Чэхаславакіі? Але гэта было тое ж самае, што "добраахвотна" вярнуцца ў Маскву. Падзеі, якія наспявалі ў Еўропе, падказвалі мне, што гэтыя краіны будуць найбольш імавернымі хаўруснікамі бальшавізму ў вайне. Відавочна, што яны перадалі б мяне ў рукі Саветаў. У Польскае пастпрадства? Але там мадам Арцішэўская, агент Лапіна (супрацоўнік савецкіх спецыяльных службаў у Амбасадзе СССР у Бухарэсце. — І.М.). Заставалася адрасавацца да Германіі ці Італіі, бо толькі ў гэтых краінах з змагу атрымаць надзейную абарону ад бальшавізму», — узгадваў пазней дыпламат.

Бутэнка папрасіў дапамогі ў румынскіх уладаў і атрымаў яе. У адказ савецкі чыноўнік «здаў» румынскай палітычнай паліцыі «Сігуранцы» ўсіх бальшавіцкіх агентаў — па гэтай справе дапытвалі нават вядомага рускага спевака Пятра Лешчанку. Крэмль раззлаваўся і сцягнуў свае войскі да мяжы з Бесарабіяй. Каб супакоіць Маскву, савецкаму дыпламату, які абраў свабоду, выдалі румынскі пашпарт і адправілі ў Рым.

У Італіі гэтым чалавекам зацікавіліся выведка і італьянскае Міністэрства замежных спраў. Трагедыя Бутэнкі была ў тым, што ў СССР у яго засталіся жонка і дачка. Забраць іх у Румынію ён не мог (бальшавікі не дазвалялі маладым дыпламатам выязджаць за мяжу з сям'ёй). У гэты час уцякач шмат пісаў, публікаваў антысавецкія і антысеміцкія артыкулы. Цікава, што Леў Троцкі, характарызуючы паводзіны Бутэнкі, адзначыў: «Вельмі значная частка сталінскага апарата складаецца з фашыстаў, якія яшчэ не ўсвядомілі, што яны з'яўляюцца такімі».

Падчас Другой сусветнай вайны Бутэнка працаваў вайсковым цэнзарам. Пры гэтым ён шматкроць прапаноўваў свае паслугі італьянскім уладам на акупаванай тэрыторыі Украіны. Украінскія эмігранты, нягледзячы на тое, што ўраджэнец Данбаса шукаў з імі кантакту, не прынялі яго. Падчас вайны гэты чалавек атрымаў ліст ад свайго цесця, з якога даведаўся, што жонка Бутэнкі была арыштаваная НКУС, а дачка накіраваная ў Ленінград, дзе відавочна загінула ад голаду ў час блакады. Далейшы лёс былога савецкага амбасадара ў Бухарэсце Фёдара Бутэнкі невядомы.

**Фота з архіву аўтара**

# БагатаДата

**У гэтыя дні круглую дату святкуе знаны мастак Алесь Пушкін, а вёска Лошыца ў мінулым увайшла ў склад Мінска. Што яшчэ адбылося цікавага — у нашым традыцыйным аглядзе.**

## 1 жніўня

**1960.** У Мінску нарадзіўся Віктар Бухвал, чэмпіён свету па самба.



## 2 жніўня

**Дзень дэсантнікаў і сілаў спецыяльных аперацый у Беларусі.** А яшчэ — **Дзень чыгуначніка,** які святкуецца ў першую нядзелю жніўня.

## 3 жніўня

**Дзень кавуна.**



## 4 жніўня

**1945.** Заснаваны Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску, а таксама яго філіялы ў Вязынцы і Ляўках.

## 5 жніўня

**Міжнародны дзень святлафора.**



**1955.** У Гомелі нарадзілася гісторык музыкі, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава. Выявіла больш за 50 помнікаў айчыннага музычнага мастацтва, у тым ліку оперу «Агатка, ці Прыезд пана» Яна Давіда Голанда на лібрэта Мацея Радзівіла. Праз цяжкую хваробу даследчыца амаль цалкам паралізаваная, але працягвае пісаць (надыктоўваць) «Энцыклапедыю музыкантаў Беларусі XVI–XIX стст.».

## 6 жніўня

**Дзень беларускага кнігадруку. Сусветны дзень барацьбы за забарону ядзернай зброі.**

**1840.** У маёнтку Калацічы Глускага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся паэт і перакладчык Альгерд Абуховіч. Псеўданім — Граф Бандынэлі, бо меў далёкую сваяцкую сувязь з гэтым арыстакратычным італьянскім родам. Адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры. Пры жыцці не друкаваўся, да нас дайшлі фрагменты ягоных твораў. Перакладаў на беларускую мову Крылова, Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча, Сыракомлю, Гётэ, Шылера, Гюго, Байрана, Дантэ.

**1965.** У пасёлку Бобр Крупскага раёна на Міншчыне нарадзіўся мастак Алесь Пушкін. Апрача стварэння карцін, займаецца роспісам беларускіх храмаў. Таксама вядомы як перформер. Ладзіў у тым ліку палітычныя арт-акцыі. Так, у 1999 годзе на пяцігоддзе кіравання Аляксандра Лукашэнкі прыкаціў да Адміністрацыі прэзідэнта чырвоную тачку з гноем, на якім ляжалі дэнамінаваныя беларускія грошы і шыльда з падзякай Лукашэнку за працу.

## 7 жніўня

**Міжнародны дзень піва.**



**1910.** У вёсцы Вяшэўка Ігуменскага павету нарадзіўся беларускі празаік Якуб Ермаловіч. Арыштаваны 2.10.1936; асуджаны да зняволення. У 1939 годзе прысуд адменены, вызвалены быў толькі ў чэрвені 1941 г. (са зняццем судзімасці). У перыяд нямецкай акупацыі жыў у вёсцы Вяшэўка. З верасня 1944 г. настаўнік беларускае мовы і літаратуры ў Беразіне, потым у сярэдняй школе ў вёсцы Пагост Бярэзінскага раёна. У 1959 годзе завочна скончыў Магілёўскі пединстытут. Член СП БССР з 1961 года. Пахаваны ў вёсцы Вяшэўка.

**1915.** Спынілася выданне газеты «Наша ніва». Выдавалася ў Вільні па-беларуску ў перыяд 10(23).11.1906 — 7(20).8.1915. Друкавалася кірыліцай, да 18(31).10.1912 таксама і лацінкай. Звычайны тыраж складаў 4.5 тысячы асобнікаў. Выхад газеты быў спынены ў сувязі з набліжэннем расійска-нямецкага фронту да Вільні.

**1955.** У Малахоўцы Баранавіцкага раёну нарадзіўся беларускі паэт Алесь Жамойцін (Аляксандр Пятровіч Жамойцін.

**1980.** У Мінску нарадзіўся чэмпіён свету па тайскім боксе і кікбоксінгу Дзмітрый Шакута.

**1985.** Вёска Лошыца ўвайшла ў гарадскую рысу Мінска. Здаецца, мінула ўсяго 35 гадоў, а гэта ўжо звыклы сталічны мікрараён.

**1995.** Памёр беларускі паэт і грамадскі дзеяч Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1258

Падпісана да друку 30.07.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.